Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 31 (4975) 6 жніўня 2010 г.

# У нумары:





Споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння народнага артыста СССР Генадзя Цітовіча — знакамітага беларускага музычнага дзеяча, хормайстра, фалькларыста. У 1952 годзе па распараджэнні ўрада нашай рэспублікі быў створаны Дзяржаўны народны хор БССР. Менавіта Генадзь Цітовіч стаў яго заснавальнікам і на многія дзесяцігоддзі — мастацкім кіраўніком. Вядомы харавы дырыжор за выдатныя заслугі ў развіцці беларускага савецкага мастацтва, стварэнні калгасных народных харавых калектываў меў на той час званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.



# Бацька нацыянальнага хору

Нараджэнне новага прафесійнага калектыву адбылося перш за ўсё дзякуючы творчаму росту калектываў мастацкай самадзейнасці, многія з якіх сталі вядомымі і папулярнымі не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі, пры правядзенні масавых святаў песні, аглядаў, конкурсаў. Вялікае значэнне для развіцця створанага ў пасляваеннай Беларусі Дзяржаўнага народнага хору, для папаўнення яго рэпертуару новымі апрацоўкамі нацыянальнага фальклору мела навукова-даследчая праца Генадзя Цітовіча, які знаходзіў час і для ўдзелу ў этнаграфічных экспедыцыях.

Яркасць асобы і незвычайны талент Генадзя Цітовіча запомніліся на ўсё жыццё яго спадвіжнікам — артыстам усіх трох жанраў: вакальна-харавога, аркестравага і танцавальнага, — многія з якіх прыйшлі з асяроддзя мастацкай самадзейнасці Беларусі. Я вельмі ўдзячны лёсу, што меў магчымасць стаць артыстам гэтага хору з першых жа дзён яго існавання, скончыўшы вакальнае аддзяленне Мінскага музычнага вучылішча імя М. Глінкі. Што датычыць мастацкага кіраўніцтва, інтэрпрэтацыі той ці іншай песні, асабліва народных жанравых песень і цэлых праграм, дык я дагэтуль успамінаю ўрокі нашага мастацкага кіраўніка: ніхто не мог лепш так захапляльна і вобразна падаць, расказаць і паказаць, як гэта рабіў ён сам. Для многіх артыстаў калектыву гэта была выдатная школа, якая і мяне падрыхтавала да самастойнай творчасці.

Заняткам з хорам, асабліва рэпетыцыям, ён аддаваўся да самазабыцця. Памятаю, як аднойчы, захапіўшыся раскрыццём вобразнага зместу твора, нюансаў пры спяванні асобных фраз, а то і слоў, Генадзь Іванавіч настолькі трапна і натхнёна паказваў заціханне мелодыі, сыход гучання хору, падтрымаў не толькі дырыжорскім жэстам, але і павольным адступленнем са сцэны… да самага краю аркестравай ямы! Перапалоханыя артысты былі ўжо гатовыя кінуцца на ратаванне свайго мастацкага кіраўніка.

Трэба адзначыць, што Генадзь Іванавіч заўсёды адводзіў заўважнае месца ў рэпертуары хору творам кампазітараў-удзельнікаў мастацкай самадзейнасці: Міхася Шуміліна, Мар’яна Наско, Юрыя Семянякі ды іншых, многія з якіх сталі прафесіяналамі, а іх песні пачалі ўспрымацца як сучасныя беларускія народныя.

І яшчэ, Генадзь Іванавіч увёў у практыку новую традыцыю, якая вымагала дасканалай падрыхтоўчай працы ад дырыжораў: каб на працягу ўсяго канцэрта яны не з’яўляліся на сцэне. Гэта накладала вялікую адказнасць на кіраўнікоў і на кожнага артыста, а ў выніку прыводзіла выканаўцу да непасрэднага кантакту з гледачом, спрыяла больш яркаму выяўлянню творчай індывідуальнасці кожнага ўдзельніка канцэрта.

У 1955 годзе праводзілася Дэкада беларускага мастацтва і літаратуры ў Маскве, дзе калектыў наш быў удзельнікам многіх канцэртных праграм. Выступалі мы і ў самой савецкай сталіцы, і ў Падмаскоўі, амаль на ўсіх прэстыжных канцэртных пляцоўках, у тым ліку і ў Крамлі. Удзел хору ў канцэрце, які праходзіў у Георгіеўскай зале Крамля, помніцца асабліва, бо да гэтага нас спецыяльна рыхтавалі: не толькі на ўзроўні мастацкага майстэрства, але і ў сэнсе агульнаэстэтычным, этычным, палітычным. Адметна, што ў праграме заключнага канцэрта Дэкады, які адбыўся 21 лютага 1955 года ў Вялікім тэатры Саюза ССР, менавіта Дзяржаўнаму народнаму хору БССР прапанавалі выканаць найбольшую колькасць нумароў. А менавіта — беларускія народныя песні “Рэчанька”, “Купалінка”, “Ой, рана на Івана”, беларускія народныя танцы “Крыжачок”, “Лядкаўская кадрыля”, песню і танец “Бульба”, песню Дзмітрыя Лукаса “Узнялося сонца яснае”.

Пасля такіх паспяховых выступленняў хору Цітовіча (ужо ў той час так называлі наш калектыў) прапанавалі рыхтавацца да ўдзелу ў V Міжнародным фестывалі моладзі і студэнтаў у Варшаве. Таму, вярнуўшыся з Дэкады, хор без паслаблення пачаў рыхтавацца да наступных конкурсных аглядаў. А конкурсных таму, што да ўдзелу ў Міжнародным фестывалі рыхтаваліся вельмі многія прэтэндэнты — калектывы з усіх савецкіх рэспублік. Але пасля шэрага новых канцэртаў, партыйных і непартыйных праглядаў Дзяржаўны народны хор БССР пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча атрымаў высокую адзнаку, мы перамаглі ўсіх канкурэнтаў і сталі ўдзельнікамі фестывалю, які праходзіў у Варшаве 1955 года.

> Да ўдзелу ў Міжнародным фестывалі рыхтаваліся вельмі многія прэтэндэнты — калектывы з усіх савецкіх рэспублік. Але пасля шэрага новых канцэртаў, партыйных і непартыйных праглядаў Дзяржаўны народны хор БССР пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча атрымаў высокую адзнаку, перамог усіх канкурэнтаў і стаў удзельнікамі фестывалю, які праходзіў у Варшаве ў 1955 годзе.

Так было без малага шэсць дзесяцігоддзяў таму. Так і цяпер, калі выпеставаны “бацькам хору” калектыў дасягнуў вышыняў прафесіяналізму і творчага палёту, ганараваны пачэснымі званнямі “нацыянальны” і “акадэмічны”. Сённяшнія сродкі масавай інфармацыі часта адзначаюць, што Генадзю Іванавічу з выбарам пераемніка вельмі пашанцавала. Ён перадаў хор у надзейныя рукі таленавітага маэстра Міхася Дрынеўскага. Мастацкае майстэрства ўсіх падраздзяленняў Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча настолькі высокае, што ўражанні ад яго канцэртаў простымі словамі амаль немагчыма перадаць. Як сказана ў артыкуле “Музыка сонечных сэрцаў” Святланы Берасцень, змешчаным у “ЛіМе”з нагоды заключнага канцэрта XXXIV Міжнароднага фестывалю мастацтваў “Беларуская музычная восень”: “Калі на сцэне гэты хор, зала нібы напаўняецца сонечным святлом, ззяе сотнямі радасных усмешак”. А ў самой праграме адзначаны “духоўна-эстэтычнае багацце, жанравая і тэматычная разнастайнасць, глыбінная народная філасофія і аптымізм беларускай песні, спеўны талент выканаўцаў.

Калі ў чэрвені 1986-га не стала Генадзя Іванавіча Цітовіча, наш вядомы паэт Уладзімір Карызна напісаў пранізлівы твор “Песня памяці”. І ў гэтым вершы пра вялікага чалавека, Музыканта, без якога асірацела беларуская песня, ёсць радкі:

За Вас заўсёды
Песня гаварыла
І будзе вечна
Вамі гаварыць…

Не, песня беларуская не асірацела, пакуль жыве імя Генадзя Цітовіча. А яно жыве: у гісторыі і ў назве вялікага хору, у справах вучняў і паслядоўнікаў Генадзя Іванавіча.

Сяргей ГАЛАЎКО,
заслужаны работнік культуры БССР,
прафесар Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта

На здымку: Генадзь Цітовіч, пачатак 1980-х. Фота з Дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва.

Літ-абсягі

# Сказаць пра сябе

Сяргей Галаўко, заслужаны работнік культуры БССР, прафесар кафедры раманскіх моў Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта, — даўні сябар нашай газеты, няштатны аўтар "ЛіМа", сталы падпісчык і чытач. Днямі Сяргей Аляксандравіч завітаў у рэдакцыю, але прыйшоў не з чарговым рукапісам, а з кнігай, што выйшла ў выдавецтве "Чатыры чвэрці". "Служэнне дзвюм музам" С. Галаўко сталася працягам выдавецкай серыі "Асоба і час", заснаванай у 2008 годзе, а для 82-гадовага аўтара, у якога нямала друкаваных прац на тэмы лінгвістыкі, вышэйшай адукацыі, музычна-эстэтычнага выхавання, — дэбютам у жанры мемуарыстыкі.

Прыступкай да гэтага дэбюта можна лічыць публікацыі ў перыёдыцы, прынамсі, у "ЛіМе", дзе Сяргей Аляксандравіч дзяліўся ўспамінамі пра гады працы ў легендарным хоры пад кіраўніцтвам Генадзя Цітовіча ці распавядаў пра унікальны мужчынскі ансамбль прафесароў, дацэнтаў, выкладчыкаў "Чырвоны гваздзік", які С. Галаўко стварыў у БДЭУ, колішнім "наргасе", без малога чатыры дзесяткі гадоў таму.

Кніга выйшла ў аўтарскай рэдакцыі, што захоўвае своеадметнасць мыслення, пісьмовага стылю і нават асаблівасці жывой гутарковай беларускай мовы гэтага незвычайнага чалавека, у лёсе якога шчасліва спалучыліся яркія прыродныя здольнасці, творчыя захапленні, педагагічны і арганізатарскі талент, адказнасць за прафесію, бязмежная душэўная шчодрасць і аптымізм. Піша С. Галаўко (між іншым, правільнае радзіннае прозвішча, на што звернута ўвага і ў кнізе, — Галоўка) шчыра, захоплена і проста, хаця фабула яго лёсу насычаная складанымі, часам вельмі драматычнымі, паваротамі. Жыццё ў заходнебеларускай вёсцы непадалёк ад Баранавічаў. Далучэнне да музычных традыцый сям'і. Прыгоды дзяцінства з рамантычнымі паходамі "ў нач-ное". Кур'ёзны выпадак у школе, з-за якога хлапчука жорстка пакараў на ўроку бацюшка і адлучыў яго ад спявання ў царкоўным хоры... Няспраўджаная мара стаць афіцэрам і марная спроба асвоіць прафесію кіроўцы грузавіка. Візіт у Ленінградскую кансерваторыю, пачатак навучання ў Мінскім музычным вучылішчы імя М. Глінкі, "паралельнае" рашэнне атрымаць вышэйшую філалагічную адукацыю, каб сур'ёзна займацца беларускай мовай і літаратурай, і — неспадзяванае, як у казцы, залічэнне ў тагачасны "ін'яз" на аддзяленне французскай мовы з адначасовым прыёмам на працу ў нованароджаны Дзяржаўны народны хор БССР. Выкладанне рускай мовы ў Ліёнскім універсітэце і стварэнне там спеўнага калектыву... Фотаздымкі дапаўняюць аповед пра доўгі шлях служэння дзвюм музам, дзе занатаваныя "толькі самыя выразныя контуры, факты, эпізоды" і развагі аўтара пра ўласны досвед, пра вучэбна-выхаваўчы працэс і ролю ў ім эстэтычнага, асабліва — музычнага складніка.




Ідэю далучэння студэнтаў і педагогаў да мастацкай творчасці, асабліва ў "рацыяналістычнай" ВНУ, падзяляе аўтар прадмовы да кнігі, рэктар БДЭУ, доктар эканамічных навук, прафесар Уладзімір Шымаў, зазначаючы, што С. Галаўко, які ўжо амаль 50 гадоў выкладае тут, "сапраўды заслужыў права сказаць пра сябе і сваіх таленавітых таварышаў, пра свае прафесійныя, выкладчыцкія і мастацкія набыткі".

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: вокладка кнігі "Служэнне дзвюм музам".

Арт-лінія

# Ад нігілізму да салоннасці

У красавіку 2010 года ў маскоўскім Дзяржаўным цэнтральным музеі сучаснай гісторыі Расіі прайшла выстаўка "Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі", якая ўяўляе сабой частку шырокага даследавання творчых працэсаў у краіне і вызначае прастору беларускага мастацтва XXI стагоддзя. У мінскім Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ўвазе гледачоў прапанаваны графічны кавалак выстаўкі.



"З найбольш значных выразных якасцей графічнага майстэрства Рамана Сустава, Андрэя Басалыгі, Юрыя Алісевіча, Вольгі Нікішынай, Таццяны Радзівілкі, Сафіі Піскун, Любові Абрамавай, Настассі Дунец вылучаюцца глыбокі аналіз гісторыі і духоўнага жыцця беларускага народа, відавочная інтэлектуалізацыя творчасці, аналітычнасць, зварот да лагічных канструкцый у кампазіцыях.

У маладых графікаў сфарміраваўся асабісты аўтарскі стыль, у сваіх кампазіцыях яны імкнуцца да абагульненняў, філасофскіх разважанняў, дыялога з гледачом. У іх работах адсутнічаюць агрэсія, нігілізм, павярхоўнасць, салоннасць і рэфлексіўнасць. У экспазіцыі можна ўбачыць пранізлівыя, багатыя на эмацыянальныя адценні, не падобныя да звычайнай акадэмічнай штудыі работы. Мастакі добра валодаюць традыцыямі класічнай школы, дэманструюць выдатныя выканальніцкія якасці і цікавыя канцэптуальныя знаходкі.

Многія ўдзельнікі выстаўкі адзначаны прэстыжнымі міжнароднымі ўзнагародамі. Так, Павел Татарнікаў — адзіны ў Беларусі ўладальнік двух прызоў "Залаты яблык" біенале кніжнай ілюстрацыі (Славакія), Юрый Якавенка атрымаў 1-ю прэмію ІІ-й Міжнароднай біенале графікі "Josep de Ribera" (Іспанія), Ганна Ціханава стала пераможцам V Міжнароднага конкурсу экслібрыса "Homage to Astor Piazzolla" (Аргенціна), Алена Шычко заваявала прыз Міжнароднага конкурсу міні-прынта "М. К. Чурлёніс-125" (Літва)".

Міхаіл БАРАЗНА,
Наталля ШАРАНГОВІЧ

На здымку: адна з графічных работ з экспазіцыі выстаўкі "Belart.by. Маладыя мастакі Беларусі".

Повязі

# Італьянскі нюанс

Другі месяц у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі працягваецца ІІ Мінская міжнародная біенале сучаснага жывапісу "Colorfest". Сярод краін-экспанентаў — Беларусь, Латвія, Літва, Італія, Расія, Украіна, Эстонія. Тры галерэі ("Ракурс", "Атрыум", "Лабірынт") прынялі без малога паўтары сотні работ удзельнікаў выстаўкі, наведаць якую можна да 13 жніўня. Асобны вернісаж, праведзены ў межах біенале, быў прысвечаны яе ганароваму госцю, само імя якога падаецца цудоўнай часцінкай арт-прасторы: Рафаэль дэ Роза.

Галерэя "Панарама" знаходзіцца ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі на 22-м паверсе. І размяшчэнне менавіта ў ёй персанальнай экспазіцыі вядомага італьянскага жывапісца Рафаэля дэ Розы сталася сапраўды сімвалічнай адметнасцю. Арганізатары выстаўкі "Colorfest" — НББ і грамадскае аб'яднанне "Міжнародная гільдыя жывапісцаў", — такім своеасаблівым узнясеннем работ італьянскага госця нібы падкрэслілі вышыню яго творчага ўзроўню. Нагадаем, што высокае майстэрства Рафаэля дэ Розы было адзначана Гран-пры першай Мінскай міжнароднай біенале сучаснага жывапісу "Colorfest-2008".

А сёлета ў прасторы гэтага міжнароднага праекта італьянскія мастакі выглядаюць вельмі прадстаўніча: экспануецца каля 70 іх работ. Выкананыя ў розных тэхніках, адметныя аўтарскай манерай, яны разам з творамі іншых удзельнікаў выстаўкі складаюць, безумоўна, даволі паказальны адбітак тых з'яў і тэндэнцый, якія ёсць у бязмежным сённяшнім свеце жывапісу. Дарэчы, для асабліва дапытлівых наведвальнікаў супрацоўнікі бібліятэкі зрабілі ў колцавым калідоры 3-га паверха кніжную выстаўку "Жывапіс без межаў", прысвечаную знакавым пластам разнастайнай сусветнай культуры, аб'яднаным двума агульнымі словамі: сучаснае мастацтва.



Старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў, загадчык галерэйна-выставачнага аддзела НББ, куратар праекта "Colorfest" Фёдар Ястраб і яго спадзвіжнікі бачаць у арганізацыі біенале вялікі сэнс. Такія выстаўкі спрыяюць стварэнню станоўчага іміджу Беларусі на еўрапейскай мастацкай прасторы, падтрымліваюць аўтараў, чые работы вызначаюцца інавацыйнымі якасцямі, артыстызмам.

Для мастакоў "Colorfest" важны асабліва, бо дапамагае ладзіць стасункі між калегамі, прафесійна аналізаваць і параўноўваць творы, якія знаходзяцца побач, а значыць — успрымаць іншае мастацтва і вучыцца адно ў аднаго на свежых прыкладах. А для дасведчаных аматараў жывапісу і звычайных наведвальнікаў такія выстаўкі — магчымасць убачыць сённяшнія еўрапейскія ўзоры ў гэтым зменлівым жанры.

Лана ІВАНОВА

На здымку: "Казка пра Эзопа" (палатно, алей; 2007 год).

Фота аўтара

З-пад пяра

У Нацыянальным гістарычным музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстаўка «Памяць пра Грунвальдскую перамогу», прысвечаная 600-м угодкам Грунвальдскай бітвы. Выстаўка арганізавана Пасольствам Літоўскай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь. На дваццаці стэндах будзе выразна раскрыта перадгісторыя бітвы, складаная міжнародная сітуацыя тых часоў, пададзена храналогія і тактыка ваенных дзеянняў, а таксама наступствы і гістарычнае значэнне перамогі. Пазней выстаўка будзе экспанавацца ў Беларусі, на Украіне, у Расіі, Чэхіі і Аўстрыі, бо народы гэтых краін бралі ўдзел у Грунвальдскай бітве. Выстаўка — чарговая спроба аб'яднаць гістарычную памяць гэтых дзяржаў.

Станіслаў МІКАЛАЕЎ

70-годдзе гераічнай абароны горада Магілёва, якое будзе адзначацца праз год, дало новы імпульс патрыятычнаму выхаванню дзяцей і падлеткаў. У час летніх канікул Магілёўскі гарадскі савет ветэранаў перанёс сваю працу ў загарадныя лагеры адпачынку школьнікаў. Часта наведваецца ў дзіцячыя аўдыторыі падпалкоўнік у адстаўцы М. Лошнец. Нядаўна ён разам з пісьменнікам Віктарам Арцём'евым сустрэўся са школьнікамі ў летнім лагеры адпачынку "Сосны" ААТ "Хімвалакно".

Віктар ІВАНОЎ

Заўтра, 7 жніўня, у Доме кнігі "Светач" адбудзецца аўтограф-сесія Януша Вішнеўскага. Вядомы пісьменнік сучаснай Польшчы — аўтар нашумелага рамана "Адзінота ў Сеціве". Згаданы яго раман адразу пасля выхаду трапіў у спісы бестселераў. Лічыцца, што ў сваіх кнігах аўтар паказаў выключнае веданне жаночай псіхалогіі. Цяпер ён жыве ў Франкфурце-на-Майне, займаецца малекулярнай біялогіяй. Таму сам Вішнеўскі лічыць сябе навукоўцам, а не пісьменнікам. Тым не менш, робіць досыць упэўненыя крокі ў кніжным бізнесе. Раман экранізаваны, фільм, па сцвярджэннях знаўцаў, пераўзыходзіць па папулярнасці галівудскія навінкі. А ў мінулым 2009 годзе на тэатральным фестывалі "Балтыйскі дом" (Санкт-Пецярбург) паводле рамана ўпершыню быў пастаўлены спектакль.

Рына НОВАК

Выстаўка габелена Наталлі Лісоўскай "Знакі роднай зямлі" адкрыецца 10 жніўня ў малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (г. Мінск). У сваёй творчасці мастачка выкарыстоўвае раслінныя і архітэктурныя матывы, складаныя кампазіцыі яркіх па каларыце твораў часам маюць калажны характар. Габелены сатканы ўручную з выкарыстаннем фактуры, а таксама воўны, сінтэтыкі, лёну, сізаля, шкла, гліны і г. д. У экспазіцыі прадстаўлены работы розных гадоў. Дарэчы, работы Наталлі Лісоўскай знаходзяцца ў калекцыях Віцебскага мастацкага музея, Арт-цэнтра Марка Шагала, Наваполацкага музея гісторыі і культуры, прыватных збораў Беларусі, Польшчы, Германіі, ЗША і інш. Мастачка распрацавала і ўкараніла на беларускіх прадпрыемствах вялікую колькасць малюнкаў і структур тканін.

Ул. інф.

№ 31 6 жніўня 2010 г. ЛіМ

# Бондарства — драўлянае рамяство

Існуе павер'е: калі выкарыстаць пры вырабе драўлянага посуду меркі заказчыка (сажань, аршын, плячо, далонь), тады прадукт, змешчаны ў посудзе, пачне рэзаніраваць з арганізмам гэтага чалавека. І прынясе яму здароўе і радасць. Цяпер нават не ўзнікае пытання: ці патрэбна бондарства. У XXI стагоддзі прыйшло асэнсаванне неабходнасці і каштоўнасці рэчаў дамашняга побыту, створаных рукамі майстра. Нават тэрмін у Інтэрнеце ёсць — handmade — ручная праца, дзе безліч фантастычна прыгожых і цікавых, створаных менавіта ўручную, работ майстроў ці аматараў, мастакоў і проста неабыякавых працавітых і таленавітых людзей.



## Гісторыя...

У кожным рэгіёне Беларусі існавала безліч тэрмінаў, назваў прадметаў хатняга ўжытку, звязаных з бондарствам. Да прыкладу, на Брэстчыне драўляная ёмістасць для напояў завецца барыла, а маленькая — барыльца. Цеста замешваюць у кадках. Гэтак жа завецца посуд для засолкі і для захоўвання мёду. Квас і піва трымаюць у кумгане або кухлі — бочачцы з носікам і горлачкам. Для захоўвання бутэлек з віном прызначаны бар-кумган, свайго роду драўляны халадзільнік. Балея, хеўра — гэта лазневы посуд. На Гродзеншчыне цеста раней мясілі ў дзежках, а масла збівалі ў бойках ці маслабойках. Кожны з чытачоў узгадае свае мясцовыя назвы драўляных бондарскіх вырабаў.

Калі звярнуцца да першакрыніц, даведаемся, што бондарства як народны промысел, вядомае яшчэ ў Старажытнай Грэцыі. Гэта старадаўняе рамяство вырабу з драўніны розных ёмістасцей для захоўвання і дастаўкі вадкіх і паўвадкіх прадуктаў — ад маленькіх пасудзін да вялізных бочак, рэшткі якіх былі знойдзены археолагамі ў пластах грунту XI—XIV стагоддзяў. Зрэшты, гэта не рэлікты накшталт вымерлых мамантаў. І сёння людзі сталага веку памятаюць кірмашы бондарскіх вырабаў, што яшчэ ў 40—50 гадах мінулага стагоддзя праходзілі на рынкавых пляцоўках у нашых мястэчках.

У Беларусі першыя бондары з'явіліся ў X—XI стагоддзях і былі практычна ў кожнай вёсцы. Гэтае старажытнае рамяство атрымала развіццё і доўгі час было ў пашане ў вёсцы Рылавічы, якая знаходзіцца ў 14 км ад г. Іванава, амаль на мяжы з Пінскім раёнам. Бондары з Рылавічаў яшчэ шмат стагоддзяў назад пастаўлялі посуд для польскага каралеўскага двара і парыжскіх кірмашоў. У кожнай вёсцы гаспадыні ссыпалі збожжа ў вялікія драўляныя бочкі, захоўвалі квас у драўляным посудзе, салілі грыбы і агуркі ў кадушках і хадзілі даіць кароў з драўлянымі даёнкамі.

У святочныя дні на пінскім і іванаўскім кірмашах цясніліся фурманкі, нагружаныя вырабамі рылавіцкіх майстроў. Тавар не залежваўся. Нават самыя прыдзірлівыя гаспадыні не знаходзілі ў ім заган. І пра якасць вырабу меркавалі не толькі па тым, будзе ці не будзе ён цячы, а пільна ўзіраліся, наколькі шчыльна падагнаныя адзін да аднаго клёпкі і донца. Надавалі значэнне і знешняму выгляду — вырабу.

Рылавіцкія бондары рабілі вырабы на заказ для Пінскай фабрыкі сувеніраў, а бочкі — для вінзаводаў.

Бандарнае майстэрства передавалася ў вёсцы Рылавічы з пакалення ў пакаленне. Далёка за межамі раёна былі вядомыя імёны такіх майстроў, як Сцяпан Феадосавіч Корсак, Васіль Аляксандравіч Хлус, Іван Аляксандравіч Хлус, Апанас Якаўлевіч Коўбель, Андрэй Данілавіч Стойка, Макар Іванавіч Казак, Сцяпан Мінавіч Свірэпа, Арцём Міхайлавіч Свірэпа, Апанас Максімавіч Трапачка.

## ... і сучаснасць

Час няўмольны. Бондары старэюць, шмат хто пайшоў з жыцця. Сёння ўжо практычна не засталося дзеючых майстроў-бондараў. Сёлета аднаму з найстарэйшых майстроў бандарнай справы Сяргею Свірэпу споўнілася 86 гадоў. Але і зараз ён з задавальненнем займаецца ўлюбёнай справай. І быў бы ён апошнім бондарам, калі 6 дзевяць гадоў таму супрацоўнікі аддзела культуры пад кіраўніцтвам яго начальніка Уладзіміра Шаляговіча не стварылі ў горадзе Іванаве школу бондарства.

Школе бондарства ўжо 8 гадоў, і яна па-ранейшаму застаецца унікальнай. За адраджэнне старажытнага рамяства ўзяўся жыхар Іванава Васіль Дзяркач, які лічыў, што саліць агуркі і квасіць капусту трэба абавязкова ў драўляных бочках. Ён жа і стаў першым дырэктарам школы, якой зараз кіруе яго жонка, дакладней, ужо ўдава — Тамара Дзяркач.

У школу прымаюцца навучэнцы сёмых — дзевятых класаў агульнаадукацыйных школ горада Іванава. Па трохгадовым курсе навучання ў школе займаюцца каля паўсотні навучэнцаў. Хлопцы вучацца не толькі вырабляць бандарны посуд, але і спазнаюць сакрэты яго дэкаратыўнага аздаблення, вывучаюць тэарэтычныя дысцыпліны.

Чаму хлапчукоў бяруць толькі з сёмага класа? Усё проста: у шасцікласнікаў яшчэ не хопіць сілы трымаць у руках сякеру. Дзяўчынкі таксама прасяцца. І школа гатовая ўзяць на навучанне слабы пол, якому можна дарычыць дэкаратыўнае аздабленне. Акрамя тэхналогіі вырабу посуду, хлопцаў знаёмяць з матэрыялазнаўствам, дэкаратыўным аздабленнем посуду, чарчэннем, маляваннем і жывапісам ды кампазіцыяй.

Школа бондарства дапамагае вырашыць адну з важных сацыяльных праблем: яна дае жывую справу ў рукі падлеткаў. Сярод навучэнцаў школы нямала дзяцей з няпоўных сем'яў і з сем'яў, якія знаходзяцца ў сацыяльна небяспечным становішчы. Менавіта ў школе хлопцы даюць волю сваёй фантазіі, атрымліваюць станоўчыя эмоцыі, адчуваюць сваю запатрабаванасць. Можа, і не ўсе выпускнікі школы ў далейшым будуць займацца бандарным рамяством, але навыкі працы з дрэвам, практыка вырабу бандарнага посуду ў іх застануцца. І усё гэта спатрэбіцца ў іх далейшым жыцці.

— У сярэдзіне 1990-х мінулага стагоддзя мастацкая майстэрня страціла заказы, не мела прыбытку, таму ў аддзеле культуры Іванаўскага райвыканкама вырашылі перапрафіліраваць яе ў школу бондарства, — успамінае Тамара Іванаўна. — Праграму і навучальны план прыйшлося зацвярджаць у шасці міністэрствах — працы, фінансаў, юстыцыі, адукацыі, культуры і эканомікі. Потым адрамантавалі будынак, усталявалі бандарныя крамы, замовілі на заводзе прылады...

Як ні дзіўна, патрэбных "жалязякі" на заводскіх станках не атрымоўвалася. Прыйшлося звяртацца да старэйшага бондара з вёскі Рылавічы Іванаўскага раёна Сяргея Свірэпы. Ён сам зрабіў прылады з аўтамабільных рысор.

## А вы не слабакі?..

Аматарам, якія хочуць распачаць бондарскую справу, трэба мець не толькі інжынерныя і канструктарскія навыкі, але найперш станкі ды прыстасаванні для майстэрні. А па-другое, любая новая рэч спачатку матэматычна пралічваецца на паперы, каб строга вытрымаць усе параметры будучага вырабу. З такой жа дакладнасцю, каб не парушыць структуру драўніны, нарыхтоўваюцца і калодкі, якія затым сякуцца на дранкі для клёпак.

На клёпкі для бочак бондары не выкарыстоўваюць гатовыя дошкі. Аказваецца, калі рэжуць дошкі, парушаецца тэкстура драўніны. Унутр трапляюць гніласныя мікробы, і бочка з такога дрэва доўга не праслужыць. Таму трэба карыстацца выключна сякерай, стругам і яшчэ дзесяткамі прылад.

А пачынаецца ўсё, зразумела, з нарыхтоўкі драўніны, прычым самай рознай — ад цвёрдапароднай да найбольш мяккай асіны. І кожнай пародзе ў бондара — сваё прызначэнне. Скажам, для салення агуркоў бочка, як правіла, павінна быць з дуба, ў ёй прадукты доўга захоўваюцца і маюць выдатныя смакавыя якасці. Калі для квашанай капусты — пажадана з асіны. Таксама з асіны альбо дубу вырабляецца так званая двухдонка — бочачка з двайным донцам для квасу. Затое для захоўвання мёду найлепш падыходзіць бочачка-кадушачка з ліпы — ліпа паху не мае. А вось сыравіна з клёну, якая даволі «капрызлівая» да вільгаці, добра паслужыць для цукру, мукі ці круп. Так рабілі нашы прашчуры.

Сувеніры накшталт лыжак зараз робяць з таполі. Піць квас лепш з ліпавага збана, чым з дубовага. Для сыпкіх прадуктаў і збожжа можна выкарыстаць хвою. Клёпкі ў кадках для цеста чаргуюць — дубовая, хваёвая... Дуб ідэальна падыходзіць для лазневага посуду, вінных бочак і хрысцільняў.

І ўсё ж зрабіць бочку — справа тэхнікі, аднак правільна высушаная драўніна вызначае якасць бочкі. Па традыцыі клёпкі для бочак павінны на працягу трох гадоў захоўвацца пад адкрытым небам. Сонца высушвае драўніну, дождж вымывае цвёрдыя таніны, полісахарыды і глюкозу. Сёння вялікая частка драўніны для бочак высушваецца штучна ў адмысловых печах-сушылках, так што ўся працэдура вырабу бочак займае ад 3 да 12 месяцаў.

Пасля таго як бондар уставіць днішча, рабочыя абручы здымаюцца і на клёпкі набіваюць пастаянныя металічныя абручы. Яны змацоўваюць клёпкі і не даюць бочцы распаўзацца пад цяжарам прадуктаў. І, нарэшце, у адной з клёпак выпілоўваюць адтуліну пад кран.

## Іванаўскія бондары: перспектывы

У Іванаўскай школе бондарства ўжо было сем выпускаў. Шмат хто з выпускнікоў школы пасля яе заканчэння працягвае адукацыю па атрыманай у школе бондарства спецыяльнасці ў сярэдніх спецыяльных навучальных установах і прафесійна-тэхнічных вучылішчах. Менавіта атрыманыя ў школе бондарства веды і навыкі сталі асновай прафесій гэтых хлопцаў. А гэта стварае ўпэўненасць у тым, што ў народнага бандарнага рамяства ёсць будучыня.

Прадукцыя вучняў пакуль не прадаецца, але ўжо школа павінна атрымаць ліцэнзію і адкрыць шапік. Вырашаецца пытанне стварэння вытворчага цэха. Тут упэўненыя, што бочкі, цэбры, маслабойкі пойдуць нарасхват. У малады бондараў ужо ёсць заяўкі на выраб бандарнага посуду па індывідуальных



замовах, працы навучэнцаў і выкладчыкаў школы экспануюцца на раённых, абласных, рэспубліканскіх святах.

З майстэрствам іванаўскіх бондараў змаглі пазнаёміцца ўдзельнікі і госці абласных святаў "Дажынкі" у Іванаве (2002 год), Пружанах (2003 год), Драгічыне (2004 год), Лунінцы (2005 год), Жабінцы (2007 год), Століне (2008 год), міжнароднага кулінарнага свята "Мотальскія прысмакі" (2008, 2009 год), абласных святаў "Турызм. Лета" (2008, 2009 гг.), "Бярэсце — 2009". Працы навучэнцаў школы бондарства былі прадстаўлены на выставах пры правядзенні творчай справаздачы Брэсцкай вобласці ў Мінску (2008 год), свяце сярэднявечнай культуры "Рыцарскі фэст" у Мсціслаўлі (2007 год), падчас Дзён беларускага пісьменства ў Камянцы (2005 год).

Педагагічны калектыў школы сумесна з навучэнцамі адраджае бандарнае рамяство, дае яму новае жыццё і адкрывае яго зноў для людзей. Гэтыя намаганні былі заўважаны кіраўніцтвам краіны: у студзені 2009 года калектыву школы была ўручана спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі "народная творчасць".

Школа бондарства ўключана ў раённы турыстычны маршрут, з'яўляецца аб'ектам для наведвання турыстаў. Асаблівую зацікаўленасць праца школы выклікае ў замежных гасцей. Добрыя водгукі пасля наведвання школы прагучалі ад прадстаўнікоў Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь, дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, удзельнікаў выязнога пасяджэння каардынацыйнай рады Брэсцкага аблвыканкама па ахове гісторыка-культурнай спадчыны, працаўнікоў культуры Любяшоўскага раёна Валынскай вобласці (Украіны) і іншых гасцей.

Зараз мы, здаецца, пачынаем разумець, у чым каштоўнасць сакрэтаў, што перадаваліся са стагоддзя ў стагоддзе. Што ў нашым мітуслівым жыцці можа быць лепш, чым папарыцца ў лазні, замачыўшы духмяны венік у дубовай балеі? А потым абліцца вадой з хваёвага куфля ды выпіць піва са зграбнага кубка, дзе падстаўка выразаная ў выглядзе грыба, а ручка — дакладна як куніца. А грузды, засоленыя ў альховай бочачцы, спрабавалі? Калі не — абавязкова пакаштуйце! Вельмі смачна!

Галіна СУША,
член Беларускага саюза майстроў народнай творчасці

На здымках: вырабы навучэнцаў Іванаўскай школы бондарства; працэс нарыхтоўкі клёпак для бочак.

Фота аўтара

# Зінаіда Камароўская:
# “Музей — гэта мой другі дом”



Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа вядомы з канца 1950-х, а дакладней — з 4 снежня 1959 года, калі ён упершыню адчыніў дзверы для зацікаўленых аматараў беларускай культуры. Што ж уяўляе сабой музей сёння? Чым ён адметны? На гэтыя і многія іншыя пытанні дала адказ дырэктар музея Якуба Коласа, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі “Музейная справа” Зінаіда Камароўская.

— Зінаіда Мікалаеўна, сёння па адрасе вуліца Акадэмічная, 5, мы бачым прыгожы двухпавярховы будынак з шыльдай Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа, увайшоўшы ў які можна сапраўды адчуць не толькі прысутнасць самога пісьменніка, але і характэрны водар чароўнай даўніны. А з чаго ўсё пачыналася?

— З 1927 па 1941 год Якуб Колас жыў у асабістым двухпавярховым драўляным доме па адрасе: Вайсковы завулак, 3. Цяпер гэтае месца знаходзіцца у Цэнтральным дзіцячым парку імя Горкага, паміж планетарыем і колам агляду. Аднак у першыя дні вайны гэты дом згарэў. У снежні 1944 года паэт вярнуўся ў Мінск, канчаткова ж пераехаў сюды ў маі 1945 года. Новым жыллём стаў невялікі драўляны домік, пабудаваны немцамі падчас вайны. У 1947 годзе была зроблена цагляная прыбудова на два паверхі. Пазней, у 1952-м, да 70-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа, на месцы гэтага дома быў пабудаваны двухпавярховы будынак па праекце архітэктара Г. Заборскага.

А стварыць музей паэта было вырашана 16 жніўня 1956 года спецыяльнай Пастановай ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР. Пачалася праца па зборы і сістэматызацыі спадчыны пісьменніка. Першым дырэктарам музея стаў сын паэта Данііл Міцкевіч. І ўжо ў снежні 1959 года музей прыняў першых наведвальнікаў.

— Кожны музей, як і любая іншая ўстанова, вылучаецца з шэрага іншых. А што адметнага ў Коласаўскім музеі?

— Першае, і самае галоўнае, наш музей — гэта дом, у якім жыў пісьменнік. Тут захаваны асабістыя рэчы, інтэр’ер, які быў пры Якубу Коласу. Усё гэта дазваляе кожнаму наведвальніку апынуцца ў незвычайным свеце, адчуць подых таго часу, няўлоўную прысутнасць самога паэта. Лесвіца, па якой крочыў Колас, поручні, да якіх дакраналіся яго рукі, набліжаюць нас да песняра зямлі беларускай. Наведаць наш музей — значыць адчуць ачышчэнне, якое можа паўтарыцца толькі ў тэатры.

— Ці адчуваеце вы канкурэнцыю з боку іншых літаратурных музеяў?

— Не. Мы, наадварот, дапамагаем адзін аднаму, дзелімся вопытам. У нас добрыя сяброўскія адносіны з літаратурнымі музеямі Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Петруся Броўкі, і з Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры.

— Якія з вашых наведвальнікаў лічацца самымі актыўнымі?

— У асноўным мы арыентуемся на школьнікаў, выхаванцаў дзіцячых садкоў. У першую чаргу імкнёмся паказаць Якуба Коласа як шматграннага чалавека, цікавую асобу, і, канечне ж, як пісьменніка. Наведаўшы наш музей, вучні маюць магчымасць паглыбіць веды, больш зацікавіцца творчасцю Якуба Коласа. У экспазіцыі музея змешчаны унікальныя экспанаты, якія дапамагаюць азнаёміцца з жыццёвым і творчым шляхам паэта.

— Усе экспанаты вы можаце паказаць наведвальнікам?

— Вядома ж, не. Наш фонд налічвае каля 35 тысяч адзінак. І ўсё гэта не можа быць выстаўлена ў залах для агляду. Але новая экспазіцыя ахапіла значную частку фонду. Для больш дасканалага і грунтоўнага вывучэння спадчыны паэта робім лакальныя выставы. Яны заўсёды праходзяць вельмі цікава. Так, досыць папулярнымі сталі выставы да 65-годдзя з дня смерці жонкі Якуба Коласа Марыі Дзмітрыеўны, перапіскі паэта з жонкамі яго калег і сяброў, работ мастака Уладзіміра Басалыгі і іншыя. Сёлета мы вырашылі адну залу нашай экспазіцыі перарабіць у выставачную.

— А ці папаўняецца фонд сёння?

— Так. Штогод у наш фонд паступае каля 400 адзінак. Гэта — кнігі, мастацкая Каласіяна, рукапісы самога паэта, якія, на шчасце, адшукваюцца і сёння. Хачу падзякаваць сыну Якуба Коласа Міхасю Канстанцінавічу, які штогод у наш музей перадае вельмі цікавыя экспанаты.

— Аб чым вы марыце для музея?

— У 2012 годзе грамадскасць будзе адзначаць 130-годдзе з дня нараджэння Якуба Коласа. Ужо сёння намі распрацаваны планы мерапрыемстваў па падрыхтоўцы да гэтай даты. Плануем завяршыць капітальны рамонт фасада будынка музея і правесці рэканструкцыю мемарыяльнай сядзібы. Наша мара — усталяваць на тэрыторыі музея скульптурную кампазіцыю “Якуб Колас. Роздум” (скульптар – А. Заспіцкі). Маем надзею, што знойдуцца тыя, хто зможа дапамагчы ажыццявіць нашу задуму. Для людзей, неабыякавых да роднага слова і культуры, сядзіба набыла б сваю непаўторную адметнасць.

Хацелася б, каб да юбілейнай даты была добраўпарадкавана прылеглая да музея тэрыторыя. Створана архітэктурна-мастацкае афармленне пад’езда да музея, вызначана месца для аўтастаянак, ды і ўвогуле, варта было б зрабіць вуліцу Акадэмічная пешаходнай.

Музей мае ў Стаўбцоўскім раёне, на радзіме песняра, філіял, які аб’ядноўвае 4 мемарыяльныя сядзібы. У Смольні ў 1912 годзе адбылася першая сустрэча Янкі Купалы і Якуба Коласа. Скульптурная кампазіцыя, якая адлюстравала б момант гэтай падзеі, з’явілася б выключнай аздобай тэрыторыі.

Вялікіх выдаткаў патрабуе і сядзіба Ласток, дзе прайшлі раннія гады Кастуся, але менавіта ўспаміны пра гэтае месца сталі штуршком да напісання паэмы “Сымон-музыка”. Дом, у якім жыў у тыя часы будучы паэт з бацькамі, захаваўся, і сёння, пасля грунтоўнай рэстаўрацыі, там можна было б стварыць цікавую экспазіцыю па паэме.

— У музеі Якуба Коласа папулярызуюцца беларуская культура і літаратура?

— Кожны год мы праводзім шматлікія мерапрыемствы, у якіх задзейнічаны і дзеці, і моладзь, і старэйшае пакаленне. Гэта выставы, літаратурна-музычныя вечары на адкрытай пляцоўцы, кватэрнікі, дзіцячыя ранішнікі, навуковыя канферэнцыі, выступленні ў дзіцячых прытулках і відэасеансы сучаснай анімацыі. І гэта далёка не ўвесь спіс. Прыемна, што на нашы мерапрыемствы прыходзяць дзеткі ў нацыянальных строях, што яны размаўляюць па-беларуску, танчаць. Гэта вельмі добры выхаваўчы момант і ў той жа час узнаўленне той аўры, якая панавала пры пісьменніку.

Мы падтрымліваем традыцыі гасціннасці Якуба Коласа.

— Апошнім часам досыць папулярнымі сталі “Кватэрнікі ў Якуба”. Раскажыце пра іх.

— Кватэрнікі — своеасаблівыя сустрэчы з творчай моладдзю. У іх прымаюць удзел паэты, барды і, зразумела ж, моладзь. Асабіста мяне здзівіла і парадавала тое, што маладыя людзі актыўна наведваюць такія сустрэчы, хоць аб’яву мы даём толькі ў Інтэрнеце. Увогуле, я для сябе адкрыла моладзь. Гэта вельмі эрудзіраваныя, таленавітыя людзі. І я нават бачу, што ў пэўных момантах адстаю ад іх, таму даводзіцца падцягвацца.

— Навуковая работа праводзіцца выключна супрацоўнікамі музея?

— Да канца гэтага года плануем выдаць інфармацыйнае ілюстраванае выданне “Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа: шлях даўжынёю ў паўстагоддзя”. Міхась Міцкевіч рыхтуе кнігу ўспамінаў “Паэт і насельнікі дома Якуба Коласа: 1944—1956 гг.”. Акрамя гэтага, вядзецца падрыхтоўка каталога рукапіснай спадчыны Якуба Коласа. Штогод, ужо на працягу 25 гадоў, мы праводзім літаратурнае свята “Каласавіны” і навуковую канферэнцыю. З іх 5 гадоў запар канферэнцыя мае назву “Якуб Колас і яго акружэнне”. Сабраныя матэрыялы будуць уключаны ў энцыклапедычны даведнік з такой жа назвай.

Не так даўно намі быў выдадзены дыск “Сымон-музыка” з музычным увасабленнем паэмы кампазітарамі Рыгорам Пукстам, Дзмітрыем Смольскім, Валерыем Івановым, Алегам Ходоскам, Валянцінай Сярых і Яўгенам Глебавым, з ілюстрацыямі да твора, выкананымі Мікалаем Селяшчуком і Барысам Заборавым, з фотаздымкамі родных мясцін паэта, зробленымі Георгіем Ліхтаровічам, з успамінамі Міхася і Данілы Міцкевічаў.

Таксама рыхтуем новы дыск “Новая зямля” ў ілюстрацыях і музыцы”.

— На вашу думку, кіраўніком быць складана?

— Няцяжка працаваць кіраўніком, калі з табой добрая каманда. У нас склаўся вельмі добры калектыў. Гэта людзі, зацікаўленыя працай. Менавіта таму мы выконваем усе планы, навуковая работа ў нас на вышэйшым узроўні. Я кожнага паважаю, стараюся зразумець. Увогуле, я шчаслівы чалавек, бо працую ў музеі. Кожны дзень зараджаюся такой энергетыкай, якая дапамагае пераўжыць усе прафесійныя нюансы.

— Што да асабістага жыцця, ці атрымліваецца яго спалучаць з самааддана працай у музеі?

— У мяне дзве дачкі, абедзве філолагі. Старэйшая пэўны час працавала ў музеі. Зараз — у Нацыянальнай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь. Малодшая дачка працуе ў Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце, кандыдат філалагічных навук. Таму мая праца не можа мне перашкаджаць. Мы, наадварот, разумеем адна адну, дапамагаем, дзелімся цікавымі знаходкамі… А з боку мужа… Ён ужо звыкся з думкай, што музей – гэта мой другі дом.

— Вашы пажаданні сучаснай моладзі?

— Найперш любові да свайго: да мовы, да радзімы. Калі будзеш цаніць тое, што маеш, ганарыцца сваім, будзеш сапраўды шчаслівым чалавекам. Сёння Інтэрнэт займае значнае месца ў жыцці кожнага. Хацелася б, каб моладзь паглыбляла веды і з дапамогай кніг, энцыклапедый, каб гэтыя веды не былі павярхоўнымі.

Гутарыла Кацярына РАБАВА





На здымках: дырэктар Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская; макет помніка Якубу Коласу (аўтары: Андрэй Заспіцкі і Алесь Каструкоў); наведвальнікі музея знаёмяцца з экспанатамі.

Фота Кастуся Дробава

# Прага да гармоніі

Беларуская літаратура — самая “экалагічная” з нацыянальных літаратур. Маленства, юнацтва, а часам і дарослае жыццё беларуса, пераважна спраўджваліся побач з рэчкай, возерам, лесам, лугам…

Працягам традыцый Яна Скрыгана, Янкі Брыля, Івана Пташнікава, Анатоля Кудраўца, Віктара Казько бачыцца творчасць Хрысціны Лялько. Гэта выразна прасочваецца ў зборніках прозы “Дарога пад гару”, “Світанак над бярозамі”, паэзіі “На далонях любові”. Адпаведна тэматыцы выразна прасочваюцца дзве лініі: прырода, навакольнае асяроддзе (апавяданні “Касцы”, “Мурза”, “Пах мурагу” і інш.); пасляваеннае жыццё (“Груган”, “За ноччу раніца”, “Бярэзнік на загонах” і некаторыя іншыя).

Прырода ў мастацкім тэксце выконвае дзве асноўныя функцыі: яна можа быць усяго толькі фонам, дзе разгортваецца сюжэт, а можа выконваць непасрэдную ролю — быць персанажам, паралельна з героямі раскрываць асноўную думку твора. Менавіта апошняя функцыя яскрава выяўлена ў аповесці Хрысціны Лялько “Лес”.

Заўважым, што вельмі часта сустракаецца ў розных творах адзін вобраз — вобраз лесу. Варта адзначыць, што ён — галоўны, магістральны, эпіцэнтр прозы Хрысціны Лялько. Апавяданні “За ноччу раніца”, “Касцы”, “Бярэзнік на загонах”, аповесць “Лес” — вось тыя тэксты, у якіх ці не цэнтральнае месца займае вышэй названы “персанаж”. І што цікава: нават калі пра яго гаворыцца не як пра самы важны элемент сюжэту, без лесу твор мог бы страціць свае мастацкія вартасці. Так, у апавяданні “За ноччу раніца” чытаем: “Ноч набліжалася ад бору. Няспешна вылазілі з лесу першыя вечаровыя цені, збіраліся, тоўпіліся на невялічкім папары, затым паволі, як крадучыся, сунуліся да Андруковай сядзібы, што ляпілася на самым краі папару непадалёк ад бору.

Цені ўсё гусцелі, зліваліся ў густую завесу шэрага зімовага змроку. Лес, здавалася, наблізіўся да самай хаты і прыпыніўся насцярожанаю жывою сцяною”.

На першы погляд — звычайная характарыстыка прыроды, якая пададзена пры дапамозе сродкаў мастацкай выразнасці. Але, прачытаўшы твор, мы разумеем, што гэтае апісанне падкрэслівае той душэўны стан Андрука, яго трывогу і неспакой, што выкліканы цяжкімі ўспамінамі пра ваеннае жыццё, а дакладней — жыццё ў якасці ваеннапалоннага.

Аднак вернемся да аповесці “Лес”. Тут варта спыніцца на некаторых урыўках твора, якія могуць быць “этапнымі” ў развіцці сюжэта. І пачнём з наступнага: “Але ўжо жывы дух цяпла і неспакою панаваў у лесе. І ніводная расліна, ніводзін парастак, ніводнае дрэва і ні адна жывая істота не думала ў такі час пра смерць. Такой існай гармоніяй дыхала ўсё жывое, такой адзінай, непадзельнай стыхіяй імкнулася жыць, і любіць, і нараджаць новае, бясконцае ў сваім працягу жыццё, што здавалася, няма на свеце такой сілы, якая б магла спыніць, суняць гэта спрадвечнае, неадольнае імкненне… І хіба адна толькі старая елка не падзяляла гэтай радасці вясновых народзін. І толькі адзін Паўлюк чуў і разумеў яе шум і трывогу. Яны адбіваліся ў яго сэрцы гнятлівым прадчуваннем блізкай і немінучай бяды”. Трагедыю прадчуваў не толькі дзед Паўлюк. Гэты неспакой перадаецца і ў прыродзе, на што ўказваюць умела выкарыстаныя аўтарам вобразныя сродкі (“жывы дух цяпла і неспакою”, “не думала ў такі час пра смерць”, “радасць вясновых народзін”).

Усё “вясковае” жыццё (да таго часу, пакуль герой не з’ехаў у горад) побач з ім, Андрэем, шумела елка. Яна лашчыла яго, перажывала і хвалявалася за яго, магчыма, спадзявалася, што гэты хлапчук ніколі ёй не здрадзіць і не дасць у крыўду… На гэта ж спадзяваўся і чытач. Дарэчы, пісьменніца абмалёўвае сітуацыю так, што мы становімся не толькі сведкамі тых падзей, але і ўдзельнікамі.

Фінал дадзенай аповесці прачытваецца шматзначна. Маці піша ліст у горад свайму сыну, паведамляючы аб тым, што іх хату збіраюцца знасіць. Маці спадзяецца на сыноўнюю параду і дапамогу. І чытач таксама верыць у гэта, верыць, што Андрэй адразу ж кінецца туды. Але… “Ні адно дрэва не шуміць так трывожна і глуха, як елка. І ні адна елка не шуміць так, як гэта: старая, пракаветная, разлапістая, што расце каля Багунцовай хаты. Колькі яна перажыла за свой век, колькі ўсяго бачыла і помніла. Яшчэ з тае свае ярка-зялёнай маладосці помніла дотык цёплай Паўлюковай далоні. Шчаслівы то быў час, і быў у яліны адзіны сапраўдны Гаспадар…

А зусім нядаўна адчула яна халодны нежывы дотык металу. Як дотык смерці. І здрыганулася ўся, зашумела, шырока і цяжка махаючы амшэлым вечназялёным голлем…”

Нeяк само сабой паўстае пытанне: “Ці забалела Андрэю так, як балела гэтая “ампутацыя” прыроды дзеду Паўлюку?” Пісьменніца дае магчымасць самой прыродзе ўсё патлумачыць: елка памятала, што былі іншыя людзі — Гаспадары, елка памятала Паўлюкову далонь, але чамусьці не магла ўспомніць дотык маладой далоні Андрэя. І тут, дарэчы, выразна прасочваецца яшчэ адна тэма — тэма пакаленняў. Для Андрэя лес не той, што для дзеда, для якога паняцці “бацькаўшчына”, “шчасце”, “утульнасць”, “гаспадар”, “лес” — сінанімічныя, тоесныя. Калі дзед Паўлюк адчувае сябе гаспадаром на сваёй зямлі, то ўнук ставіцца да гэтага з пэўнай доляй скепсісу. Але ў параўнанні з творамі В. Казько тут няма жадання пакараць, няма помсты.

Перачытваючы старонку за старонкай, каторым разам пераконваешся: лес — гэта сімвал Бацькаўшчыны, сімвал Радзімы, Шчасця, сімвал Добрай Долі. І як балюча, калі яго стараюцца вынішчыць і нават не тлумачаць, чаму, навошта і за што… Вось і атрымліваецца, што “нідзе так не адчуваецца дыханне вечнасці, як на пакінутым селішчы. Там, дзе ўжо і забудовы не засталося, адно можна яшчэ адшукаць утравелы падмурак.

Нідзе так не набліжаюцца да вачэй, не сцякаюць проста ў душу сваёю сцішанасцю нябёсы; нідзе так не грае вецер і нідзе так не думаецца пра жыццё, як на пакінутым селішчы.



Колькі ж іх, такіх астравочкаў, затопленых глыбокімі водамі няўмольнага часу, на нашай зямлі? Раней тыя калгасныя “рупліўцы”, што разбуралі-разгладжвалі пакінутыя хутары, былі больш міласэрныя: пакідалі на ўспамін хоць бы дрэва ці куст бэзу. Цяпер жа “прасуюць” падчыстую, каб ані знаку, ані згадкі.

…А я ўсё роўна іду ў гэта чыстае поле, да ўтравелых падмуркаў. Іду, каб адчуць там дыханне вечнасці, каб падумаць пра жыццё… (Х. Лялько. Маленькія таямніцы. “Пра вечнасць”)

Адметнасцю прозы Х. Лялько, на маю думку, з’яўляецца ўзаемадапаўняльнасць, спалучальнасць, узаемазвязанасць тэмы лесу і тэмы хутара, што ўласціва толькі для твору дадзенай пісьменніцы. Магчыма, для аўтаркі — гэта генетычнае адчуванне, бо хутар і ёсць малая радзіма Хрысціны Аляксееўны, увасабленне ідэалу сялян: быць гаспадарамі свайго лапіка зямлі..

Проза Хрысціны Лялько выразна дэманструе новы погляд на ўзаемаадносіны чалавека і прыроды: думаецца, мы не галоўная частка прыроды (хаця такога спалучэння слоў нават і быць не павінна), а існуем на такіх жа правах, што і мурашка, дзьмухавец, бо ўсё гэта ў сукупнасці з чалавекам — ПРЫРОДА.

Кацярына ЕРМАКОВІЧ

Калаж Віктара КАЛІНІНА

Розгалас

# «НА ЗАДВОРКАХ ТАЛЕНТУ»

Свядома націскаючы на таўталогію, скажу, што сённяшняя крытыка, безумоўна, заслугоўвае той крытыкі, якая на яе выплёхваецца як з вуснаў, так і з розных сродкаў масавай і не зусім масавай інфармацыі. Крытыка ўжо даўно, з часоў перабудовы стала павярхоўнай і ангажаванай, часам і рабалепнай. З той пары прынята было крытыкаваць найбольш саўдэпаўскую, так званую сацрэалістычную (“ружовую”), літаратуру і ўсё тое, што спрабуе плыць у яе фарватэры. Заўважаліся ёю ды і цяпер заўважаюцца найперш “сытанакормленыя” вершы альбо авангардна-сцёбныя ці ўвогуле літаратурна-гульнявыя сачыненні. А калі крытыка нечага ў іх не даганяе, то ў гэтым ёй дапамагаюць самі прасунутыя аўтары, якія самааб’яўляюцца, самаабвяшчаюцца і наперад саматлумачацца крытычным цёткам і дзядзькам, каб тыя, крый Бог, не прамаргалі іх чарговага творчага ўзнясення. Добра памятаю, як крытыкі і “літаратурныя журналісты” не маглі правільна разжаваць чытачам раман Альгерда Бахарэвіча “Сарока на шыбеніцы”, пакуль аўтар сам (з Нямеччыны) не патлумачыў ім праз Сеціва, што ў тэксце (медытатыўна) апісваецца ўся плоць гераіні, пачынаючы ад пазногцяў ног да валасоў на галаве... Імгненна, з той жа хвіліны ўсе “крытыкі” пачалі правільна тлумачыць туманную мастацкую ідэю твора. У мяне ёсць дакладная дата гэтай крытычнай авантуры, навязанай, дарэчы, таленавітым празаікам. Пра раскруткі Андрэя Хадановіча ўжо і казаць лішне, бо ўсё навідавоку. Як іранічна, але з падтэкстам, сказаў на нядаўнім юбілеі нашага знанага філосафа не менш вядомы культуролаг Максім Жбанкоў: “Валянцін Акудовіч здзейсніў прыблізна тое, што Андрэй Хадановіч у паэзіі — ён зрабіў беларускую філасофію хітом: прадметам займальным, яскравым і сексуальным”.

Аўтары цяпер самі натуральна заводзяць крытыкаў у такія ночна-цёмныя альбо сонца-яркія куты свайго жыцця і творчасці, адкуль крытыкаваць іх проста немагчыма. Прыціснутым там крытыкам, сыходзячы з прагматычнасці свайго грамадскага ці службовага становішча, можна толькі сцвярджаць (часам нават і не чытаўшы тэкстаў), што Аўтар ёсць, і што ён не толькі піша, але і выдатна чытае ўсё ім жа напісанае: прыходзьце, паглядзіце, паслухайце... Перформанс за перформансам, альбо як напрадвесні ў народзе кажуць, трэска на трэску лезе…

Калі казаць зусім шчыра, то за выняткам творчасці дзесятка аўтараў, можна канстатаваць, што мастацкай літаратуры высокага ўзроўню на сённяшні час у нас няма, як няма і адпаведнай ёй крытыкі. Пры жаданні іх можна пераставіць месцамі.

Дык у чым жа праблема?!

Яна ў спустошанасці — нацыянальнай, духоўнай, душэўнай. Жыццё з(а)мянілася існаваннем. Правяць баль — павярхоўнае, рэчыўнае, матэрыяльнае… Сумленне і мудрасць скрыўджана і засмучана стаяць убаку. І як бы хто тут мяне не аспрэчваў, я застануся пры гэтай сваёй думцы.

Адным словам, трэба пісаць і тварыць... Як там у М. Багдановіча: “Ўстань, навальніца, мкні нанова, // Ўзвый, вецер, з ёю заадно! // У віхры узляціць палова. // Пакіне чыстае зярно.” У выніку чаго, будзем спадзявацца, што наша сучасная нацыянальная літаратура нарэшце займее знакавыя высокамастацкія творы і сваё адметнае месца на сусветнай покуці. А галоўнае — чытача.

Але пры гэтым сучасная крытыка не павінна пазбягаць будзённай карпатлівай работы — пільна адсочваць і “перамываць” сённяшні літаратурны працэс, у тым ліку і ў правінцыі. Каб не талент паказваў ёй на сябе, а яна — на талент (як гэта добра зрабіў у сваёй лімаўскай публікацыі І. Запрудскі, нечакана падтрымаўшы самабытнага паэта са Случчыны У. Раманава).

Яшчэ нядаўна і я пісаў у сваёй рубрыцы “Гусіным пяром” пра кніжку Тамары Кашавой з Ваўкавыска, і вось не магу не напомніць пра яе зноў. Тая кніжка складалася з адзінай паэмы-легенды “Каханне ваўкалака”, якая, на мой погляд, мела свае станоўчыя і негатыўныя бакі... Але агулам выклікала добрае ўражанне. Адчуванне сапраўднасці напісанага не пакідала чытача. А гэтага, як для мастацкага твора, нямала.

І вось праз пэўны час — нізка вершаў гэтай жа аўтаркі ў “ЛіМе”, якая прачыталася мной (і не толькі) на адным дыханні. Галоўнае, што вынікала з вершаў Тамары Кашавой — гэта аўтарс-кая натуральнасць стылю, узвышанага дыхання, рытму, развагі і пачуцця... Адсутнасць літаратурнай штучнасці. Калі паэт выстройвае сваю творчасць толькі на філалогіі, кніжнасці ды інтэлекце, а не па лекале ўласнай вытанчанай натуры, выпакутаванасці жыцця і абранасці лёсу, то яго мастацкі плён незайздросны. Сутнасная навізна паэзіі не ў новых словах і новых формах, а ў навізне выяўлення самога паэта (чалавека, асобы). І як бы прыгожа вы не рыфмавалі, пустапарожняе само па сабе не складзецца ў адзіную гармонію. Можна штораз, стаіўшы дыханне, з аптымістычным спадзяваннем слухаць зязюліна кукаванне, але насамрэч верыць толькі біццю ўласнага сэрца... У вершы “Непагадзь” Т. Кашавая звяртаецца да стыхіі так:

Ты вельмі гучна граеш і пяеш,
Таму з табою людзі не сябруюць.

І супрацьпастаўляе ёй гармонію:

Стыхія, глянь, ты ўжо не ў адзіноце!
І непагадзь, уражаная мной,
Раптоўна замірае на паўноце...

Асабліва ўражваюць, кладуцца на сэрца тыя радкі, дзе паэтка паўстае перад чытачом не ў павучальнай іпастасі, а ў спавядальнай:

Бо дадзена мне ўмець
Са сталым вопытам
Ужо не блытаць медзь
З чырвоным золатам...
.........................................
Зімовая туга
Другім пасцелена,
А на маіх лугах
Яшчэ ўсё зелена!

Вызначаюць самабытны — эмацыйна-экспрэсіўны — стыль Кашавой гістарычныя алюзіі, веданне фальклору і літаратурнай класікі. Як рэжысёр-тэатрал не цураецца яна маналогаў і дыялагічнасці. Глыбокая засвоенасць культуры і каранёў простанароднага жыцця цесна звязана ў яе творчасці з сучаснымі знакамі, звычаямі і грамадскімі праявамі. Ды і сама яе біяграфія склалася ў такі небяспечны славянскі трохкутнік: нарадзілася ў Днепрапятроўскай вобласці ва Украіне, пасля пераехала на радзіму маці ў Беларусь, сталыя гады жыла, вучылася і працавала ў Расіі. У рэшце рэшт вярнулася на Айчыну, у Ваўкавыск. Здавалася б, якая тут гаворка пра мову! А, не, матчына-такі падтачыла ёй сэрца...

Мілагучнасць маўлення
    успрымаць не “пантова”,
Я з таго пакалення,
    што цуралася мовы.

Як бачым, дзе нацыя (чалавек) губляе — там Прырода вяртае, запаўняе ўнутраныя лакуны знешнімі самадастатковымі выяўленнямі. І, шчыра кажучы, ва ўзросце Кашавой жанчыне быць пачаткоўкай — поўны абсурд. Яна і не пачаткоўка, яна — пачынальніца свайго ўласнага паэтычнага шляху.

А на задворках таленту свайго
І так праседзела амаль паўвека я.
Не вылучыць і не ускалыхне
Матлянне між апошнімі і першымі.
Хачу, каб людзі ведалі мяне
І грэлі душы над маімі вершамі!

Трохі пафасна, аднак... чытаем далей:

О, Муза, твой караючы бізун
Мне не дае ад сціпласці затойвацца
І ў адзіноце абраняць слязу,
Калі радком душа мая патоліцца.
Так! Пацягну свой крыж я на гару.
Не! Не вымольваю сабе я міласці.
Надыдзе час — няхай я і памру,
Але сваёю смерцю, не ад сціпласці!

Вершы Т. Кашавой нельга “паказваць” чытачам разрываючы на цытаты. Гэта як вырываць частку ад непадзельнага цэлага з “крывёй”. Трэба чытаць іх цалкам і толькі такім чынам атрымліваць не асалоду нават, а вернага і даверлівага спадарожніка па заблытаных лабірынтах чалавечага жыцця. Ёсць, ёсць у паэтычных радках Кашавой тое, што ў народзе называюць “цымусам”, а ў паэзіі, мабыць, нерукатворнасцю...

Зрэшты, можа, і перабіраю, залішне “крэдытую” напавер. Бо сустракаюцца ў яе вершах і відавочныя хібы (русізмы, банальнасці, рытарычнасць, вульгарызмы). Не буду іх прыводзіць, каб не сапсаваць уражанне. Хоць сама Тамара Кашавая рашылася пачаць сваю паэтычную нізку такімі радкамі:

Пішу я вершанё, так, ні аб чым,
Маленькае такенькае, мясцовае,
А непагадзь накцюрнам велічным
Уладу на зямлі ўмацоўвае...

Таму, не зважаючы на вышэй выказаныя мной спрэчныя папрокі адносна сучаснага літаратурнага працэсу, не будзем дарэшты прыбядняцца, бо ёсць чым і ўзбагачацца і на што спадзявацца... Пэўным чынам і ў гэтым выпадку.

ЛеГАЛ




# Глыбокая баразна

Беручы ў рукі кніжку "Перазоў" С. Шах і І. Катлярова, трэба зазначыць, што яе аўтары ўжо не адно дзесяцігоддзе жывуць у Светлагорску шчаслівай сямейнай парай. Іх сумеснае жыццё — яркі прыклад таго, што двух паэтаў, хаця яны і пішуць на розных мовах, адпаведна на беларускай і рускай, цесна лучаць не толькі агульныя хатнія стасункі, але і творчая праца, пастаянныя пошукі ў паэзіі. Яны аўтары шэрага лірычных кніжак, у тым ліку і двухтомніка "Дыялог", дзе вядуць паміж сабой гаворку пра каханне, сямейную вернасць і адданасць, тое інтымнае і патаемнае, што адвеку ўзвышала супольнае жыццё.

Пэўным працягам "Дыялога" стаўся новы зборнік "Перазоў", падзагаловак якога — "Вершы пра жывапіс і жывапісцаў". Стварэнню кніжкі паспрыяла, як гаворыцца ў анатацыі, прафесійная праца аўтараў у Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя", сустрэчы з вядомымі мастакамі, якія паступова перараслі ў дружбу. Вершы С. Шах і І. Катлярова дапасоўваюцца да лепшых карцін нашых мастакоў, пачынаючы ад народных (Г. Вашчанка, Л. Шчамялёў, В. Шаранговіч) і заканчваючы маладымі (У. Кароткі, П. Захараў, С. Каваль). На старонках кніжкі змешчана багата фотаздымкаў, на якіх — мастакі разам з аўтарамі вершаў.

Ва ўступных вершах да першага раздзела "Паміж карцін — нібыта між сяброў" аўтары выяўляюць уласнае разуменне паэзіі і жывапісу. У радках С. Шах чуюцца шэкспіраўскія матывы высокага прызначэння мастацтва: "Паэзія і жывапіс — увасабленне той сутнасці, што і кіруе духам ва ўлонні вышняга здзіўлення і натхнення насуперак усім жыццёвым скрухам". Паэтэса, здаецца, знарок абцяжарвае вершаваны памер — таму, хаця вершы й рыфмаваныя, чытаюцца, як звычайная проза. Аднак гэта не прызямляе іх, а дазваляе вершу С. Шах гучаць натуральна і нязмушана, з тым прыўзнята-ўрачыстым настроем, які мае на ўвазе пэўную філасофскую скіраванасць.

Што да радкоў І. Катлярова, то гаворыць ён амаль пра тое самае ўзнёсла і крыху задзірыста. І робіць гэта з адной мэтай — зачапіць чытачоў за жывое: "Художники мне ближе, чем поэты. Я живопись читаю, как стихи, — ее закаты и ее рассветы полны моей задумчивой тоски". І ён дасягае свайго.

Раздзел "Паміж карцін — нібыта між сяброў", які з'яўляецца стрыжнем кніжкі "Перазоў", не можа не звярнуць на сябе ўвагу арыгінальнай кампаноўкай: на правай старонцы развароту змяшчаецца рэпрадукцыя мастацкага партрэта ці карціны, на левай — вершы, спачатку дыпціх С. Шах на роднай мове, а побач асобным слупком радкі І. Катлярова — на рускай. Вершы — занатаваны ўсплёск пачуццяў і думак, выкліканых карцінамі, а не дзяжурныя подпісы.

Раздзел адкрываецца партрэтамі аўтараў зборніка С. Шах і І. Катлярова, напісанымі народным мастаком Беларусі Г. Вашчанкам. Маюцца адпаведна да іх і вершы-самапрысвячэнні. Яны, вядома, сціплыя, у іх галоўным чынам гаворыцца пра той антураж і прыроду, на фоне якой выпісаны, напрыклад, партрэт вабнай жанчыны, у якім мы пазнаём рысы С. Шах. Запамінаюцца цёплыя радкі І. Катлярова: "Стоит совсем не для портрета, до отстранённости одна... Я так люблю её, но эта не мне, а вечности дана". Не могуць не крануць радкі С. Шах, прысвечаныя мужу, што могуць выліцца толькі з-пад пяра бясконца шчаслівай жанчыны. Гледзячы на партрэт, яна гаворыць: "Згодна-згодна, позірк мкніце хоць праз боль, хоць праз тугу, — паглядзіце, ацаніце, як спяваць для Вас магу. Згодна-згодна, будзьце пільным і скрозь будучы ўвесь час, толькі знайце, Вы — адзіны — немагчыма мне без Вас". Нікольні не здзіўляе, што паэтэса да свайго абранніка звяртаецца на "Вы". Так яна робіць у кожным сваім вершы, калі гаворка ідзе пра каханага.

Вершы, напісаныя С. Шах і І. Катляровым паводле карцін, можна параўнаць з перастварэннем паэтычных твораў, што робяць перакладчыкі, з той розніцай, што ў дадзеным выпадку аўтары шчыравалі над "перакладамі" мастацкай палітры на мову паэзіі. Параўноўваючы тое, што маецца на карціне, з вершамі, бачым, наколькі паэты прытрымліваліся арыгінала, дзе і ў чым адыходзілі ад яго, фантазіравалі, і гэтым самым нешта дадавалі да палатна. Так, антуражы вершаў адно да аднаго супадаюць з карцінай Л. Шчамялёва "Праз ноч", на якой бачна, як пад месяцам, што вісне на начным небе, распасцерліся два вялізныя крылы снегу сярод іх па дарозе, нібы з прадоння, едзе фурманка. Часам у вершы маюцца лірычныя "адступленні", якія робяць малюнак больш жывым і яркім. Гаворачы пра снягі, С. Шах усклікае: "Што ім цемра?! Што ім немасць ночы?! Што ім па-над поўняю хмар'ё?! Свой у іх ужо і сэнс прарочы, і адценне вольнае — сваё". Што да І. Катлярова, то яго хвалюе лёс фурмана: "Вот сейчас он кнут отбросит, скажет: Что ж ты, черт возьми?!"

Як вядома, кожная карціна — гэта згустак душэўнай энергетыкі жывапісца, ад якой можна "падзарадзіцца" і паэту. І настолькі, што гэтай падзарадкі хапае на тое, каб пры дапамозе слова знайсці самастойны каларытны штрых, вобраз, нават новы малюнак. І калі б верш С. Шах "Вецер" не стаяў побач з палатном А. Пятрова "Сосны на ветры", наўрад ці можна было б здагадацца, што менавіта яно падказала паэтэсе рытмічную інтанацыю, сінтаксічную будову радка і вобразнасць: "Гонкія сосны — крутое суччо. Голле — пагрозна, нібы кулаччо... Пругка рванулі ў зыбкую сінь — ў ветру разгулле, ў воблакаў плынь".

Творчай удачай І. Катлярова стаўся верш "У нас, в Беларуси", дапасаваны да палатна В. Шаранговіча "Жніво", на якім жняя, адклаўшы ўбок серп, корміць грудзямі дзіцятка. Аўтар піша: "Серп. Кринка — с водой? с молоком? То аисты рядом, то гуси... В каком это веке? В любом, но только у нас, в Беларуси". Апошнія два радкі паэт паўтарае ў канцы кожнай з шасці строф, стаўшы рэфрэнам, яны надаюць вершу такі сэнс і гучанне, што проста зачароўваюць чытачоў. Рэфрэн гучыць, як замова ці заклён. У ім маецца нешта ад народных песень, казак і паданняў.

У раздзеле змешчана семдзесят чатыры рэпрадукцыі карцін і партрэтаў, напісаных мастакамі, і па гэтульні ж дыпціхаў і вершаў С. Шах і І. Катлярова. У большасці выпадкаў гэта арыгінальныя творы, а не даважкі да мастацкіх палотнаў. Яны могуць жыць самастойным жыццём.

У наступным раздзеле "Варажбіты насычанай палітры" — два вянкі санетаў і некалькі вершаў С. Шах. Першы вянок санетаў "Перазоў" прысвечаны мастакам і іх творчасці. Не надта мудрагелячы, ужо ў другім санеце паэтэса звяртаецца да жывапісцаў і іх твораў: "Вось Шчаснай кветна-кідкі нацюрморт, вось Курашовай спеўны карагод задумных акварэляў у палоне маіх вачэй... Ландарскі... Цнота ранняе вясны... Нямцоў... Уласнай восені глыбізны... І Журавовіч... Шыр на зімнім фоне... Сулкоўскі... Хвалі прамянёў скразных між збожжавай скразной залацізны...".

Другі вянок санетаў "Партрэт" прысвячаецца Г. Вашчанку. Не складана здагадацца, што гаворка ў ім ідзе пра партрэт "Санет", на якім мы бачым С. Шах. Ён настолькі ўразіў і ўсхваляваў паэтэсу, настолькі яна была ўдзячная мастаку, што вянок санетаў, здаецца, быў напісаны на адным дыханні. У ім гэтулькі душэўнай цеплыні і жаночай шчырасці, што ўсё гэта нейкім чынам перадаецца чытачам. Мастака паэтэса называе Майстрам. Але не гаворыць, што на партрэце менавіта яна. У вянку санетаў гаворка ідзе пра Яе Вялікасць — Жанчыну!

Два раздзелы вершаў "Я живопись читаю, как стихи" і "Где чуткий цвет, мерцая, дышит" належаць пяру І. Катлярова. У творах першага раздзела аўтар знайшоў прачулыя словы для мастакоў, якіх добра ведае і з якімі падтрымлівае сяброўскія адносіны. Прысвячэнне А. Крылову звяртае на сябе ўвагу не столькі рыфмайамонімам і пэўным сэнсавым каламбурам: "Что хочет он услышать от меня, приличьем неприличье отменя?", колькі канкрэтнымі жыццёвымі штрыхамі: "Вновь трудное дыханье слышу в трубке, — он в комнате, как в корабельной рубке". У другім раздзеле — развагі і думкі пра жывапіс і прызванне мастакоў. Уражвае, можа, недзе вычытаная, можа, і свая ёмістая па значнасці і глыбіні выснова: "Мешает мастерство, — вдруг понял слишком поздно".

Каб не ідэалізаваць зборнік сямейнага дуэта С. Шах і І. Катлярова "Перазоў", трэба сказаць, што маюцца ў ім і пэўныя пралікі. Але кніжка гэтая стаіць неяк адасоблена ад тых, што мы звыклі вітаць як паэтычную навінку. Перад чытачом — развагі аўтараў пра карціны мастакоў, сутнасць выяўленчага мастацтва, роздум пра тое, што родніць паэзію і жывапіс.

Васіль МАКАРЭВІЧ

# Жыць вершам

Да творчасці Уладзімір Рунцэвіч, рабочы Пухавіцкага льнозавода, спрычыніўся яшчэ за школьнай партай. Пісаў вершы пра сяброў і вучобу, пра вясеннія ручаі і любімую Цітаўку. У паэзіі Уладзіміра, насычанай пахам травы і чырвоным колерам рабін, ужо вымалёўвалася постаць лірычнага героя, няўрымслівага, заклапочанага лёсам прыроды і навакольнага асяроддзя.

Паэтычныя спробы аўтара ўхваліў мясцовы літаратар, пісьменнік Захар Бірала. Ён адзначыў гумарыстычную накіраванасць твораў Рунцэвіча, параіў звярнуцца ў райгазету. Рунцэвічу-пачаткоўцу пашчасціла: у рэдакцыі "Пухавіцкіх навін" яго сустрэлі прыхільна. І неўзабаве вершы У. Рунцэвіча пачалі з'яўляцца на старонках рэспубліканскіх газет і часопісаў. Друкаваліся і ў газеце "Літаратура і мастацтва". А потым была першая кніжка.

І вось новы паэтычны зборнік Уладзіміра Рунцэвіча "Шчасце, шчасцейка", выпушчаны ў Мінску выдавецтвам "Кнігазбор" у мінулым годзе. Жыццесцвярджальны пафас твораў зборніка сведчыць пра пошукі паэтам гармоніі прыроды і чалавека.Складанае ў простым, сцвярджае аўтар, незвычайнае ў звычайным.

Што шчасце?
Хату збудаваць.
Што шчасце?
Сына ўзгадаваць
І дрэва пасадзіць увосень.
Чаму так многа ў Бога просім?

Зажуранага настрою мала. Ідзіце ў лес, паслухайце, як звініць сасна, патрымайце гольку бярозавую ў сваіх руках... Паспрабуйце, далучыцеся, адчуйце, спасцігнеце, зразумейце, — даводзіць аўтар.

Новы зборнік Уладзіміра Рунцэвіча, такім чынам, тычыцца праблем разумення лірычным героем сэнсу чалавечага быцця. Акалічнасць важная: зрэз паэтычнага светапогляду, дадзены аўтарам, абумовіў стылявую афарбоўку твораў, умоўна-асацыятыўную вобразнасць ягоных вершаў.

Пабегчы ўслед за лёгкай стракозой.
Падгледзець нараджэнне кветкі.
Апячыся палыноваю слязой.
Якое ж цуда гэта!

Аўтар зборніка не выходзіць за межы чатырохрадкоўя, пэўным чынам наследуючы паэтыку японскага хоку. Зместам сваіх вершаў, напоўненых слыхавымі і зрокавымі асацыяцыямі, і адказаў Уладзімір Рунцэвіч на пытанне: жыццё чалавека на зямлі — вялікая каштоўнасць. Ведайце пра гэта, памятайце, — сфармуляваў ён у выніку — адкрыццё чалавекам гармоніі вечнага пачынаецца толькі ў выніку спасціжэння асобай непаўторнай прыгажосці і ратавальнага хараства роднай Бацькаўшчыны.

Паэт з Пухавіччыны ступіў на паэтычную дарогу. Ён яшчэ ў пошуку. Можна папракнуць У. Рунцэвіча за злоўжыванне дзеяслоўнай рыфмай. Але ёсць галоўнае: захопленасць светам фарбаў і чысцінёй чалавечых пачуццяў.

Браніслаў ЗУБКОЎСКІ

## Калонка Сяргея ГРЫШКЕВІЧА

# Аб'ём і якасць



"Ёсць на свеце лішнія людзі, чаму не быць і лішнім раманам"?"

Р. Іваноў-Разумнік

Ці задумваліся вы калі-небудзь над тым, чаму адным пісьменнікам, як, скажам, А. Чэхаву ці О'Генры, для перадачы задумы дастаткова кароткага апавядання, а іншым і пенталогіі мала? Канечне, можна доўга з сур'ёзным літаратуразнаўчым выглядам разважаць, што падобнае параўнанне некарэктнае. Тым не менш, сусветны вопыт на канкрэтных прыкладах яскрава дэманструе мажлівасць увасаблення любой грандыёзнай ідэі на абмежаванай папяровай плошчы. Іншая справа, што запаветнай марай многіх празаікаў з'яўляюцца таўшчэзныя тамы, а то і некалькі, якія нібыта даказваюць прафпрыгоднасць іх заўзятых стваральнікаў. Лічу падобную сітуацыю заганнай, паколькі яна не ўлічвае інтарэсы сучаснага чытача з яго татальным недахопам часу. Але творчыя асобы з абвостраным эгацэнтрычным пачаткам і нястрымным творчым свербам чытацкія густы не ўлічваюць. А шкада. Час няўмольна пакідае шматтомных "сачыніцеляў" у забыцці...

У гісторыі беларускай літаратуры налічваецца нямала буйных твораў, у тым ліку аб'яднаных у цыклы, з прэтэнзіяй на эпахальнасць. На жаль, сёння большасць такіх аповесцей /раманаў нічым, акрамя аб'ёму, не ўражваюць. Што паробіш — далёка не кожны пісьменнік можа быць аўтарам знакамітых і прызнаных "Вайны і міру", "Ціхага Дона", "Ругон Макары", "Сагі аб Фарсайтах"...

Многія творы так і застаюцца "актуальнымі" на лакальнай тэрыторыі. Правінцыйнасць літаратуры адчуваецца ў незнішчальнай кан'юнктурнай модзе і драбнатэм'і, калі бясконца апісваюцца бязрадасныя калгасныя будні, гаротная доля жонкі п'яніцы і студэнцкае каханне "на бульбе"...

На шчасце, айчынныя аўтары добра разумелі, што для стварэння "эпахальных мастацкіх палотнаў" неабходны не менш эпахальныя падзеі, звязаныя з маштабнымі грамадска-палітычнымі ўзрушэннямі, якія кардынальна мяняюць не толькі лёсы людзей, але і цэлых дзяржаў. У нашым выпадку прадметам аналізу маглі стаць падзеі 1917 года, заходнебеларускага перыяду і Вялікай Айчыннай вайны. У гэтым рэчышчы шчыравалі многія — у меру сціплых здольнасцей і нясціплых задум.

Не зважаючы на заслужаную забранзавеласць Якуба Коласа, варта прызнаць з вышыні сённяшняга часу, што па-сапраўднаму жыццяздольнай аповесцю з ягонай трылогіі "На ростанях" аказалася толькі першая — "У палескай глушы". І гэта яшчэ добра, бо ў іншых і таго няма. Ці чыталі вы раман-хроніку ў 4-х частках Ільы Гурскага "Вецер веку", трылогію Рамана Сабаленкі "Іду ў жыццё", цыкл з 4-х раманаў Уладзіміра Карпава "На перавале стагоддзя", раман-эпапею ў 4-х кнігах Міхася Лынькова "Векапомныя дні", якую сам аўтар называў "апупеяй"? А можа, прызнайцеся, вы адужалі раман Івана Мележа "Мінскі напрамак" ці трылогію Івана Новікава "Мінскі фронт"? Думаецца, пра мастацкія выдаткі гэтых расцягнутых твораў лепш за крытыкаў сказаў Час. Беспамылкова і неабвержна.

У пэўнай ступені гэта датычыць і шэрага іншых буйнафарматных твораў. Так, найбольш удалымі ў пенталогіі Івана Шамякіна "Трывожнае шчасце" лічацца першыя тры аповесці — "Непаўторная вясна", "Начныя зарніцы" і "Агонь і снег". З "Палескай хронікі" Івана Мележа вылучаецца раман "Людзі на балоце". Астатнія — "Подых навальніцы" і "Завеі, снежань" — падаюцца менш дасканалымі. Не з'яўляецца творчай удачай і трылогія Барыса Сачанкі "Вялікі Лес".

Вячаслаў Адамчык напісаў тэтралогію ("Чужая бацькаўшчына", "Год нулявы", "І скажа той, хто народзіцца...", "Голас крыві брата твайго"), Іван Навуменка стварыў трылогію ("Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах", "Сорак трэці"), а ў творчай спадчыне Івана Чыгрынава маецца пенталогія ("Плач перапёлкі", "Апраўданне крыві", "Свае і чужыя", "Вяртанне да віны", "Не ўсе мы згінем"). Пры любой інтэрпрэтацыі мастацкіх вартасцей гэтых раманаў яны з'яўляюцца цікавым дакументам свайго часу.

№ 31 6 жніўня 2010 г. ЛіМ



Уладзімір ПАПКОВІЧ

## Нешта жа будзе…

Даўно памёрлы класік настаўляе
Мяне на шлях любові, дабрыні…
А лёс са мной, як хоча, так гуляе,
Не патлумачыўшы ані
Мне сэнс гульні…

Раблю хады без жаднага разліку,
І бачу сам яскрава: прайграю…
Жыву між смерцю і жыццём
на стыку,
Душу сваю надзеяй не гаю.

Вакол такія ж чэзнуць небаракі,
Не ведаючы, для чаго жывуць…
Гляджу на неба і шукаю знакі,
Якія мяне ў вечнасць пазавуць.

## Усё выдатна!

Ўсё спарахнела і няма ратунку…
Усё, што пела, сёння анямела.
Друкуюць вершы трэцяга гатунку,
О, колькі мух на іх ужо насела!

Затое не пакрыўджаны ніводзін,
Затое прыгажуні ўсе ў пашане.
Усё ў парадку ў галіне паводзін…
Пытанні ёсць?
Выдатна ўсё, славяне…

## А ружы цвітуць…

Як гожа ружы зацвілі ў гародзе!
Раса блішчыць, як дыямант,
на кропе.
Паэты сёння анідзе не ў модзе —
Ні ў Афрыцы, ні ў Штатах,
ні ў Еўропе.
Мяне ж, паверце, землякі чытаюць,
У полі, пад павеццю, у кантарах.
Сустрэўшы ж, павітаўшыся,
пытаюць:
"Скажыце, дзядзька,
ёсць яшчэ ў вас порах?"
Кажу: "А як жа?
Гэта ў нас нязводна!
Я нездарма з'ядаю восем яек!
І потым адчуваю сябе годна…
З кабетамі — паэт я,
З начальствам — празаік".

## Пацёмкі

З цяжкасцю ўлажу ў нечую думку,
За што б ухапіцца,
дзе тут цаўё?
Бы вытрасаю вялікую сумку,
Між жончыных рэчаў
шукаю сваё.

Вельмі загадкава, дужа туманна,
Не бачыць дэталяў
зняверваны зрок.
Не ацаніў я мудронага пана.
Загадкі.
Таемнасці.
Сэнсавы змрок.

## Ку-ку

Праз парог ступі, і — ты нідзе,
Больш не палюбуешся красой.
Што там за вахлак ідзе-брыдзе
Час ад часу ўзмахвае касой?

Гэта не вахлак, а цётка Смерць,
Выйшла ў свет, заплямлены віной.
Месячык падрос ужо на чвэрць.
А ў цябе тры чвэрці за спіной.

Павітайся з Цётухнай, стары,
Будзеш гжэчны, дасць табе руку.
Толькі лішніх слоў не гавары,
Слухай развітальнае "ку-ку…".

## Шукаю сябе…

Я так і не знайшоў сябе —
Відаць, не там шукаў.
Набіў гузоў я на ілбе,
І лёс адмацюкаў.

Я пошукі перапыніў,
Сказаў сабе: "Амбец!"
Заснуў і хлапчука сасніў,
Што з вёсачкі
Дварэц.

І я размаўляўся з ім,
Пытаўся пра жыццё.
У вочы лез
мне едкі дым,
Іх рэзала асцё.
І прачыналася ў журбе
Збалелая душа.
"Вось і знайшоў
ты сам сябе…
Паплач, паплач спярша…"

## Без мяне…

І мяне адпяюць і праводзяць,
А жыццё будзе далей ісці.
Маладзіцы дзяцей народзяць,
Будзе жыта на ніве цвісці.

І дзяўчына на першым сене
Вусны смяглыя размакне.
І спрасуецца ноч у імгненне.
Толькі ўсё гэта без мяне…

## Антыпод

Не заблудзіся ў сабе —
Будзь матчынай
веры верны —
Чуеш: над вухам сапе
Твой антыпод ненажэрны.

Ён сочыць штоночы, штодня
За светлай людской праявай.
Адвечная фарбаў гульня:
Белай і
Чорнакрывавай.



Таццяна СІВЕЦ

***

Мне хацелася піць
сваё шчасце па кроплі,
мне хацелася быць
незвычайнай і крохкай.
Як ты,
толькі не са шкла.
Гэта значыць, не ўздрыгваць
на выбухі крокаў,
дараваць усе крыўды з эпохі Барока
ды тых
дзён, дзе цябе знайшла.

Сустракаю твой позірк,
як срэбную кулю,
забываюся, хто я, не помню, адкуль я,
калі
ты мяне завеш.
Ні віной, ні каханнем
не сплаціш рахункі,
я даўно не чакаю, але рызыкую
спаліць
сэрца сваё — у верш.

Гэта ўжо не Сансара, а чортава кола!
Я знаю, што мне не да твару
быць кволай.
Мой крык,
быццам аксаміт.
Больш не веру ў варожбы,
вяртанне і золак.
З маіх вокнаў ужо вылятаюць анёлы
ў Парыж.
Сэрца на ўспамін?
Бяры!

***

Я ўрастала ў цябе, як трава
праpастае ў асфальт,
хацела сысці, але чула пяшчотнае: "Halt!"
Мяне першы (каб мякка)
на левы бок,
і з гэтага боку гледзячы,
ты быў праўдзівы бог.

Гэта крыху балюча,
ведаеш: з іголкамі — унутры,
ды ўсе мае крыкі, верны мой,
смела дзялі на тры.
Я напаіла б ветразі ўздыхам,
ды ўсё дарма —
зашмарга не трымае гэтак,
як ты трымаў.

Нібы дзіця зарумзанае,
згубленае, за руку…
(Хаця куды я, добры мой,
ад цябе ўцяку?)
Рэкі мае ўпадалі золатам — у далонь,
покуль вусны твае
вучыліся прамаўляць: "Далоў".

Страчаны незваротна,
са стромы ў прадонне-яр
паляціш, на сэрцы маім надрапаўшы
позіркам: "Тут быў я"…
Я ж была шытаю ляльпкай
з малітвай замест душы…
А ты мяне перашыў.

***

Толькі і справы — выжыць!
(Гэткай не на пасад.)
Мне б сваю долю вышыць
срэбрам на паясах.
Мне б на усе пытанні
ўсмешкаю адказаць
ды навучыцца танчыць
на вастрыі ляза.
Каб маім снам — да рання —
берагу не знайсці,
каб ніхто не раіў,
быць мне самотнай ці…
Добры мой Усявышні,
дай мне, што хочаш сам,
покуль мой любы выжалам
гойсае па лясах!..

***

Завялі валошкі
і перліны сыплюцца долу…
Я болей не знаю,
як шлях да світання адолець.
Сталёвыя словы
ламаюць разлічанасць рухаў.
Я болей не веру
ў каханне падчас
завірухаў.
Так проста змірыцца
з хваробаю і цішынёю,
Маўчанне маё
наліваецца сокам вішнёвым…
Нябесным алоўкам
на снезе пранізліва-зімным
Пішу я — "ЗІМА",
а назаўтра чытаю —
"РАДЗІМА"!

***

Так балюча,
што нават няможна крычаць — хай
па сэрцы гарцуюць
няспынна гарачыя коні…
Гэты акорд — заключны
і я чайкай
зняможанай падаю
на тваё падваконне.

У пустых калідорах
курчыцца цішыня,
цячэ
і звіваецца лесвіца —
у пятлю…
Гэй! Хто тут жывы?!
Ці не я?..
Шэпча на вуха нехта:
"Ляці хутчэй —
можа, злаўлю…"?

Вецер сарве
і паставіць у сіні вазон
сонца-кветку —
капрызлівую паланянку…
Калі не ратуе верш,
уратуе лязо
(не так, скажаце,
дзядзька Янка?)…

Скалела,
ды гэта нічога… Там,
дзе мяне няма,
сонечна і спакойна.
Там — лета.
Пастскрыптум
ва ўсіх лістах:
"Забяры мяне…
З падваконня".



Ліда НАЛІЎКА

## Дэбют

Ліда Наліўка — студэнтка філалагічнага факультэта БДУ. Вершы друкаваліся ў часопісе "Маладосць". У штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва" — упершыню.

***

"Бязрукая!" —
грукае
кубак
з падлогі.

"Бяздумная…",
думаю.
Вось дзе
загадка.

"Бяздушная" —
душа мне
побач
з табою

бессань
ці
бессэнсоўнасць?..

***

Піць віно тваіх сноў
і шукаць колер болю.
Дзе ты, мой птушкалоў?
Трапіў сам у няволю?

Сталі горкімі сны,
боль, зусім ужо хатні,
мае колер вясны —
колер сценаў вар'ятні.

***

руны дрэваў ўкрыжавалі поўню
і павольна цягнуцца на поўнач
і паўсюль на
пыльным небасхіле
павуцінне

***

адбіткі пальцаў на вакoнным шкле.
за шклом — ліхтар,
маўчанне штучнай поўні.
і водар кавы, тонкі і няўлоўны,
нібыта повязь з рэчаіснасцю, але…

адбіткі пальцаў на вакoнным шкле.
шукаю выйсця, прагнучы прасторы.
хоць і ў калодзежы, але не бачны зоры,
каб выдыхнуць ім "…ну, і што далей?!"

адбіткі пальцаў на вакoнным шкле



Фота Раісы Марчук

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

6 жніўня 2010 г. Выпуск 8

Аўтограф

# Увесь кніжны кантынент

Прачытаўшы аўтограф, які ў маім нататніку пакінуў для "Кніжнага свету" Адам Мальдзіс, зразумела: гэта найлепшы водгук: "Добра, што нарэшце з'явілася выданне, у якім, нібы ў люстэрку, бачны ўвесь сённяшні беларускі кніжны кантынент". А на словах даследчык дадаў: "Я пра такую газету марыў даўно"...



— Чаму, Адам Восіпавіч?

— Нягледзячы на тое, што нябожчык Уладзімір Караткевіч гаварыў, што ў мяне многа рамантыкі і я — нерэалізаваны празаік, усё-такі я чалавек сістэматычны. І для мяне ў савецкія часы, калі "Книжное обозрение" ахоплівала і Беларусь, гэта была самая патрэбная газета. Менавіта таму, што я даведваўся, якія кніжкі выйшлі пра Беларусь не толькі ў нашай рэспубліцы, але і па-за яе межамі і мог іх заказваць. Так я звычайна заказваў кнігі ў кнігарнях па гэтаму "Книжному обозрению" на цэлы год. А цяпер дзе даведвацца, што кніга выйшла? — Тэмпланы выдавецтваў пераважна калі і выходзяць у друк, то звычайна для ўнутранага карыстання. А ў прыватных выдавецтвах увогуле планаў няма. Таму што яны не ведаюць, выйдзе кніга ці не, ці будзе ўяе фінансаванне. Цяпер нельга сачыць за кніжным патокам, а ён узрастае! Я цяпер рэдагую матэрыялы па літаратурных мясцінах Беларусі для часопіса "Маладосць" і бачу, што кожны год паток літаратурнай інфармацыі, у тым ліку па Беларусі, узрастае ці не ўдвая. Да таго ж мы вельмі часта пра нейкую кнігу даведваемся з вялікім спазненнем, калі яна ўжо даўно прададзена. І многія кнігі застаюцца па-за ўвагай.

Таму новаствораны "Кніжны свет" вельмі важны. Цяпер я маю магчымасць сачыць за тым, што выдадзена, па бібліяграфічным раздзеле. Хай інтэлігенцыя ведае, якія кнігі ў нас выходзяць.

— Што вы чытаеце цяпер? Традыцыйна мы пытаемся ў нашых сурazмоўцаў, ці была тая кніга, якая паўплывала на ваш лёс?

— Ведаеце, такіх кніг было многа. У дзяцінстве ў мяне было жаданне прачытаць усё. Пасля вайны ды акупацыі кніг было вельмі мала і фактычна ўсё тое, што я мог дастаць у суседзяў, альбо потым у школьнай бібліятэцы, вельмі хутка прачытваў. У мяне тады з'явілася ідэя-фікс: прачытаць усё, што выдадзена. І я да сёмага класа запісваў змест кніг, каб не забыцца пра іх, у сшытак. Потым зразумеў, што гэта немагчыма. А ў наш час гэта абсалютна немагчыма!

Што я чытаю? — Пераважна тое, што напісана нашымі суайчыннікамі. Цяпер толькі што закончыў чытаць кнігу пра нашу дыяспару, выдадзеную ў Новасібірску. На жаль, для душы чытаць часу зусім няма. У мяне вялізны стос — кніжак дваццаць, якія трэба адрэцэнзаваць. Часам на сон, праглядаючы "Полымя", "Маладосць" і, зразумела, "ЛіМ", нечым захопішся і чытаеш.

— Можа б вы вызначылі самага, на ваш погляд, рамантычнага героя ў беларускай літаратуры?

— Мне падаецца, такая асоба ёсць у Караткевіча. Можа, цяжка сказаць якраз пра гістарычную асобу. Мне б хацелася сказаць, што гэта той Кастусь Каліноўскі, які ў рамане "Каласы пад сярпом тваім". Але там ён яшчэ эпізадычная фігура. А вось ужо Хрыстос, які воляй аўтара стаў героем рамана "Хрыстос прызямліўся ў Гародні", — гэта, уласна кажучы, увасабленне ўжо народных імкненняў. Мне здаецца так... Увогуле, Уладзімір Караткевіч зрабіў пераварот ува мне. Мы неяк сядзелі каля крыжа ў мяне на радзіме, на Астравеччыне. Хадзіла легенда, што і Кастусь Каліноўскі каля гэтага крыжа не мог не быць. І Караткевіч мне гаворыць: а давай напішам на адну і тую ж тэму два творы. Паводле мясцовай легенды. Так нарадзілася ў мяне аповесць "Восень пасярод вясны". А Караткевіч пачаў пісаць аповесць "Крыж Аняліна", напісаў першы раздзел, а потым яго павярнула ў бок Вялікай Айчыннай вайны і гэта засталося незакончаным творам, у трэцім томе Караткевічавага васьмітомніка ён ёсць. А ён рады быў, што нешта атрымалася ў мяне.

Дарэчы, ёсць адзін верш, напісаны фактычна Уладзімірам Караткевічам, як прадаўжэнне верша Уладзіслава Сыракомлі. Ад верша Сыракомлі "Ужо птушкі пяюць усюды" засталіся толькі два куплеты, можа быць, больш і не было. Караткевіч рашыў напісаць да яго працяг. Напісаў, і нікто пра гэта не ведаў. І потым, калі толькі я ўбачыў, што гэты верш хочуць уключыць у збор твораў Уладзіслава Сыракомлі, на адной з навуковых канферэнцый я ва ўсім прызнаўся. Цяпер гэты верш можна ўключаць і ў збор твораў Сыракомлі з прыпіскай, што адна частка напісана Караткевічам, і ў збор твораў Караткевіча. Так часам з'яўляюцца містыфікацыі.

Ірына ТУЛУПАВА

Фота Марыны Весялухі

Калаж Віктара Калініна

## Вітрына

# "Раніца" ў Гродна

## У кніжнай краме горада над Нёманам нядаўна прададзена кніга "Язык цветов и русский травник"... за 679 тысяч рублёў

Кнігарня "Раніца" ААТ "Гроднакніга" — напэўна, самае любімае месца гродзенскіх кнігалюбаў: размешчана яна ў цэнтры Гродна, ды і асартымент кніг, прадстаўленых тут, уражвае разнастайнасцю. І не дзіўна — гэта ж самая вялікая кніжная крама ў горадзе. Яна з'яўляецца апорным пунктам выдавецтва "Мастацкая літаратура" і паспяхова працуе з 1962 года.



Кнігарня "Раніца" — гэта тры вялікія светлыя гандлёвыя залы (вучэбная літаратура; дзіцячая і мастацкая кніга; кулінарыя, мастацтва, псіхалогія); аддзел канцтавараў; ветлівы і дружны, актыўны калектыў. "Раніца" — кніжная крама універсальнага тыпу, і мы стараемся, каб усё новае, што з'яўляецца ў беларускіх выдавецтвах, адразу ж трапляла і на нашы паліцы, — расказвае загадчыца кнігарні Алена Белавусава. — Для зручнасці прадукцыя кожнага айчыннага выдавецтва размешчана на асобных паліцах".

Самае прыярытэтнае месца ў краме — пры ўваходзе — займае беларуская літаратура. І такі гандлёвы крок здаецца цалкам лагічным: айчынныя выданні запатрабаваны ў наведвальнікаў "Раніцы". "Але, — дадае Алена Іванаўна, — хацелася б, каб асартымент сучаснай беларускай літаратуры і нашай класікі быў больш разнастайным, бо яна дастаткова папулярная сярод чытачоў".

А пастаянных наведвальнікаў у "Раніцы" сапраўды шмат. Сюды прыходзяць і тыя, хто цікавіцца кнігай, і выпадковыя пакупнікі, людзі, што трапляюць у кніжны магазін першы раз і здзіўляюцца: "Якая крама! Я ўсё жыццё пражыў у Гродне і не ведаў, што ёсць такая кнігарня!"

У "Раніцу" як самую вялікую кнігарню горада звычайна ідуць па літаратуру дарагую, падарункавую, і яе тут сапраўды шмат. "Мы нядаўна прадалі кнігу, — прыводзіць прыклад Алена Іванаўна, — якая каштавала 679 тысяч рублёў. Вельмі прыемна, калі прыходзяць у краму людзі, якія сапраўды любяць кнігу, чытаюць і купляюць і класіку, і сучасную літаратуру".

Для папулярызацыі кнігі і акцэнту на асобныя выданні, у "Раніцы" пастаянна дзейнічаюць тэматычныя выставы, а аб'явы на ўваходзе інфармуюць наведвальнікаў пра навінкі, што паступілі ў продаж у апошні час. У дзень майго наведвання кнігарні тут дзейнічала адмысловая выстава "З днём нараджэння, кніга!", якая інфармавала пра юбілеі любімых кніг. Супрацоўнікі кнігарні сабралі дадзеныя пра самыя вядомыя творы, зрабілі выбарку, калі яны былі напісаны ці выдадзены ўпершыню. Напрыклад, "Дон Кіхот" ў гэтым годзе спаўняецца 405 год з дня напісання. Першапачаткова планавалася, што выстава будзе насіць інфармацыйны характар: не для рэалізацыі тавараў, а для пашырэння кругагляду наведвальнікаў. Але так атрымалася, што ў той дзень пакупнікі звярталі ўвагу і набывалі кнігі менавіта з гэтай выставы.

У "Раніцы" пастаянна працуюць выставы альбомаў, і краязнаўчай літаратуры "Мая Беларусь" і "Мой горад". Неабходнасць існавання такіх паліц тлумачыць Алена Белавусава: "Мы знаходзімся ў цэнтры горада, таму, асабліва ўлетку, да нас наведваецца шмат турыстаў, якія набываюць брашуры, буклеты. І мы стараемся папаўняць асартымент такой літаратуры: альбомаў па гарадах, абласцях Беларусі, кніг пра нашу архітэктуру, нашу культурную спадчыну (на паліцы я заўважыла і нядаўна выдадзеную кнігу Армэна Сардарава і Адама Мальдзіса "Даўняя Беларусь: 3 настальгіяй аб мінулым". — М. В.). Гэта тое, што карыстаецца попытам і не толькі сярод замежнікаў, але і сярод жыхароў нашага горада. Крама самая вялікая, і мне ўяўляецца, што тут павінна быць усё. Тое, што нельга знайсці ў іншых кнігарнях горада, тут павінна быць абавязкова. Хочацца верыць, што ў нас з'явяцца новыя кліенты, і вельмі прыемна, што мы маем пастаянных пакупнікоў, якія любяць кнігу".



Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: загадчыца крамы Алена Белавусава; акцыя "З днём нараджэння, кніга!"; у гандлёвай зале; кнігарня "Раніца".

Фота аўтара





## У выдавецкім партфелі








# Усе колеры вясёлкі!..

Разам з часопісам "Вясёлка" РВУ "Літаратура і Мастацтва" распачынае новы выдавецкі праект — выданне кніжнай серыі "Бібліятэка часопіса "Вясёлка". "Першая ластаўка" — зборнік нарысаў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Ліпскага "Вясёлка над Нёманам". Кніга, у паднaзву якой вынесена наступнае ўдакладненне: "Дзецям пра Гродзеншчыну", адкрываецца ўступным словам старшыні Гродзенскага аблвыканкама, доктара эканамічных навук Сямёна Барысавіча Шапіры. Вось што ён, у прыватнасці, піша, звяртаючыся да школьнікаў рэгіёна: "Гродзенская вобласць вельмі маладая. Утворана 20 верасня 1944 года. А зямля наша — старажытная, гераічная, мужная. На ёй даўней былі Гродзенскае ваяводства, староства, Гродзенская эканомія, губерня.

У нашай вобласці — 4457 вёсак, 12 гарадоў, 21 гарадскі пасёлак, 17 сельскіх і 2 гарадскія раёны. У межах вобласці пражываюць 1 мільён 211 тысяч жыхароў розных нацыянальнасцей. А найменне ва ўсіх адно — гродзенцы, грамадзяне Рэспублікі Беларусь". І далей: "…наша зямля старажытная, яна ўступіла ў XXI стагоддзе маладой, квітнеючай, прывабнай і для гродзенцаў, і для іх гасцей з усяго свету. Спытаеце, у чым сакрэт нашай маладосці: А я ў адказ прывяду яскравыя лічбы: у нашых дзіцячых яслях і садках выхоўваюцца 44,9 тысяч дашкольнікаў, у школах, гімназіях, ліцэях, каледжах набіраюцца ведаў 143, 1 тысячы школьнікаў і навучэнцаў, а яшчэ ў нас вучацца 14,5 тысячы студэнтаў. Вось які скарб мае вобласць, вось якая інтэлектуальная, разумовая, таленавітая змена ідзе ў заўтрашні дзень.

Каб вы, нашы дзеці, наша надзея спаўна былі гатовы рэалізаваць свае здольнасці, таленты, для гэтага трэба спачатку выхаваць у сабе пачуцці патрыятызму, грамадзянскай адказнасці за сваю родную зямлю. Трэба напачатку спазнаць і ўмець шанаваць сваю малую радзіму і да слёз навучыцца любіць нашу Бацькаўшчыну, мілую Айчыну Беларусь.

У гэтай высакароднай справе, веру, дапаможа вам унікальная кніга "Вясёлка над Нёманам" пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сцяпанавіча Ліпскага. Вопытны майстар літаратурнага слова, верны сябар дзяцей, не раўнадушны да жыцця чалавек, ён па-свойму арганізуе вандроўку ва ўсе раёны вобласці, з захапленнем расказвае старонкі багатай гісторыі, умела вядзе чытача ў таямніцы, загадкі спадчыны, якая ўбірае ў сябе мудрасць продкаў і сучаснікаў, велічныя постаці знакамітых людзей, багацце нашых радаводаў, прозвішчаў, назваў гарадоў і вёсак…"

Кніга, прыдуманая і выхаджаная, сабраная Уладзімірам Ліпскім, сапраўды унікальная. Пісьменнік, пабываўшы ва ўсіх куточках Гродзеншчыны, здолеў стварыць лаканічныя партрэты кожнага з раёнаў вобласці. Падарожныя нарысы складаюцца з некалькіх раздзелаў: прыкладам, "Астравеччына прыродай і людзьмі ўвенчана" — "Дуб і стронга" (патлумачваецца змест геральдычнага знака Астраўца), "Далёкі раён" (пра дзень сённяшні на Астравеччыне), "Парашутысты" (пра братоў Драўніцкіх, якія займаліся выпрабаваннем першых парашутаў Расійскай імперыі), "Нястомны вандроўнік" (пра ўраджэнца вёскі Расолы даследчыка гісторыі і культуры Беларусі Адама Мальдзіса). А завяршае раздзел пра Астравеччыну казка пра астравецкія прозвішчы "Пошукі кухарчыка". У кожным з раздзелаў — зварот пісьменніка да такіх тэмаў, як герб горада ці гарадскога пасёлкі, якія найболей распаўсюджаныя прозвішчы ў тым ці іншым рэгіёне. Чытаецца кніга лёгка, складваецца ўражанне прысутнасці ў розных старонках Гродзеншчыны — у Ашмянах і Шчучыне, у Ваўкавыску і Воранаве Дзятлаве і Мастах, Навагрудку і Шчорсах… Багацце імёнаў і лёсаў, легенд, казак, паданняў, раскіданых па старонках "Вясёлкі над Нёманам", проста ўражваюць.

Асобным складнікам у знаёмстве з кнігай Уладзіміра Ліпскага з'яўляецца мастацкае афармленне зборніка. Размова ідзе не толькі пра ілюстрацыі да асобных фрагментаў кнігі. Мастак Уладзімір Жук здолеў выбудаваць мастацкую прастору "Вясёлкі над Нёманам" такім чынам, што кожны з раздзелаў з'яўляецца завершаным мастацкім аповедам. Як прыкладам — нарыс "Навагрудак — новы горад". Адкрываецца ён ілюстрацыяй на палову кніжнай старонкі. Малюнак дубравы, над якім — герб старажытнага горада, выстаўлены над загалоўкам. Тэкст на гэтай старонцы — усяго з трох вершаваных радкоў У.Караткевіча: "Дзе мой край? Там, дзе вечную песню пяе Белавежа, / Там, дзе Нёман на захадзе помніць варожую кроў, / Дзе на ўзвышшах Наваградскіх дрэмлюць суровыя вежы…" Перагортваеш старонку — і адкрываеш стылізаваную карту Навагрудчыны. Аб'ектаў на ёй і паселішчаў — не дужа шмат: Навагрудак, Валеўка, Шчорсы, Уселюб, Налібокі, Мольнічы, Бенін, Любча, рэкі Нёман, Пліса, Кранушэўня, возера Свіцязь. Але затое, наколькі ёміста і выразна здолеў мастак гэтым малюнкам-картай паказаць гісторыю і сучаснасць рэгіёна. Красамоўству кніжнага графіка можна пазайздросціць. Уладзімір Жук уважліва "прачытвае" гісторыка-краязнаўчы тэкст У.Ліпскага, узбагачае досвед пісьменніка сваімі ўласнымі адкрыццямі. Вось і з герба Навагрудка вылучае галоўнага персанажа — Архангела Міхаіла, які паказаны ў чорнай вопратцы на геральдычным знаку. Чытаем пісьменніцкія развагі: "З даўнейшага летапісу даведваемся, што Навагрудская зямля раней называлася Чорнай Руссю. Чаму так? Ды таму, што яе жыхары не адразу прынялі хрысціянства, як гэта зрабіла Белая Русь — Полаччына і Віцебшчына. Можа, таму і Архангел Міхаіл на гербе ў чорнай вопратцы?" І ўжо на палосным малюнку герой з герба паўстае ў іншых колерах, Архангел Міхаіл у "прачытанні" Уладзіміра Жука набывае ўзнёсласць, а прастора, у якой ён паказаны, — ілюстрацыя да Навагрудчыны, яе жыццяпісу ўвогуле.





Кніга гісторыі пра Гродзеншчыну перш-наперш адрасавана малодшым школьнікам. Але яшчэ — і настаўнікам, бібліятэкарам, бацькам, "усім тым, хто працуе з дзецьмі, хто дбае, каб у нашай незалежнай і суверэннай краіны быў заўтрашні дзень…" І малюнкі ў гэтым адмысловым гісторыка-асветніцкім праекце адыгрываюць далёка не апошнюю ролю, а наадварот — спрыяюць усведамленню тых адкрыццяў, якімі насычаны багаты тэкст, дазваляюць чытачу ўключаць у засваенне матэрыялу вобразнае, мастацкае мышленне.

Застаецца толькі чакаць, калі ў школы і, магчыма, публічныя бібліятэкі Гродзеншчыны прыйдзе сапраўдны падарунак — кніга пра гісторыю старажытнага краю.

Мікола БЕРЛЕЖ

## Пад вокладкай
















1. Гурыновіч, Хв. Застаецца вера: выбранае / Хведар Гурыновіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 160 с.

Новую кнігу лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра паэта Хведара Гурыновіча склалі лепшыя вершы з яго дзесяці папярэдніх зборнікаў. Шчыра і балюча гучаць радкі пра нашу Айчыну. Яны прасякнуты клопатам аб зялёных сцяжынках маленства, аб шляхах-пуцявінах юнацтва, куды з узростам усё часцей вяртаецца чалавек. Кніга — шчымлівы расповед пра родную зямлю, яе людзей, пра веру ў Бога, у каханне, у тое, што дзень нашчадкаў будзе больш светлым, — без чаго жыць было б проста немагчыма.

2. Цітоў, А.К. Геральдыка Беларусі. / А. К. Цітоў. — Мінск: Мінская фабрыка каляровага друку, 2010. — 144 с.

Інтарэс да геральдыкі як культурнай з'явы ў розныя часы і на розных этапах развіцця грамадства не быў аднолькавы. Найбольшы застой і нават вострае яе непрыманне назіралася ў 1970-80-х гг. Тым не меней сёння геральдыка ўспрымаецца як асобная навука. Веданне і разуменне яе дазваляюць убачыць крытэрыі прыгажосці, якія існавалі ў розныя часы, што неабходна і пры вывучэнні гістарычных дакументаў.

3. Баженова, О. Д. Радзивилловский Несвиж. Росписи костела Божьего Тела. / Ольга Баженова. — Минск: Харвест, 2010. — 416 с.

У аснове даследавання — шматгадовая праца аўтара ў архівах Польшчы, Літвы, Беларусі. У выданні прадстаўлены звесткі пра дынастыю Радзівілаў, іх удзел у развіцці культуры, жывапісу і архітэктуры Вялікага княства Літоўскага XVIII ст. Увага апавядальніка засяроджана на гісторыі стварэння роспісаў Нясвіжскага касцёла Божага Цела, дзе дакументальная дакладнасць суседнічае з удумлівай інтэрпрэтацыяй падзей.

4. Сержпутоўскі, А. К. Гняздоўе белых буслоў: казкі і апавяданні беларусаў-палешукоў. / А.К. Сержпутоўскі. — Мінск: Вышэйшая школа, 2010. — 318 с.

Казкі, запісаныя Аляксандрам Сержпутоўскім, заўсёды застаюцца актуальнымі ў беларускай культурнай прасторы. Чарговае іх выданне — не выключэнне. Запісы і назіранні славутага беларускага фальклapыста, этнографа, мовазнаўцы даюць шырокую карціну жыцця сялян дарэвалюцыйнага Беларускага Палесся, раскрываюць іх культуру, палітычныя і філасофска-эстэтычныя погляды, знаёмяць з лепшымі беларускімі казачнікамі. Першы зборнік казак А.К. Сержпутоўскага пасадзейнічаў з'яўленню цэлай кагорты збіральнікаў і фальклapыстаў. Застаецца спадзявацца, што і гэта выданне будзе мець такі ж вынік.

5. Фаулз, Джон Волхв. / Джон Фаулз. — Москва: Эксмо, Санкт-Петербург: Домино, 2009. — 816 с.

За што можна не любіць раманы Джона Фаулза? За тое, што пры іх чытанні ўзнікае пачуццё, што з табой гуляюць, цябе, сумленнага і разумнага, адукаванага чытача, блытаюць, зусім не лічацца з тваёй думкай і разбураюць меркаванні пра герояў, складзеныя за доўгія старонкі знаёмства з імі. За тое, што чытаючы дакладна не ведаеш, хто з герояў станоўчы, а хто адмоўны, і нават іх унутраныя маналогі не ратуюць. За тое, што не ведаеш, што адбудзецца ў наступнай главе, на наступнай старонцы, нават у наступным абзацы, не кажучы ўжо пра тое, чым усё скончыцца. Зрэшты, пералічанае — добрыя падставы для таго, каб захапляцца творамі сапраўднага постмадэрніста Фаулза. І пачаць лепш з "візітнай карткі" аўтара — рамана "Волхв".

З кнігамі знаёміла
Марына ВЕСЯЛУХА

Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by

# Два апавяданні



Юры НЕСЦЯРЭНКА

## Адно пытанне

Той тэлефон я яшчэ доўга не мог адрамантаваць. Падклейваў яго, замотваў ізаляцыйнай стужкай. У ім нешта ўвесь час адыходзіла, ён то званіў, то не званіў. Вядома, што ў гэтых маіх пакутах лягчэй за ўсё было абвінаваціць амерыканцаў, але ці правільна тое было б з майго боку?

Неяк у суботу вечарам патэлефанавала сястра. Сказала, што прыходзіў Мікола Малусевіч з нейкім пісьмом з Амерыкі. Быццам у Каліфорніі адшукаліся ягоныя сваякі, якія ў бліжэйшыя дні будуць тэлефанаваць, і што, мабыць, спатрэбіцца мая дапамога. Назаўтра з раніцы Мікола павінен сам зайсці і падрабязна ўсё расказаць. Я не стаў удакладняць дэталяў, паклаў трубку і выйшаў на двор, разважаючы пра непрадказальнасць вясковага жыцця і пра незвычайную часам ролю ў ім мясцовага настаўніка.

Мікола аб'явіўся толькі назаўтра ў другой палове дня (пазней я выпадкова даведаўся, што ён ужо два дні хадзіў па знаёмых і частаваўся гарэлкай, карыстаючыся ўсеагульнай цікавасцю да таямнічага пісьма). Я сустрэў яго ў калідоры, калі збіраўся выйсці на двор. Крыва ўсміхаючыся, абдаючы перагарам, ён палез быў абдымацца, але, зірнуўшы мне ў вочы, перадумаў і мітусліва пачаў корпацца ў кішэнях. «Зараз, Кастусь, зараз…» — мармытаў ён сам сабе, пляскаючы далонямі па фуфайцы і штанах. Ён выглядаў гадоў на дзесяць старэйшым, хоць мы былі амаль што равеснікі. Некалі Мікола скончыў сярэдняе ваеннае тэхнічнае вучылішча, але сяброўства са спіртным дужа паўплывала на ягоную кар'еру і асабістае жыццё. Ён прыехаў на радзіму з апошняга месца службы без сям'і, без звання, без грамадзянскай спецыяльнасці.

Нарэшце Мікола дастаў зацёрты, пакамечаны ліст паперы з кішэні штаноў, а аднекуль з-за пазухі — канверт, разарваны па ўсіх швах. «Глядзі, Кастусь, —усхвалявана пачаў тыкаць Мікола ў надпісы «Malusevich» і «California», і, паступова павышаючы голас, амаль што крычаць. — Гэта маё, разумееш? Маё прозвішча! Бяры, чытай пісьмо!»

Пісьмо было напісана на дрэннай рускай мове. Сям-там праскоквалі беларускія словы. Пісаў родны брат Міколавага дзеда. Ён радаваўся, што адшукаў сваякоў, коратка распавядаў аб сваіх сынах — старэйшы быў доктар, малодшы рок-музыкант. На момант напісання пісьма малодшы сын-музыка быў на гастролях — выступаў у Японіі. На апошні факт Мікола асабліва націскаў, ведаючы пра маё захапленне рок-музыкай — ён выхопліваў пісьмо з рук і дрыготкім голасам каментаваў: «У Японіі! Ты разумееш? Са сваім уласным гуртом!» Ён лупіў мяне па плячы, штурхаў у грудзі, махаў перад вачыма паперай і шчыра не разумеў, чаму ж і я так экспрэсіўна не падзяляю ягонага захаплення. Яго ўласны выгляд запэўніваў у тым, што я павінен скакаць, прысядаць і таксама лупіць яго па плячах. «Ты не зразумеў, Кастусь! Глядзі — «Malusevich», «California»! А ён, мой дзядзька, на гастролях! У Японіі!» Я далікатна перачытаў пісьмо яшчэ раз і, адчуваючы сябе некалькі вінаватым, ветліва спытаўся, што ж патрабуецца ад мяне?

Мікола адхіснуўся ад мяне, як ад пякучага полымя, і, акругліўшы вочы, ціха прасіпеў: «Кастусь…» Ён зрабіў вялікую паўзу, павольна споўз спіной па касяку дзвярэй, прысеў, апусціў нечакана ацяжэлую галаву. Потым страпянуўся, паглядзеў на мяне тужлівымі вачыма бяздомнага пса і запытаў: «Кастусь, што мне ім сказаць?»

Я без цені сумневу адказаў, упэўнены ў логіцы сваіх слоў, што размаўляць з імі можна аб усім. Хвалявацца тут няма чаго — аб чым запытаюць, пра тое і кажы. Час ужо, дзякуй Богу, даўно змяніўся. Зразумела, трэба падтрымаць іхнюю цікавасць да нашага жыцця — прапанаваць часцей тэлефанаваць, прыехаць у госці.

Мікола глядзеў на мяне не міргаючы. Мне здалося, што ягоныя вочы напоўніліся мудрым разуменнем таго, што адбывалася. Як быццам нейкі першабытны імпульс адкрыў яму сутнасць гэтай таямніцы — глабальнага аб'яднання славянскіх душ у сусветным маштабе. Ён аблізаў губы і, зачаравана гледзячы мне ў вочы, прашаптаў: «Кастусь, ты ж зразумей, яны ж там… А я тут… Разумееш? Што ж я ім скажу?»

Толькі пазней, узгадваючы сустрэчу з Міколам, я падумаў аб тым, што ў своеасаблівы кульмінацыйны момант Міколавага маналога наступаў час, калі я павінен быў наліць яму чарку. Але, як і ўласціва ўзнёсламу ідыёту-інтэлектуалу, няўважліваму да мясцовых умоўнасцей, я нават і не падумаў аб нечым такім, у думках заняты варыянтамі адказу на пісьмо і тэмай магчымай размовы з амерыканцамі па тэлефоне. Свае разважанні я сістэматызаваў і добрасумленна прадставіў Міколавай увазе.

Той, быццам я нічога толькі што не казаў яму, падняўся з парога і запытаў: «Кастусь, а як жа я буду з імі… Яны ж у Амерыцы… ШТО мне ім казаць?»

Магчыма, нейкі псіхалагічны бар'ер — калі межы яго ўласнага сусвету рэзка пашырыліся да маштабаў планеты — не даваў яму спакою. Можа, і так — думаў я ў той момант... Але тое, што Мікола нават не звярнуў увагі на маю прамову, вядома ж, закранула. Паўтарацца я не стаў. Я ўвогуле нічога не адказаў, калі ўбачыў, што размова не атрымліваецца. З канчаткова сапсаваным настроем я падумаў, што Мікола нарэшце развітаецца са мной. Але той думаў трошкі інакш. Пашавяліў перасохлымі губамі, трагічна гледзячы некуды паўзверх маіх вачэй, і зноў узяўся за сваё: «Кастусь, а што я ім скажу?..»

Напэўна, ужо нават я здагадаўся расцаніць гэтае пытанне як вытанчанае здзекаванне хітрага п'яніцы з сумленнага чалавека, таму што пасля майго адказу ў калідор выглянула жонка і запыталася: «У вас усё добра?». Я рэзка прапанаваў ёй зачыніць дзверы і, павярнуўшыся да Міколы, паспрабаваў падвесці вынік нашай размовы, апошні раз растлумачыўшы, што калі яму спатрэбіцца мая дапамога — я заўсёды гатовы! Толькі мне патрэбна ведаць, што трэба рабіць ДАКЛАДНА.

Мікола доўга глядзеў мне ў твар, потым нізка апусціў галаву і стаў пляскаць па кішэнях. Ён выцягнуў абрыўкі канверта ды напалову разарванае пісьмо і пачаў паказваць зразумелыя яму фразы на англійскай мове і зачытваць асобныя фразы на рускай. Я сціснуў зубы і, спрабуючы захаваць стрыманасць, перапыніў яго і пераказаў усё пісьмо ад пачатку да канца. Ён вытрымаў паўзу і шэптам спытаўся: «Кастусь, аб чым я буду з імі размаўляць?»

Памятаю вельмі цьмяна, як у парыве шаленства я выпіхнуў гэтага беднага чалавека на вуліцу, як ён ашаломлена глядзеў на мяне і мармытаў нешта накшталт: «Добра, добра…У чацвер… Размова… Ты будзеш побач… Толькі аб чым …» Са страшэнным грукатам перад ягоным носам зачыніліся дзверы.

Назаўтра з раніцы Мікола патэлефанаваў: «Кастусь, прабач алкашу! Бязглуздзіцу нёс — п'яны быў! Гаварыў сам не разумеў што. Ты ж ведаеш — гарэлка сваю справу робіць…» Я адказаў, што ўсё нармальна, што я і сам пагарачыўся, і што не трэба было мне так груба размаўляць з чалавекам, што выпіў, хай сабе і крыху лішняга. Увесь наш дагавор застаецца ў сіле — чым змагу, заўсёды дапамагу. «Кастусь, яны ж у чацвер будуць тэлефанаваць?» — нечакана запытаўся Мікола. Я чамусьці разгубіўся, адказаў зацвярджальна і не прадугледзеў наступнага пытання. Можна сказаць, зусім не падрыхтаваўся да яго. А Мікола памаўчаў крыху і спытаўся: «…Кастусь, аб чым я з імі буду гаварыць?»

Каб вы не падумалі, што я нейкі вар'ят і разбіў той тэлефон, павінен растлумачыць, што ён проста зваліўся з паліцы. Можа быць, я няўдала ці неяк рэзка павярнуўся ці адышоў, хто яго ведае? А пра Міколавых амерыканцаў я так больш нічога і не чуў, бо ў хуткім часе змяніў месца працы і жыхарства.

Я пару разоў бачыў Міколу пасля таго памятнага выпадку, аднак быў ён у такім стане, што заставалася толькі зрабіць вывад — у амерыканскіх сваякоў з цягам часу павінна назбірацца ўсё больш і больш пытанняў да майго земляка. Але якое пытанне было найважнейшым для самога Міколы, ведаў толькі ён адзін.

## Адпаведны рай

Па ўсім было відаць, што ў Смілавічах добра ставіліся да грамадзян, не маючых пэўнага месца жыхарства. Дакладней, сацыяльная дапамога для гэтых людзей была наладжана смілавіцкай адміністрацыяй на дастаткова высокім узроўні. Бамжы ніколі не хадзілі тут у бруднай вопратцы. Для іх былі арганізаваны спецыяльныя кропкі, куды яны здавалі свае рэчы, а ўзамен атрымлівалі чыстыя. Гэта быў "second hand", але адзенне заўсёды было якаснае і нават моднае. Да бамжоў ставіліся ветліва і ўважліва. Для іх было арганізавана нешта падобнае да лазні. Зразумела, басейна і саўны там не было, але душ з гарачай і халоднай вадой, бясплатныя мыла і шампунь, аднаразовыя ручнікі, — усё гэта мела месца.

Усіх без выключэння кармілі ў спецыяльнай бясплатнай сталовай. Медыцынская дапамога была наладжана па лініі аднаго з "крыжоў" (ці то чырвонага, ці то зялёнага) і працавала вельмі актыўна. Для ўсяго кантынгенту, які стаяў на ўліку, прапаноўвалася праца. Хто хацеў, мог працаваць цэлы дзень, хто такога жадання не меў, мог працаваць палову дня. Грошы выплачваліся па заканчэнні дня. Невялікія, але на цыгарэты ды цукеркі хапала.

Начаваць можна было ў спецыяльным інтэрнаце, у цёплых і ўтульных пакоях, дзе засцілалі свежую бялізну, выдавалі падушкі, коўдры, і можна было нават паглядзець тэлевізар…

Так я думаў, калі кіроўца аўтобуса "Магілёў — Мінск" усё ж такі выштурхнуў бамжа-небараку з салона і праветрыў смурод, што той пакінуў за сабой. Бомж ехаў з Беразіно, хаваючыся на самых апошніх сядзеннях. Грошай хапіла толькі на квіток да Смілавічаў. Ён вельмі прасіўся праехаць хоць крыху бліжэй да Мінска. Якія ў яго там былі справы — невядома. Чалавек гэты быў не надта падобны на звычайных бамжоў. Вопратка ў яго была больш-менш акуратная. Позірк уважлівы, дапытлівы, і, гледзячы на яго твар можна было падумаць, што ў гэтай дзіўнай асобы маглі нават месца нейкія творчыя здольнасці. Яшчэ ў час прыпынку на аўтастанцыі ў Беразіно бомж паспрабаваў загаварыць са мной, калі я выйшаў з аўтобуса падыхаць свежым паветрам. З-за яго дэфекту маўлення я зразумеў толькі некалькі слоў, у тым ліку пытанне "На Мінск?" Мужчына паспрабаваў учапіцца за мой рукаў і нешта сказаць яшчэ, аднак я выхапіў руку і пайшоў да газетнага шапіка, думаючы, што гэта звычайны папрашайка збірае грошы на піва…

Кіроўца яшчэ доўга лаяўся, ні да каго не звяртаючыся, — аўтобус заглох. А бомж застыў на адкрытым участку шашы, спінай да аўтобуса, уціснуўшы галаву ў плечы. Да Мінска заставалася яшчэ кіламетраў трыццаць. Побач на краі асфальта ляжаў пакунак, што кіроўца выкінуў услед за яго гаспадаром. Шалёны вецер шкуматаў вопратку, мокры снег залепліваў твар гэтага чалавека. Можа быць, ён плакаў, можа, яму было сорамна, магчыма, ён пасылаў праклёны, ці наадварот, дараваў камусьці альбо дзякаваў за яшчэ адзін нялёгкі іспыт у сваім лёсе…

Мая сяброўка, калі прачытала вышэй напісаныя радкі, спыталася: "Ты што, не знайшоў іншай тэмы? Адчуваеш віну, што не даў бедаку пару тысячаў, каб ён даехаў да Соснаў ці да Шабаноў? Можаш суцешыцца тым, што ніхто з пасажыраў таксама не падтрымаў жабрака…" Рэдактар вядомага часопіса выдаў рэзюме: "Спадзяешся, што нейкі інтэлектуал, прачытаўшы гэтыя радкі, скажа: "Бач ты, які шляхетны, разважае нават пра лёс бамжа…"? А святы айцец Мікалай з царквы "Новае неба" сказаў, што не толькі людзі, але яшчэ і нехта звыш абавязкова даведаецца ці ўбачыць з нябёсаў, што аўтар пры жыцці пашкадаваў небарак, ды прагучыць з нябёсаў прыкладна наступнае: "Не зусім, значыць, страчаны. Залічым яму гэты выпадак у спіс добрых спраў..."

А я падумаў — не выключаецца, што аповед трапіць да галоўнага героя, таго самага бамжа, што здолеў даехаць толькі да Смілавіч. А ён раптам выпадкова апынецца самым граматным, дасведчаным і выбітным з усіх беларускіх бамжоў, сапраўдным інтэлектуалам і прачытае гэтыя радкі з вялікай удзячнасцю да аўтара. Зразумела, гэта можа здарыцца пры пэўных умовах, калі, напрыклад, наш герой здагадаецца завітаць у інтэрнэт-кафэ, якое працуе пры спецыялізаваным цэнтры сацыяльнай дапамогі мястэчка Смілавічы. Цалкам верагодна, што наведвальнік знойдзе гэта апавяданне ў Сеціве, на спецыяльным сайце адмысловага партала, які зарэгістраваны смілавіцкай сацыяльнай службай для грамадзян без акрэсленага месца жыхарства…

Той самай службай, якая хоць на некалькі імгненняў дазваляе трапіць у рай.

Валянціна БАРАНАВА

# Нашэсце гменаў

Нечакана ўзніклы гук, недарэчны і незразумелы, нічога не выклікаў, акрамя здзіўлення, і жадання, каб ён хутчэй сціхнуў. Але ён не сціхаў, руйнуючы існую гармонію, трывожыў, раздражняў, пакуль не матэрыялізаваўся ў знаёмае слова — будзільнік. Затым з нябыту сфармавалася ўласнае "я". Вызначылася месца і час. І стала ясна, што пара ўставаць і збірацца на працу.

Сцяпан Патлажэля расплюшчыў вочы. Усё вярнулася на свае месцы. Столь, са знаёмымі трэшчынамі, стол, за ім у куце трэльяж. Далей... А гэта што такое? З-за трэльяжа выглядаў круглы цікаўны тварык нейкай маленькай істоты. Зялёныя бліскучыя вочкі, руды чубок і шэры, як павуцінне, востракацовы капялюш з апушчанымі палямі.

Сцёпка працёр вочы. Але істота не знікла. Больш таго, з-за яе выглянулі яшчэ дзве, падобныя на першую, як кітайцы паміж сабой: адразу не адрозніш.

— Хто вы? — Сцяпан сеў.

— Гмены мы. — Адказала першая. Істоты выбраліся з-за трэльяжа і падышлі да канапы. Пакуль рухаліся шэры колер іх капелюшоў і плашчоў памяняўся на карычневы з узорамі. — Ты прабач, што мы скарысталіся тваім шляхам.

— Нічога не разумею...

— Як толькі мы цябе ўбачылі, — насмеліўся сказаць самы маленькі з гменаў, хітра прыжмурыўшы вочкі, — нам раптам захацелася скарыстацца шанцам. Такое не часта выпадае.

Сцяпан выпадкова глянуў на гадзіннік — да пачатку працоўнага дня засталося ўсяго пятнаццаць хвілін.

— Ой, прабачце, спазняюся на працу, — сказаў ён і выскачыў з кватэры.

Да сэрвіснага цэнтра тэлекама, дзе Сцяпан працаваў аператарам, было пяць хвілін хадзьбы. Каштанавая вуліца, па якой яму трэба было ісці, цалкам адпавядала сваёй назве. Купчастыя каштаны засланялі сабой усё неба не толькі над ходнікам. Галіны дрэў выцягнуліся праз праезджую частку і перапляліся ў суцэльны зялёны шацёр. Тут панавалі прыцемак і цішыня, якая зрэдку парушалася шумам машынных матораў. І паўсюль былі гмены. У такой колькасці, што пералічваць іх было поўнай бяссэнсіцай. Дзякуючы мімікравальнаму адзенню, яны амаль зліваліся з асяроддзем. Дзе яны толькі не былі: на дрэвах яны нібы вавёркі скакалі з галіны на галіну, хаваліся ў траве, зрэдку выскоквалі на ходнік, але хутка зноў хаваліся. І паўсюль быў чутны ціхі шэпт і смех.

Сцяпан спазніўся на працу. Атрымаўшы ад начальніка дзяжурную вымову, небарака заняўся звыклай справай, а менавіта, бясконцым раскладваннем пасьянса. Галоўным абавязкам Сцяпана было абслугоўванне кліентаў, безуважлівых ці злосных неплацельшчыкаў. Таму раз у месяц ён аўтаматычна каго адключаў, а каго зноў падключаў.

Так і зараз. Зручна ўладкаваўшыся ў фатэлі, ён паглыбіўся ў творчы працэс перакладання карт.

— Чаму вы такія розныя? — Пачуўшы гэта, Сцяпан здрыгануўся. — З-пад стала на яго глядзеў гмен. Хлопец мімаволі паглядзеў на свайго начальніка, які паглыбіўся ў планы і справаздачы: сапраўдны супермен, прыгожы і падцягнуты, з густой кучаравай шавялюрай, у гарнітуры, не горш, чым у дыпламата. Потым паглядзеў у люстэрка, якое вісела на сцяне насупраць. Адтуль на яго глянуў нейкі суб'ект, з урослай у вузкія плечы галавой, у швэдэры і патрапаных джынсах. Вузкі твар і непрыгожа перакошаны лоб. Адзінае, што было прывабным на гэтым твары, гэта вочы — вялікія, цёмна-сінія, з доўгімі густымі вейкамі. Але Сцяпан гэтага не заўважаў.

"Але, розныя, і не на маю карысць", — мільганула ў думках.

— Адкуль вас гэтулькі насыпалася на маю галаву? — падумаў ён услых.

— Калі у нас з'яўляецца чужынец, мы можам па яго зваротным шляху патрапіць на яго радзіму. А гэта здараецца не так ужо і часта. І калі ты з'явіўся... Мы, гмены, лічымся не ў меру цікаўнымі, і вялікімі непаседамі. Таму мы і тут. Каб вярнуцца дахаты, нам зноў жа патрабуецца выпадак: калі чужынец зноў памкнецца да нас.

— Але я нідзе не быў і нікуды не імкнуўся. І наогул, я страшэнны дамасед, — здзівіўся Сцяпан.

— Папраўдзе, я не магу адказаць на тваё пытанні. Калі табе пашанцуе сустрэцца з Садоўнікам, ён табе ўсё растлумачыць. Ці амаль усё. Часам ён не жадае нічога казаць. А цяпер бывай. Я стаміўся седзячы на адным месцы. Тут гэтулькі цікавага. Трэба ўсё паглядзець. — І гмен знік, хутка і нечакана, як і з'явіўся, невядома куды.

...Больш нічога цікавага ў гэты дзень не здарылася, акрамя адключэння трох абанентаў і адной скаргі на дрэнную сувязь.

# Аўра мураванага шэдэўра

## Згадкі пра свята мастацтваў "Мірскі замак-2010"





**Заслужаны калектыў Нацыянальны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам маэстра М. Фінберга правёў гэты фэст пры падтрымцы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Карэліцкага райвыканкама і Мірскага пасялковага выканкама. Мастацка-асветніцкае свята ладзілася ў Міры і Карэлічах ужо восьмы раз і адрознівалася ад папярэдніх не толькі тым, што арганізатары прысвяцілі яго 65-й гадавіне Перамогі — у знак удзячнасці пасляваенных пакаленняў за магчымасць жыць, працаваць, ствараць пад мірным небам. Рэчышча фестывальных традыцый поўнілася новым ідэйна-эстэтычным зместам.**

Ва ўтульным старасвецкім мястэчку, адкуль ці не ўсе вуліцы і сцежкі вядуць да мурожнага берага рэчкі Міранкі, над якім высяцца муры адраджанага архітэктурнага шэдэўра, у той дзень панавалі музы. Прысутнасць няўгледных апякунак прыгожых і самых вытанчаных мастацтваў адчувалася нават у паветры: калі ўдзельнікі фэсту пачалі настройваць інструменты і разыгрывацца перад выступленнем у мясцовым Доме культуры, сцены яго нібы заспявалі, напаўняючы наваколле дзівоснымі сугуччамі. Няцяжка было ўявіць, якім гарманічным утокам сілкавала аўру Міра музыка, што загучала потым у канцэртных праграмах і, пераадольваючы межы залы, у натхнёным вольным парыванні ўзлятала над сонечнай цішынёю суботняга дня...

Зрэшты, загучала яна спачатку не ў самой зале, а ў фае, дзе адкрывалася выстаўка жывапісу студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў "Зямля пад белымі крыламі". Пад крылом вернісажа аб'ядналіся пейзажы, нацюрморты, партрэты — работы маладых мастакоў, чыя таленавітая творчасць ужо звярнула на сябе ўвагу знаўцаў айчыннай арт-прасторы. Ды і нашым чытачам знаёмыя іх імёны: Наталля Табушава, Раман Коршунаў, Антон Вырва... Ансамбль кларнетыстаў пад кіраўніцтвам Генадзя Забары, віртуознага артыста і таленавітага аранжыроўшчыка, суправаджаў знаёмства гасцей свята з выстаўкай, ствараючы далікатную камерную музычную атмасферу, якая настройвала на працяг фестывальных сустрэч.

Гасцямі адной з такіх сустрэч сталі прадстаўнікі славутай беларускай творчай дынастыі, шаноўныя ў мастацкім і навуковым свеце, тытулаваныя асобы — Радаслава і Вальмен Аладавы, сястра ды брат, музыказнаўца і архітэктар, бацькамі якіх былі кампазітар-класік Мікалай Ільіч Аладаў і легендарны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі Алена Васільеўна Аладава. Іх візіт у Мір спалучыўся з прэм'ерай вялікай праграмы, якую камерныя калектывы Нацыянальнага канцэртнага аркестра Беларусі падрыхтавалі да 120-годдзя з дня нараджэння Мікалая Аладава.

Чаму прэзентацыя гэтай юбілейнай праграмы адбылася менавіта на свяце "Мірскі замак", патлумачыла навуковы кіраўнік і заўсёдная вядучая асветніцкіх фестывальных праграм Вольга Дадзіёмава, якая выступіла ў Доме культуры з невялікай пазнавальнай лекцыяй-роздумам пра знаходкі ды адкрыцці ў культуры Гродзеншчыны, зробленыя айчыннымі музыколагамі, пра ўласныя даследаванні беларускай музычнай даўніны. Дык вось, аказваецца, і Гродзеншчына, і мястэчка Мір,



што месціцца якраз на гэтым заходнім абшары нашай зямлі, адметнымі радкамі, дый нават старонкамі, увайшлі ў біяграфію сям'і Аладавых. Праўда, самі шаноўныя госці, сціплыя патомныя інтэлігенты — сапраўдныя арыстакраты духу, ля фестывальнага мікрафона былі нешматслоўныя, распавядаючы пра сябе.

Вальмен Мікалаевіч, якому ў свой час даводзілася даваць кампетэнтныя рэкамендацыі ў вырашэнні праблем рэканструкцыі Мірскага замка, прыгадаў, як яго дзеці гулялі тут, на колішніх руінах і пагорках, "у вайну". І прызнаўся, што цяпер, калі да яго прыязджаюць госці з Германіі або з Францыі, ён абавязкова паказвае ім адроджаны архітэктурны рарытэт, і замежныя сяброў гэта ўражвае.

Радаслава Мікалаеўна (а яна, між іншым, зрабіла фундаментальны ўнёсак у даследаванне культуры Гродзеншчыны, напісаўшы навуковую працу пра ўраджэнца Ліды, еўрапейскую славутасць — кампазітара і скрыпача Канстанціна Горскага; яе грунтоўныя і дасціпныя ўрокі музычнай гісторыі засвоілі многія выпускнікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, якія сёння працуюць у Гродзенскай вобласці) проста ўспомніла сваю першую сустрэчу з Мірам. Гэта быў 1964 год. Яна разам з іншымі студэнтамі Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі выправілася на традыцыйную для будучых музыказнаўцаў летнюю практыку — у фальклорную экспедыцыю, па песні. Прыехалі ў Карэліцкі раён, завіталі ў Мір. Замак уразіў высокім валам і страшнымі руінамі. Там працавала здымачная група фільма "Усходні калідор", і выпадковая сустрэча з кінематаграфістамі аказалася вельмі дарэчы: яны дапамаглі "фальклорнаму дэсанту", адрамантаваўшы іх магнітафон для запісу вясковых спевакоў, які падчас экспедыцыі зламаўся...

"Тагачасны Мір выклікаў у мяне адчуванне нейкага прывіднага зачараванага замка. Сёння ён уражвае як гістарычны еўрапейскі цэнтр. І вялікі гонар, — падкрэсліла Р. Аладава, — што менавіта тут, у цэнтры Еўропы, успомнілі пра юбілей Мікалая Ільіча". Сумна, што для нашага цяперашняга грамадства гэта ўжо забыты кампазітар, хоць і класік. Ды і ў жыцці яго, нягледзячы на прызнанне і ганаровыя рэгаліі, не ўсё складвалася паспяхова. З вялікім энтузіязмам і жаданнем выкладаць, займацца творчасцю, спрыяць станаўленню прафесійнай кампазітарскай школы ў савецкай Беларусі ён ехаў з роднага Пецярбурга ў Мінск. Але атмасфера тут, як потым расказваў М. Аладаў сваім дзецям, была цяжкая: часта ён пачуваў сябе чалавекам, які ўтаропіўся ў балота і хоча кінуць туды палку, каб пайшлі кругі ды пачаўся нейкі рух. Стварыўшы ўзор новай беларускай оперы, звязанай з беларускім фальклорам, трапіў пад сумнавядомую кампанію па барацьбе з "нацдэмаўшчынай". Перажыў выпрабаванні 1936 — 1937 гадоў. Ноты многіх твораў былі страчаныя падчас вайны. Вярнуўшыся ў вызвалены Мінск, мусіў ва ўжо сталым узросце многае пачынаць з нуля, сутыкаючыся ў творчым асяроддзі з праблемамі зусім не творчага кшталту... Да 1990-х гадоў музыка Мікалая Аладава знікла з рэпертуару прафесійных выканальніцкіх калектываў, з канцэртных праграм першых каналаў радыё- і тэлеэфіру, застаўшыся хіба толькі ў актыве вакалістаў і ў вучэбных праграмах музычных школ.

Таму з такой удзячнасцю гаварылі Радаслава і Вальмен Аладавы пра падзвіжніцкую справу маэстра Міхаіла Фінберга і яго аркестра: "Фінбергу ўдалося зрабіць тое, чаго хацеў Мікалай Ільіч: "кінуў палку ў балота", кінуў выклік правінцыйнасці і сваімі асветніцкімі фестывалямі пачаў узнімаць культуру малых гарадоў. Нягледзячы на тое, што ў Міхаіла Якаўлевіча каласальны аўтарытэт у міжнародным музычным свеце, што магло б забяспечыць яму "хлебнае" жыццё за кошт некалькіх эстрадных канцэртаў, ён самазабыўна, з нейкай незямной захопленасцю, заняўся музычным асветніцтвам, адраджэннем і папулярызацыяй творчасці беларускіх кампазітараў — ад старажытнасці да XX стагоддзя. Людзі, не спешчаныя філарманічным мастацтвам, з цікавасцю слухаюць сур'ёзную музыку, успрымаць якую ім дапамагае каментарый вядучай — Вольгі Дадзіёмавай. І гэта дае каштоўны духоўны плён!"

Вялікі канцэрт з твораў Мікалая Аладава, які падрыхтавалі для жыхароў Міра музыканты знакамітага аркестра — кларнетысты, і флейтысты, і трубачы ансамбля "Інтрада", і Ансамбль салістаў на драўляных духавых інструментах, і вакальны калектыў, і Струнны аркестр, — праз адмысловыя,



свежыя аранжыроўкі, зробленыя для гэтых калектываў, узнавіў надзіва сучасны, жывы і дасціпны вобразны свет яго творчасці.

А потым адбыўся яшчэ адзін канцэрт. Струнны аркестр пад кіраўніцтвам Валерыя Сарокі даў яго ў мясцовым Свята-Мікалаеўскім касцёле, пабудаваным тут у XVI — XVII стагоддзях. Гэта была таксама прэм'ера — праграма пад назвай "Голас мірскіх муроў". Ва ўзнёслай атмасферы храма, якой спрыяла і яго унікальная акустыка, па-еўрапейску вытанчана гучала музыка Ягана Себасцьяна Баха, Антоніё Вівальдзі, Тамаза Альбіноні, Фрыдэрыка Шапэна, Міхала Клеафаса Агінскага... Кожны нумар вянчала гарачая авацыя прысутных у касцёле мясцовых парафіян, гасцей фестывалю, турыстаў; падчас выканання сакральных, малітоўных твораў многія слухачы не стрымлівалі сваіх шчырых ціхіх слёз... Пасля заканчэння канцэрта, які прайшоў з аншлагам, ксёндз Аляксандр прачулымі, душэўнымі словамі падзякаваў музыкантам і выказаў спадзяванне, што іх выступленні ў касцёле зробяцца традыцыяй.

Усе імпрэзы гэтага вялікага святочнага дня (у тым ліку гала-канцэрт аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга і яго салістаў-спевакоў, што адбыўся ў Доме культуры Карэлічаў) наведваў і з вялікім захапленнем вітаў старшыня Карэліцкага райвыканкама Віктар Шайбак. У размовах з журналістамі кіраўнік раёна выказаў шчырую зацікаўленасць у культурным развіцці сваіх землякоў. Бо, на яго думку, толькі духоўна багатыя людзі могуць плённа працаваць і ўмацоўваць эканоміку, імкнучыся рабіць прыгожым і змястоўным жыццё на роднай зямлі.

Завітаць у Мір, паблукаць па наваколлі, услухоўваючыся ў перазовы "застыглай музыкі" сівых муроў і сённяшняга жывога гучання інструментальных партытур... Як мала трэба для душэўнай раўнавагі!

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: выступленне Ансамбля кларнетыстаў падчас вернісажа; старшыня Карэліцкага райвыканкама Віктар Шайбак, навуковы кіраўнік і вядучая асветніцкіх фестывальных праграм Вольга Дадзіёмава, Вальмен і Радаслава Аладавы на мастацкай выстаўцы ў Доме культуры гарадскога пасёлка Мір; удзельніца Струннага квартэта, лаўрэат міжнародных конкурсаў віяланчэлістка Наталля Малышава; Струнны аркестр пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Беларусі Валерыя Сарокі ў мірскім Свята-Мікалаеўскім касцёле.

Фота Віктара Кавалёва

# Свет жывога эфіру

## Творчасць айчынных майстроў тэлеэкрана мае адметную гісторыю




У 2007 годзе выйшла кніга Ільі Куркова “Белтэлерадыёкампанія. Свет жывога эфіру”. Гэта — гісторыя Беларускага радыё і тэлебачання, аповед пра творчасць людзей, якія стаялі ля вытокаў стварэння і развіцця электронных сродкаў масавай інфармацыі ў нашай краіне. Кніга створана на аснове архіўных дакументаў, музейных і прыватных калекцый, літаратурных крыніц.



З часу з’яўлення радыё і тэлебачання вядуцца спрэчкі паміж мастацтвазнаўцамі пра тое, да чаго ж аднесці гэтае вынаходніцтва: да крыніцы інфармацыі ці да віду мастацтва. Мяркую, што абсалютнай дакладнасці азначэння няма, бо радыё і тэлебачанне аб’ядноўваюць абодва напрамкі. Гэты сінтэз першапраходцы радыё і тэлебачання разумелі як адкрыццё бязмежных магчымасцей электроных СМІ, як шлях да стварэння не толькі прынцыпова новай інфармацыйнай прасторы, але і развіццё розных відаў і жанраў мастацтва.

Дзіўна, як пры вельмі абмежаваных магчымасцях тэлевізійнай тэхнікі (гэтую думку І. Куркоў неаднаразова падкрэслівае) на Беларускім тэлебачанні ствараліся сапраўдныя шэдэўры. Як сказана ў прадмове да кнігі: “Неабходнасць ісці ўперад па цаліку стымулявала творчасць”. Недахопы тагачаснай апаратуры не перашкаджалі праяве высокага прафесіяналізму.

Акрамя размовы пра развіццё радыё і тэлебачання, І. Куркоў цікава і цёпла прадстаўляе іх стваральнікаў: першага дырэктара Мінскай студыі тэлебачання М. Досіна, першага дыктара Беларускага тэлебачання Т. Бастун, якая была адначасова вядучай тэлеклуба “Колас”, тэлечасопісаў “Эўрыка” і “Здароўе”. Тамара Паўлаўна агучвала дакументальныя фільмы і тэленарысы, якія былі знятыя на БТ, чытала вершы і прозу ў перадачах “Літаратурная Беларусь” і “У святле рампы”, удзельнічала ў стварэнні творчых партрэтаў паэтаў і песьменнікаў, вяла дзіцячыя перадачы. Тамары Бастун даручалі весці найбольш адказныя рэпартажы са святочных дэманстрацый і вайсковых парадаў. У 1972 годзе Т. Бастун была прызначана старшым дыктарам дыктарскай групы Беларускага тэлебачання.

Праца грымёра А. Тонкага надзвычайна супала з яго прозвішчам. Можна без перабольшвання сказаць, што поспехі тэлепастановак у вялікай ступені залежалі ад працы Аляксандра Іванавіча.

У 1960 годзе дырэктарам Мінскай студыі тэлебачання стаў В. Палескі-Станкевіч, які потым быў прызначаны старшынёй Камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Былы настаўнік, прафесійны журналіст, які прайшоў арышт у 1938-ым (быў за кратамі роўна год) і вайну (працаваў на радыёстанцыі “Савецкая Беларусь”, якая вяшчала на акупіраваную тэрыторыю), Вячаслаў Пятровіч хутка правёў рэарганізацыю структуры студыі. Пры ім пачалі працаваць тэлестудыі і ў абласных цэнтрах Беларусі.

У кнізе “Свет жывога эфіру” дэталёва разгледжаны стварэнне і развіццё шэрага праграм розных напрамкаў, змешчана серыя творчых партрэтаў. Сярод іх — матэрыялы пра рэжысёра-пастаноўшчыка Віктара Карпілава, заснавальніка тэлевізійнага тэатра; пра галоўнага аператара Беларускага тэлебачання Уладзіміра Пранько; пра тэатральных дзеячаў на тэлебачанні: Р. Янкоўскага, І. Ільінскага, С. Абразцова, А. Райкіна, Б. Чыркова, А. Міронава, А. Джыгарханяна ды іншых; пра папулярнага дыктара, музыканта і журналіста Уладзіміра Шаліхіна; пра легендарнага дзеяча радыё і тэлебачання Ілью Кургана; пра рэжысёра “Тэлефільма” Аляксандра Гутковіча.

Асобнае месца займаюць у кнізе творчыя партрэты акцёраў тэатра імя Янкі Купалы і тэлеверсіі найбольш значных спектакляў гэтага тэатра.

На жаль, кнігу амаль немагчыма было знайсці ў продажы. Летась на БТ пачалі выдаваць кнігу ветэранам радыё і тэлебачання. Я чуў ад розных людзей пра недахопы гэтага выдання — у асноўным, пра тое, што не ўсе выдатныя людзі, у тым ліку кіраўнікі тэлебачання, згадваюцца на яго старонках. Але ж мэтай І. Куркова было расказаць гісторыю станаўлення радыё і тэлебачання — і гэтая мэта была дасягнута.

Ілья Мікалаевіч Куркоў напісаў кнігу з любоўю да творцаў і разуменнем важнасці іх працы. Яна не прэтэндуе на ўсеабдымнасць, на поўнае адлюстраванне ўсяго працэсу развіцця айчынных радыё і тэлебачання — для выканання гэткай задачы, безумоўна, спатрэбілася б шматтомная энцыклапедычная праца. Магчыма, з’явяцца новыя работы, працягнуць справу, распачатую І. Курковым, і калісьці будзе напісана і надрукавана найбольш поўная гісторыя радыё і тэлебачання.

Гісторыя Беларускага тэлебачання і радыё — гэта найперш гісторыя творчасці, гісторыя натхнення, якая рабілася людзьмі неабыякавымі і высокапрафесійнымі. Кніга “Свет жывога эфіру” прызначана для шырокага кола чытачоў, але яна вельмі спатрэбілася б студэнтам — будучым акцёрам, рэжысёрам, аператарам, знаёмым з нашай гісторыяй тэлебачання і радыёвяшчання толькі са сціплых радкоў падручнікаў, да таго ж, нешматлікіх. Тыраж кнігі — 5200 экземпляраў. Гэтага да крыўднага мала. Было б добра, калі б выдавецтва “Медиафакт” перавыдала “Свет жывога эфіру” — гэта неабходна ўсім, хто любіць мастацтва і хто цікавіцца гісторыяй беларускіх электронных СМІ. Дарэчы, Беларускае тэлебачанне ў 2011-м адзначыць прыгожую дату: споўніцца 55 гадоў з таго часу, як пачалося рэгулярнае тэлевяшчанне на тэрыторыі нашай краіны.

Рыгор КАРПІЛАЎ







На здымках: каляровая вокладка выдання; невялікая частка багатага ілюстрацыйнага матэрыялу, які робіць знаёмства з кнігай асабліва захапляльным.

## Радуемся разам

Міжнародны фестываль “Гроднаджаз” другі год запар праводзіўся пад адкрытым небам, у двары Новага замка. Як і летась, гэты унікальны для прынёманскага рэгіёна джазавы фэст не толькі сабраў дзесяткі ўдзельнікаў з Беларусі, Літвы і Польшчы, якія граюць і музыку ў традыцыях гэтага жанру, і фанк, свінг, ф’южн, і кампазіцыі ў рэчышчы цяперашняга авангарда. Ён зноў прыцягнуў увагу шматлікай моладзі, хаця джаз сёння не адносіцца да г. зв. “пацяшальнага” і папулярнага мастацтва, ператварыўшыся ў захапленне для сур’ёзнай і нават элітарнай публікі. Поспех “Гроднаджаза” пераконвае, што яго арганізатары могуць даволі хутка дасягнуць сваёй мэты: зрабіць фестываль штогадовай імпрэзай, якая будзе развіваць і ўзбагачаць музычны досвед гродзенскай масавай публікі, прыцягваць турыстаў, у тым ліку з памежных краін. А галоўным энтузіястам і заўсёднікам “Гроднаджаза” ўжо сёння з’яўляецца вядомы мясцовы калектыў — Эстрадны аркестр Гродзенскай абласной філармоніі пад кіраўніцтвам Барыса Мягкова.

Пераможцам XVII Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў імя Яўгена Кокі стаў артыст сімфанічнага аркестра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Андрэй Смаль. Гэтае традыцыйнае музычнае спаборніцтва, якое праводзіцца ў Малдове, збірае таленавітую моладзь з Балгарыі, Беларусі, Расіі, Румыніі, Украіны ды іншых краін, а ў склад яго журы ўваходзяць аўтарытэтныя еўрапейскія музыканты. Яны ацэньваюць майстэрства і артыстызм выканаўцаў на духавых, ударных і народных інструментах. У групе “Выканаўцы на медных духавых інструментах” строгія суддзі вылучылі сёлета маладога беларускага валтарніста, адзначыўшы яго 1-й прэміяй. Між іншым, Андрэй Смаль — яшчэ студэнт (трэці курс Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, клас заслужанага артыста Беларусі Уладзіміра Тарашкевіча). У 2009 годзе ён стаў удзельнікам прэстыжнага праекта — Маладзёжнага аркестра краін СНД, і ў складзе гэтага калектыву пад кіраўніцтвам народнага артыста Расіі, славутага маэстра Уладзіміра Співакова гастраляваў у Францыі і Амерыцы.

Прэм’ерай новага сцэнічнага прачытання эксцэнтрычнай камедыі В. Ільіна і В. Лукашова на лібрэта Ю.Рыбчынскага “Мая жонка — падманшчыца”, вядомай старэйшаму пакаленню мінскіх гледачоў і артыстаў, завяршыўся сезон у Беларускім дзяржаўным акадэмічным музычным тэатры. Новы спектакль, пастаўлены рэжысёрам Галінай Галкоўскай, дырыжорам Марынай Траццяковай, мастаком Любоўю Сідзельнікавай ды балетмайстрам Наталляй Фурман і адметны ансамблем акцёрскіх работ, і здзівіў, і парадаваў тых, каму пашанцавала трапіць на першыя паказы. Восенню працягнецца знаёмства публікі з гэтай работай тэатра, які, вядома ж, мае на чарговы сезон і новыя планы. У прыватнасці, будзе ажыццёўлена другая праграма паспяхова распачатага ў чэрвені доўгатэрміновага канцэртнага праекта “Музычныя вечары з Аляксандрам Анісімавым”: у ёй возьмуць удзел аркестр і хор БДАМТ. Плануецца папоўніць рэпертуар арыгінальным відовішчам пад назваю “Аднойчы ў Чыкага” — паводле неўміручай камедыі “У джазе толькі дзяўчаты”, якую “перачытае” Сусана Цырук, вядомы піцерскі рэжысёр, наша зямлячка, чые першыя работы на музычнай сцэне памятаюць мінскія тэатралы. Вялікай юбілейнай вечарынай калектыў адзначыць у верасні 70-годдзе свайго галоўнага дырыжора, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Анатоля Лапунова. А да 125-годдзя класіка азербайджанскай музыкі Узеіра Гаджыбекава прымяркоўваецца лістападаўская прэм’ера яго музычнай камедыі “Аршын мал алан” (год стварэння 1913-ы), праца над якой будзе ажыццяўляцца пры падтрымцы Пасольства Азербайджана ў нашай краіне. Пад Новы год мяркуецца выпуск балета расійскага кампазітара Генадзя Гладкова “12 крэслаў”. Пры гэтым “піку актыўнасці” дасягнуць рэпетыцыі мюзікла Кіма Брэйтбурга “Блакітная камея”. Кіраўніцтвам БДАМТ робяцца захады па стварэнні арыгінальнага беларускага рэпертуару на музыку айчынных аўтараў. У новым сезоне мы раскрыем гэты тэатральны “сакрэт”.

Каб убачыць “Пагоню на Грунвальд” — так называецца выстаўка, прысвечаная 600-годдзю гістарычнай бітвы, знакавай для народаў Цэнтральнай Еўропы, найперш для беларусаў, літоўцаў, палякаў, — трэба пабываць у Магілёве. Экспазіцыя складаецца з работ мясцовых мастакоў, прадстаўнікоў таварыства “Суполка “А””, Аляксандра Росінава, Станіслава ды Сяргея Гануціных.

Лана ІВАНОВА




## Слова краязнаўцы



Аляксей Пяткевіч з Гродна расказвае пра настольны краязнаўчы перакідны каляндар:

— Настольныя календары выходзяць кожны год, і патрэбны яны тым, у каго каляндар на пісьмовым стале — неабходны рабочы атрыбут. Але ўжо 10 ці болей гадоў мы не бачылі менавіта беларускіх календароў.

Краязнаўчы каляндар на 2010 год пабудаваны на матэрыяле Гродзенскай вобласці, і, акрамя традыцыйнай інфармацыі, уключае ў сябе круглыя даты, якія датычацца помнікаў матэрыяльнай культуры, вядомых гістарычных падзей, звязаных з Гродзеншчынай, знакамітых асоб гэтага рэгіёна.

Праца, як аказалася, вельмі патрэбна людзям: краязнаўчы каляндар на 2010 год разышоўся імгненна. Я ўжо падрыхтаваў каляндар на наступны год і збіраю матэрыялы для такога выдання на 2012 год. У наступным годзе наклад будзе большым, ды і матэрыял, змешчаны ў ім — больш прадуманы. У гэтым годзе ў календары нямала дробнай інфармацыі: былі пустыя месцы на некаторых старонках, таму іх даводзілася запаўняць не вельмі значнымі звесткамі.

Збор матэрыялу па падрыхтоўцы календара займае прыблізна месяц: трэба вывучыць кнігі "Памяць" па раёнах вобласці, энцыклапедыі і даведнікі, карыстаюся і ўласнымі запісамі, а іх у мяне за доўгі час сабралася шмат. Вельмі часта неабходную інфармацыю знайсці складана, бо патрэбна паказаць не проста дзень нараджэння чалавека, а юбілейную дату, і такіх дат трэба падабраць на 365 дзён у календары.

У цэлым, культура кожнага лакальнага рэгіёна мала вывучана, гэтым займаюцца ў асноўным мясцовыя краязнаўцы, выпускаюць маленькім накладам кніжкі, якія мала даступны шырокаму чытачу. А каляндар — выданне інакшае. Вось — адна дата, другая — адразу цікава, якая падзея адбылася ў гэты канкрэтны дзень. Так адкрываецца і гістарычная спадчына, і культура мінулага. Менавіта каляндар служыць штуршком, сродкам папулярызацыі гісторыі Гродзеншчыны.

## Увекавечыў прыгажосць

Лунінецкі "адрас" — на пачатку нарыса "Зямля пад белымі крыламі" Уладзіміра Караткевіча: "Часам едзеш лесам, і раптам — паляна, здзічэлыя садовыя дрэвы (вёска так і не адрадзілася) і абеліск. А на ім словы, ад якіх сціскаюцца кулакі і ідзе па скуры мароз: "Тут пахаваны расстраляныя немцамі 21.IX.1943 г. Кароль Алена Мікітаўна 1925 года нараджэння, Павел 1920 г., Васіль 1898 г., Зофія 1892 г., Уладзімір 1922 г., Іван 1924 г. і іншыя. Гэта — надпіс з надмагільнага помніка на Кургане Бессмяротнасці, які ў 1967 годзе ўзведзены ў Лунінцы..."

Уладзімір Сямёнавіч захапляўся і навакольнай прыродай. Асабліва ўразілі яго краявіды старажытнага сяла Лахва, пра якія напісаў: "Рака з непрыгожаю назваю Смердзь ёсць, аднак, адна з найпрыгажэйшых рэчак, якія мне даводзілася бачыць у маім жыцці". Летам 1984 года пісьменнік ажыццявіў другую вандроўку па Палессі, на плыце. Яго сябры сведчаць аб трагічнай сімвалічнасці: калі Караткевіч стала дрэнна, кацер "Ракета", каб даставіць яго ў Мінск, спыніўся на рацэ, у тым месцы, дзе ў Прыпяць упадае рачулка Смердзь, прыгажосць якой ён увекавечыў.

Таццяна КАНАПАЦКАЯ

# Быць годнымі класіка

"Не розум галоўнае, а тое, што накіроўвае яго: натура, сэрца, высакародныя ўласцівасці, развіццё", — гэтыя словы класіка рускай літаратуры Фёдара Дастаеўскага з'яўляюцца дэвізам штодзённай работы педагогаў Дастоеўскай сярэдняй школы Іванаўскага раёна. Навучальная ўстанова — адна з дзвюх школ у СНД, якая носіць імя сусветна вядомага пісьменніка, што абумоўлівае пэўныя асаблівасці арганізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу.



"Дастоева ўпершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах у 1452 годзе, і яно заўсёды адрознівалася ад іншых палескіх паселішчаў, — расказвае дырэктар школы Святлана Ляхавец. — Мясцовае насельніцтва вылучалася грунтоўным укладам жыцця, высокай духоўнасцю. Нездарма ж адсюль выйшлі многія вядомыя навукоўцы, педагогі, военачальнікі, кіраўнікі вытворчасці".

Пасрэднікам між мінулым і будучыняй, духоўным і ідэйна-патрыятычным цэнтрам выхавання моладзі з'яўляецца школьны народны літаратурна-краязнаўчы музей, фонды якога на працягу амаль 30 гадоў нязменна захоўвае Анатоль Бурак. Музей размешчаны ў двух класных памяшканнях. Экспазіцыя, агульная плошча якой складае 125 квадратных метраў, налічвае звыш трох тысяч экспанатаў. Некаторыя з прадметаў настолькі унікальныя, што іх палічыў бы за шчасце мець музей любой краіны.

Раздзел "З глыбіні стагоддзяў" прысвечаны гісторыі вёскі Дастоева ад першай пра яе згадкі ў летапісах да адмены прыгоннага права. Тут знаходзяцца прадметы каменнага веку, фрагменты керамікі з сядзібы Дастаеўскіх, карта Пінскага княства, у складзе якога ўпершыню згадваецца вёска, фотаздымкі раскопак, архіўныя матэрыялы аб павіннасцях прыгонных сялян, ці арыгінальная карта зямельных надзелаў Дастоева і інш.

У раздзеле "У бітвах за волю, у бітвах за долю" размешчаны матэрыялы, звязаныя з вызваленчай барацьбой беларускага народа за незалежнасць у XVII — XIX стагоддзях. У раздзеле "За ўладу Саветаў" утрымліваюцца цікавыя дакументы пра зямлякоў-удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, а таксама пра арганізатараў савецкай улады ў Дастоеве і бліжэйшых вёсках.

Зразумела, што цэнтральнае месца экспазіцыі школьнага музея займае раздзел "Дастоева і Дастаеўскі", у якім можна пабачыць фотакопіі дакументаў аб жыцці і творчасці класіка рускай літаратуры, радаводнае дрэва, творы розных гадоў выдання, у тым ліку і на замежных мовах, звесткі пра сядзібу Дастаеўскіх, матэрыялы аб святкаванні 150-годдзя пісьменніка ў вёсцы. Сярод найбольш адметных экспанатаў раздзела — поўны збор твораў празаіка ў кананічным варыянце, наяўнасцю якога не можа пахваліцца нават Нацыянальная бібліятэка Беларусі, а таксама арыгінальны здымак пісьменніка, зроблены ў адной з фотамайстэрань Санкт-Пецярбурга.

Раздзел "Ішла вайна народная..." знаёміць наведвальнікаў з фотаздымкамі і дакументамі аб зверствах фашыстаў у Дастоеве і навакольных вёсках, дзейнасці партызанскіх атрадаў на тэрыторыі Іванаўшчыны, удзельніках Вялікай Айчыннай вайны.

У раздзеле "Гісторыя роднай вёскі" змешчаны матэрыялы аб пасляваенным адраджэнні калгаса "Чырвоная зорка", гісторыі школы, славутых выпускніках, культурным будаўніцтве ў гаспадарцы. Шмат экспанатаў прадстаўлена і ў этнаграфічным кутку музея, дзе выстаўлены ўзоры нацыянальнага адзення, прадметы сялянскага побыту і інш.

Па словах Анатоля Бурака, багатая музейная экспазіцыя, якая расказвае аб этнаграфічных асаблівасцях рэгіёна, дазваляе не толькі ўдасканальваць адукацыйны працэс у школе, але і развіваць інтэлектуальны патэнцыял вучняў, выхоўваць сапраўдных патрыётаў Радзімы. Музейныя фонды паспяхова выкарыстоўваюцца ў вучэбна-выхаваўчай рабоце і з'яўляюцца даступнымі ўсім жыхарам аграгарадка, якія актыўна іх папаўняюць.

На матэрыялах экспазіцыі праводзяцца ўрокі літаратуры, выяўленчага мастацтва, беларусазнаўства, тыдні творчасці Фёдара Дастаеўскага. Сваёй дзейнасцю музей ахоплівае вучняў рознага ўзросту. Асаблівая ўвага ўдзяляецца навукова-даследчай рабоце школьнікаў. Так, пры музеі працуе навукова-этнаграфічны клуб "Спадчына" і літаратурна-краязнаўчы клуб "Пошук".

У музеі, які штогод наведваюць каля двух тысяч чалавек, ладзяцца тэматычныя экскурсіі ("З чаго пачынаецца Радзіма", "Абеліскі не маўчаць", "Дастоева і Дастаеўскі", "Новыя гарызонты", "Памяць продкаў"), прэзентацыі кніг землякоў, сустрэчы з ветэранамі вайны, выпускнікамі школы, сюды прыходзяць на ват маладыя пасля заключэння шлюбу.

Школьны музей з'яўляецца цэнтрам вывучэння і папулярызацыі літаратурнай спадчыны вялікага пісьменніка ў нашай краіне. Педагогі падтрымліваюць цесныя сувязі з Маскоўскім музеем-кватэрай Фёдара Дастаеўскага, Санкт-Пецярбургскай публічнай бібліятэкай імя Міхаіла Салтыкова-Шчадрына, літаратурным музеем Янкі Купалы ў Мінску, а таксама з краязнаўцамі з Украіны і Польшчы. Даўняе супрацоўніцтва наладжана і з маскоўскай сярэдняй школай з этнакультурным рускім кампанентам адукацыі № 1148 імя Фёдара Дастаеўскага. Акрамя таго, на базе музея пішуцца навуковыя работы, ён прыцягвае ўвагу спецыялістаў-літаратараў бліжняга і далёкага замежжа.

Так, у 2006 г. у школе была праведзена міжнародная канферэнцыя, прысвечаная 500-годдзю роду Дастаеўскіх. У сувязі з гэтым вялася далейшая праца па пошуку матэрыялаў аб сувязях вёскі і нашчадкаў знакамітага роду. У 2007 г. музей наведаў праўнук пісьменніка Дзмітрый Дастаеўскі. Традыцыйнымі сталі літаратурныя чытанні філолагаў Брэстчыны і членаў Таварыства аматараў рускай славеснасці, што праводзяцца ў школе пад патранатам генеральнага консульства Расіі ў горадзе над Бугам.

"Наш музей — жывы арганізм, а не куфэрак са старажытнасцямі", — адзначае Анатоль Бурак. Пра гэта сведчаць шматлікія візіты гасцей з Калінінграда і Санкт-Пецярбурга, Масквы і Варонежа, Вяткі і Самары, Сімферопаля і Кіславодска. У кнізе запісаў маюцца аўтографы на англійскай, нямецкай і польскай мовах. Сёння музей жыве новымі планамі. З'явілася экспазіцыя "Літаратурная Іванаўшчына". Папаўняецца раздзел, прысвечаны Вялікай Айчыннай вайне: складзена фанатэка успамінаў ветэранаў, вязняў канцлагераў, мясцовых старажылаў, сабраны матэрыял пра аднаго з арганізатараў партызанскага руху Піншчыны і Іванаўшчыны Э.Б.Нордмане. Музей неаднаразова ўзнагароджваўся ганаровымі граматамі за вялікую работу па папулярызацыі ідэй аховы помнікаў нацыянальнай гісторыка-культурнай спадчыны.

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ

На здымках: кіраўнік школьнага музея Анатоль Бурак з рэдкімі экспанатамі; помнік Фёдару Дастаеўскаму ў двары школы; музейны куток пісьменніка.

Фота аўтара





# ...Выбіць немцаў з Дзісны

Рэдакцыйная пошта прынесла выдадзеную ў Маскве кнігу Таццяны Рэпінай "Девичий батальон" (Масква, ЗАТ "Московский учебник — СиДипрес", 2009). Прафесар псіхалогіі, да вайны яна вучылася ў Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры. У той славутай ВНУ, да якой спрычыніліся ў маладыя гады народны пісьменнік Беларусі Іван Мележ, публіцыст, магілёўскі камсамолец Міхаіл Малочка, які загінуў на фінскай...

Калі пачалася Вялікая Айчынная, Таццяна Рэпіна паступіла ў Кіеўскае ваенна-медыцынскае вучылішча. Арганізаванае яшчэ ў 1939 годзе, яно было эвакуіравана ў Свярдлоўск. А восенню 1942 года абвясцілі пра тэрміновы набор 400 дзяўчат у першы ў яго гісторыі дзявочы батальён. Пасля засваення элементарных медыцынскіх ведаў юныя лейтэнанты былі накіраваны ў дзеючую армію. Болей паловы — на Украінскія франты. Шмат хто атрымаў прызначэнне на Беларускія франты.

Таццяна Рэпіна патрапіла ў 154-ю дывізію. Разам з ёю прайшла многія кіламетры па шматпакутнай беларускай зямлі. Пра гэта ёсць запісы ў яе франтавым дзённіку, у многім дзякуючы менавіта яму і адбылася кніга. Вось, прыкладам, запіс ад 4 ліпеня 1944 года, калі дывізія атрымала заданне выбіць немцаў з Дзісны: "...Ноччу параненых было няшмат, а раніцою цэлы паток. Працавала на перадавым пункце медсанбата без гадзіны адпачынку за ўвесь дзень, ноч і раніцу наступнага дня — прымала, карміла, эвакуіравала. Увесь час адна. Прыняла болей за 100 чалавек. Каб усіх тэрмінова эвакуіраваць, давялося арыштаваць чужога шафёра і выкарыстоўваць яго машыну для перавозкі параненых".

Расказваючы пра сваіх сяброўак з "дзявочага батальёна", аўтар дакументальнай кнігі згадвае многія мясціны Беларусі. Цытуе ўспаміны Ганны Перлінай: "Прыехалі ў адну беларускую вёску, падрыхтавалі да работы дэзінфекцыйную камеру, лазню і пачалі падворны абход. Бачым за калючым дротам два дамы, а на вонкавай сцяне надпіс: "Міны!". Увайшлі ў памяшканне, а ў ім прама на падлозе, па чатыры чалавекі ў пакоі, ляжаць хворыя... Правялі апрацоўку, зрабілі ўсё неабходнае і эвакуіравалі хворых у стацыянар у Калінкавічы..."

Франтавыя дарогі адкрылі ваенным медыкам Рэчыцу, Брэст (там на гарнізонных могілках пахавана Афанасія Мацвеевна Папова), Віцебск, Полацк, Гарадок, Слонім, Ваўкавыск... Пра гэта — многія старонкі кнігі Т. Рэпінай "Девичий батальон".

Кастусь ЛАДУЦЬКА

## Культура слова

# Прахалода

Слова штучнае, калька рускай прохлада. У нас замест яго скажуць — халадок ("Павеяло утренней прохладой" — "Павеяла ранішнім халадком"). І ніякай там прахалоды! Яшчэ больш рэжуць вуха словы прахалодна, прахалодны, якія вельмі часта сустракаю ў творах асобных нашых пісьменнікаў. Замест прахалодна ў нас пачуеш іншыя словы: халаднавата, здарова, свежа ("Сёння здарова на двары", "Зрабілася свежа"), "Халаднавата спаць на сене"). Гэтак жа натуральна і хораша гучаць і нашы прыметнікі — халаднаваты, здаровы, свежы.

А рускае слова прохладительный наш "Русско-белорусский словарь" падае як прахаладжальны — язык ад яго можна зламаць. Пры гэтым даецца прыклад: "прохладительные напитки — прахаладжальныя напіткі". Навошта ж так калечыць слова? Ці ж кепска гучаў бы гэты выраз, каб ён сказаўся проста па-беларуску: асвяжальнае пітво ці асвяжальная вада?

Кастусь ЦВІРКА

Яго імкненню да вывучэння гісторыі роднага краю, краязнаўства, радаводных каранёў можна толькі пазайздросціць. Краязнаўца без дыплома і гісторык без вучонай ступені, Мікалай Пацэнка — метадыст па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны аддзела культуры Бераставіцкага райвыканкама, лаўрэат прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "За духоўнае адраджэнне", старшыня райкама Беларускага прафсаюза работнікаў культуры з 1980 года — увесь час у пошуку. Бо белых плям у гісторыі Бераставіччыны, як і ўсёй Гарадзеншчыны, яшчэ шмат…



# Мікалай Пацэнка: «Бераставіца — мая жывіца»

## Кніжка пра царкву ў глыбінцы выйшла ў Маскве

— Мікалай Іванавіч, грунтоўнае гістарычнае даследаванне — кніга "Памяць", рэдактарам-укладальнікам якой вы былі і за якую ўдастоены высокай прэміі, натхніла, відаць, на далейшую творчую працу…

— Так, бо ў кнігу "Памяць" увайшло далёка не ўсё. Ужо пазней, працуючы ў беларускай бібліятэцы імя Францыска Скарыны ў Лондане, натрапіў на два невядомыя дагэтуль дакументы. Першы — пад вёскай Малая Бераставіца ў 1610 годзе былая вялікая бітва паміж рускімі і шведскімі войскамі. І другі — паведамленне ў Пецярбург генерала Рэпніна аб кровапралітнай бітве мяцежнікаў Касцюшкі пад Бераставіцай 20 верасня 1794 года. Гэтыя, як і сотні іншых дакументальна пацверджаных звестак, склалі унікальную працу — "Летапісную хроніку Бераставіччыны", пачынаючы са старажытных часоў, калі тут з'явілася першае вядомае вучоным паселішча, да нашых дзён, калі, напрыклад, у калгасе імя Варанецкага ў 1970 годзе карова па мянушцы Чарнушка прывяла



ажно трох цялят. Першы том ахоплівае перыяд ад старажытных часоў да 1900 года. Другі — 1900 — 1945 г., трэці, чацвёрты і пяты — 1946 — 1965 г. Рыхтуецца да выпуску шосты том "Хронікі". Гэтая праца — спалучэнне гістарычных фактаў, архіўных дакументаў і аўтарскіх каментарыяў да іх. Кнігі праілюстраваны фотадакументамі з дзяржаўных і асабістых архіваў. (Дарэчы, Мікалай Пацэнка з'яўляецца аўтарам гэтага праекта і яго галоўным рэдактарам. — Аўт.).

— Ведаю, што адначасова з гэтай фундаментальнай працай пабачылі свет вашы новыя гістарычныя нарысы.

— У апошнія гады падрыхтаваны шэраг гісторыка-біяграфічных нарысаў-партрэтаў вядомых людзей Вялікага княства Літоўскага, Расійскай імперыі, Беларусі — ураджэнцаў Бераставіччыны або лёсам з ёй знітаваных, а таксама дакументальных нарысаў пра помнікі гісторыі і культуры раёна. Яны выдаюцца ў некалькіх серыях: "Іх імёнамі названы вуліцы на Бераставіччыне", "Нашы знакамітыя землякі", "З Бераставіччынай лёсам знітаваныя", "Помнікі гісторыі і культуры Бераставіччыны", "З гісторыі Бераставіччыны". За апошнія тры гады выйшла больш дзесяці творчых прац.

Брашуры з вышэйзгаданых серый пабачылі свет накладам 300 — 500 экземпляраў. Яны перададзены ў навучальныя ўстановы Бераставіцкага і суседніх раёнаў, а таксама ў бібліятэкі раёна, Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Яўхіма Карскага, Нацыянальную бібліятэку Беларусі, дзяржаўныя архівы горада Гродна.

— Да якіх дакументальных нарысаў больш хіліцца творчая душа?

— Цяжка сказаць, бо як для маці ўсе дзеці родныя, так і для мяне мае творы. Але, здаецца, больш вабіць тое, што звязана з гісторыяй Бераставіччыны, культурай. Вось, напрыклад, "Гетман Вялікага княства Літоўскага Ян Караль Хадкевіч" з серыі "З Бераставіччынай лёсам знітаваныя". Мне ўдалося адшукаць дакументы польскага даследчыка аб тым, што пасля смерці гэтага военачальніка ў 1621 годзе, ваеннымі поспехамі якога захапляліся і Папа Рымскі, і персідскі шах, саркафаг з сэрцам, згодна з апошняй воляй памерлага, пахавалі ў Вялікай Бераставіцы, у касцёле Прасвятой Дзевы Марыі, які цяпер напаўразбураны. А потым саркафаг знік. Адны кажуць, што яго знішчылі, калі закрывалі касцёл (1865 г. ці 19-40-ы), другія, што мясцовыя жыхары зрабілі перапахаванне. Як застаецца загадкай і лёс мундзіра, шпагі і кубка Напалеона Банапарта, што захоўваліся ў Бераставіцкім палацы Касакоўскіх…

Або лёс магістра філасофіі прафесара Віленскага універсітэта Ігната Анацэвіча з Малой Бераставіцы ці міністра будаўніцтва, Героя Сацыялістычнай Працы Івана Жыжаля з вёскі Сыраежкі… Ці лёс помнікаў гісторыі і культуры — храма Прасвятой Дзевы Марыі ў Бераставіцы і Алекшыцкай царквы Пакрова Прасвятой Багародзіцы… Кожны творчы матэрыял трэба было адчуць сэрцам і толькі потым давяраць яго чытачам.

— З вялікай цікавасцю пазнаёмілася з вашым нарысам, выдадзеным асобнай брашурай да 65-годдзя Перамогі, аб жыцці і трагічнай смерці генерал-маёра Івана Міхайліна ў чэрвені 1941-га.

— Гэта чацвёртая кніжка з серыі "Іх імёнамі названы вуліцы на Бераставіччыне". Давялося шмат папрацаваць з архіўнымі дакументамі… Брашура пабачыла свет дзякуючы фінансавай падтрымцы Бераставіцкай раённай арганізацыі "Беларускі фонд міру".

— Мікалай Іванавіч, творчай апантанасці мала, каб напісанае дайшло да чытача. А выдавецкая ж справа нялёгкая.

— Аднаму ўсё зрабіць не пад сілу. У гэтых праектах задзейнічаны аддзелы ідэалагічнай работы і культуры райвыканкама, раённая арганізацыя "Беларускага таварыства "Веды"". У нас створаны рэдакцыйна-выдавецкі савет на чале з намеснікам старшыні райвыканкама Сяргеем Чыкуном. Вялікі дзякуй навуковым кансультантам — дырэктару Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў г. Гродна Таццяне Афанасьевай, прафесару Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы Сяргею Габрусевічу, дырэктару Дзяржаўнага архіва Гродзенскай вобласці Ларысе Юнінай. Асобны "дзякуй" мясцовым прадпрыемствам, камерцыйным фірмам за значную фінансавую падтрымку.

Дарэчы, кніжка-нарыс пра Алекшыцкую царкву Пакрова Прасвятой Багародзіцы выйшла нават у адным з выдавецтваў Масквы…

— Мікалай Іванавіч, стыль і змест, глыбіня і аб'ектыўнасць раскрыцця гістарычных працэсаў у вашых дакументальных і гісторыка-біяграфічных нарысах проста ўражваюць. Хто аказаў уплыў на фарміраванне вашага светапогляду, на творчую дружбу з яго вялікасцю словам?

— Нарадзіўся я на Мастоўшчыне, вучыўся ў знакамітай Гудзевіцкай школе ў не менш знакамітага Алеся Белакоза. У Белдзяржуніверсітэце ў нас выкладалі Ніл Гілевіч, Алег Лойка, Іван Навуменка. Так што гэтае "краялюбнае зерне" было закінута ў душу яшчэ ў школе і ва універсітэце, а прарасло на Бераставіччыне, адкуль родам мая матуля. Гэты цудоўны край жывіць мяне і сёння, зямля тут такая — спагадная.

…Мне пашчасціла пазнаёміцца з Васілём Быкавым, Казімірам Камейшам, Міколам Чарняўскім, Міколам Маляўкам, Міхасём Губернатаравым, Анатолем Сербантовічам… Нехта з іх наведаў у свой час Бераставіччыну. На творчую працу асабліва натхнілі сустрэчы ў 1960 — 1970-я з Васілём Быкавым.

— Чула, што вам нават вершы паэты прысвячалі…

— Хведар Чэрня ў свой час напісаў так:

У баку ад рэкламаў выцвілых,
Што па рэках сталіц плывуць,
У харошых, ціхіх правінцыях
Харошыя людзі жывуць…

— Трэба думаць, новыя залацінкі яшчэ наперадзе?..

—Дагэтуль невядомых звестак з мінуўшчыны роднага краю шмат. Нельга ігнараваць вялікі і багаты гістарычны і культурны пласт, які павінен надзейна служыць пакаленням нашчадкаў…

Галіна РАМАНЧУК

На здымках: Мікалай Пацэнка — аўтар усіх гэтых выданняў.

Фота аўтара

# Дакрануцца да Сярэднявечча

Не так даўно жыхары і госці Камянца мелі магчымасць дакрануцца да культуры Сярэднявечча. Гэта адбылося на фестывалі "Камянецкая вежа-2010", арганізатарам якога выступіў Алесь Шавель — кіраўнік гісторыка-патрыятычнага клуба "Рыцарскі род Снежнага Барса". Дарэчы, гэта ўжо другі фэст, што ладзіцца на камянецкай зямлі.



Прадстаўнікі каля 20 ваенна-гістарычных і гісторыка-патрыятычных клубаў з Беларусі і Расіі прыехалі ў старажытны горад, які знаходзіцца на беразе ракі Лясная.

Асноўнае дзейства праходзіла каля Белай вежы. На працягу двух дзён гледачы маглі назіраць рыцарскія турніры, спаборніцтвы лучнікаў, бугурты і нават штурм замка. Усе жадаючыя маглі паспрабаваць сябе ў стральбе з лука.

Назіральнікі турніра рыцараў мелі магчымасць яшчэ раз успомніць гісторыю Грунвальдскай бітвы, якой быў прысвечаны гэты фэст, і наогул сярэднявечную гісторыю Беларусі і Расіі. У перапынках паміж баямі Алесь Шавель агучваў гістарычныя факты. А потым Алесь і сэр Леон (г. Масква) змагаліся ў "слаўнай" бітве, абараняючы свае гістарычныя карані. Цікава даведацца, што на Беларусі былі баляры, якія потым сталі называцца рыцарамі, а ў Расіі рыцараў увогуле не было. Аднак, як адзначыў сэр Леон, палова расійскіх дваран мела польскія карані, а палова — мангольскія, таму ў сучасных маскоўскіх рыцараў ёсць права насіць гэтае званне.

У гэтыя дні нават адбылося прысвячэнне ў рыцары аднаго з удзельнікаў барысаўскага баранавіцкага клуба "Вольны птах". А ўсім пераможцам турніраў былі ўручаны берасцяныя граматы.

Знаёмства з культурай Сярэднявечча не абмяжавалася ваеннай справай. Увазе гледачоў былі прадстаўлены старажытныя танцы ў выкананні фальклорнага калектыву "Фламея" з Мінска. Больш таго, навучыцца гэтым танцам можна было на майстар-класах. А суботнім вечарам на стадыёне прайшоў канцэрт, у якім прынялі ўдзел гурты: "Стары Ольса" (Мінск), "Ландэрс" (Магілёў), "Цітры" і "Слайды" (Брэст). "Стары Ольса" і "Ландэрс" парадавалі слухачоў старажытнай музыкай і спевамі.

Свята Сярэднявечча скончылася, але яно вернецца на камянецкую зямлю ў наступным годзе і будзе, несумненна, яшчэ больш цікавым і разнастайным. Як заўважыў начальнік аддзела культуры Камянецкага райвыканкама Мікалай Громік, у наступным годзе плануецца запрасіць рыцарскія клубы з Польшчы і Украіны.

Наталля КАНДРАШУК

Фота аўтара

# Выратавальныя раскопкі

Завяршыліся археалагічныя даследаванні старажытнага паселішча ля вёскі Коматава, якое апынецца ў зоне затаплення ГЭС, што будуецца пад Гродна. Да ўводу ГЭС у эксплуатацыю застаецца мала часу, таму да работ на двух берагах Нёмана было прыцягнута больш як сто студэнтаў Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя Аляксандра Пушкіна.

Раскопкамі кіраваў загадчык аддзела археалогіі першабытных абшчын Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Вадзім Лакіза. За час працы на месцы старажытнага паселішча знойдзена нямала артэфактаў, якія, як сцвярджаюць навукоўцы, могуць даць падставы для перагляду тэорыі засялення людзьмі пасляледавіковых абшараў.

Цяпер вядзецца археалагічнае даследаванне раннехрысціянскіх могілак ля Коматава. Тут ужо знойдзены чалавечыя косткі, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, манеты-баратнікі, якія датуюцца XVI-XVII стст. Культурны слой на месцы правядзення раскопак у сярэднім складае 1,5 метра. Артэфакты, знойдзеныя ля Коматава, з'яўляюцца каштоўнымі для правядзення далейшых навуковых даследаванняў, таму не выключана магчымасць стварэння спецыяльнага музея, аказаць садзеянне ў гэтым абяцае РУП «Гроднаэнерга».

Анастасія ВЕСЯЛУХА

Кафедра беларускай літаратуры і культуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта шчыра смуткуе і выказвае спачуванні дацэнту Анатолю Леанідавічу ВЕРАБ'Ю з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці МАЦІ.

# Тры творчыя “Я” Рыгора Сітніцы



Сённяшні госць “Прасторы ўяўлення” — адмысловы творца, першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор СІТНІЦА. Адмысловасць яго ў тым, што ён не толькі выбітны мастак, але паўстае яшчэ ў дзвюх творчых іпастасях — паэта і педагога. Яго работы знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах нашай краіны, Літвы, Польшчы, Германіі, Галандыі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Грэцыі...

— Рыгор Сямёнавіч, банальная рэч, але, гаворачы пра творчасць, у прыватнасці пра мастацтва, трэба заўважыць, што у бальшыні выпадкаў усё пачынаецца з дзяцінства або закладзена ў генах з нараджэння. Мабыць, на вас паўплывалі людзі, прырода, побыт, рэаліі, якія вас атулялі. Можа, вы прыгадаеце той момант, калі адчулі ў сабе мастака, паэта, і з чаго ўсё пачалося?

— Усё пачынаецца з бацькоў, прашчураў і роднай зямлі. Як ні банальна гэта гучыць, але лічу гэта аксіёмай. Усё людскае ў мастацтве вырастае на роднай глебе: радзіна, род, радзіма. Калі чалавек не мае такога падмурку, вельмі праблематычна ад яго чакаць нейкіх сапраўды значных мастацкіх вынікаў. Я рос у звычайнай, здавалася б, палескай сям'і. Але на мой погляд, гэта былі самыя лепшыя ў свеце людзі: бацька і маці, увогуле, мой вялікі род. Кожную зіму маці разам з суседкамі ткалі па некалькі посцілак, ручнікоў, а я гуляў побач, дапамагаў. Я і цяпер памятаю, як гэта робіцца. Мая маці ды і ўсе сямейнікі добра спявалі. Каля нашай хаты збіралася грамада, жанкі спявалі на розныя галасы. Падсвядома, зразумела, усё гэта ўплывала, а цяпер і свядома ўплывае. На той час ішло назапашванне матэрыялу, непрыкметнае кшталтаванне сябе як асобы. Часта чую, як кажуць, што мы выраслі на “Бітлз”. Не баюся быць правінцыйным і неадпаведным, так, люблю “Бітлз” і іншыя гурты, але вырас на сваім і глыбока перакананы: любячы ўсё астатняе, трэба расці толькі на сваім.

Памятаю выпадак, калі ўпершыню адчуў, што амаль мастак. Мне было гадоў пяць. Сястра мая старэйшая за мяне на шэсць гадоў. Ёй у школе задалі нешта намаляваць. Яна разам з сяброўкай малявала з кніжкі нейкіх галубоў, крамлёўскія вежы. Знайшоў кавалак паперы і, заглядваючы ў гэтую кніжку, таксама пачаў маляваць. Сталася так, што мне здалося, што зрабіў лепей, чым яны. Я ж ведаў, што сястра ў школу хадзіць, вялікая дзеўка, а я малы. Яны мяне вельмі пахвалілі. З таго часу свядомасць цалкам загрузілася на маляванні. Маляваў на ўсім: сценах, платах, бо паперы амаль не было. Дзякаваць Богу, бацька мой адразу заўважыў маю прагу і ахвоту і забяспечваў мяне ўсім: алоўкамі, фарбамі, альбомамі... Бацькі ўвогуле вельмі падахвочвалі мяне да гэтага занятку.

Мая сястра выпісвала “Піянер Беларусі”, маскоўскую “Пионерскую правду”. З першага класа мы з бацькам запакоўвалі бандэролі маіх малюнкаў і адпраўлялі ў Маскву на конкурс, таму што ў газеце пастаянна праводзіліся розныя конкурсы на лепшы малюнак. Я проста з нецярпеннем чакаў прыходу чарговага нумара “Пионерской правды” і дзівіўся, чаму мяне не друкуюць. Быў жа перакананы, што лепшы за ўсіх. Метадычна кожныя паўгода пасылаў і пасылаў. Піянерам я не маляваў, а навакольныя краявіды, стагі, хлявы, платы, тое, што бачыў наўкола. Што і цяпер люблю пісаць. Паколькі мяне не друкавалі і не давалі аніякіх прызоў, мяне гэта пачынала абураць. У другім класе сеў і напісаў ліст у рэдакцыю. Уяўляю, на якой мове гэта было напісана, бо рускай мовы практычна не ведаў, жывучы ў цалкам беларускамоўнай вёсцы з паляшуцкім каларытам. Бацькі пра гэта не ведалі, сам пісаў. Пытаўся, дзе можна вучыцца на мастака. Прыйшоў ліст з такім тэкстам: добра, хлопчык, што хочаш вучыцца на мастака. Але ты яшчэ маленькі, закончы восем класаў і паступай у Чарнігаўскае мастацкае вучылішча. Для іх усё роўна было: што Беларусь, што Украіна. Мала таго, яны паглядзелі, што гэта Гомельская вобласць, значыць, да Чарнігава бліжэй, чым да Мінска, а з маёй вёскі дык амаль аднолькава. Мяне гэта не задаволіла. Хацелася хутчэй вучыцца на мастака. Уяўляеце, у звычайнай вясковай школе было 11 тамоў “Школы выяўленчага мастацтва”. Кожны том браў з такім невыказным трымценнем, нёс дахаты, гартаў, чытаў. Пару гадоў жыў з гэтымі кніжкамі, яны мяне грэлі, цешылі.

Аднойчы ў вёску прыехаў выкладчык музыкі і спеваў Іван Маліноўскі. У маім лёсе гэты чалавек займае знакавае месца. Быў тады ў чацвёртым класе. Іван Пятровіч змяніў жыццё ўсёй вёскі. Ён адразу стварыў хор школьнікаў і асобна пры клубе — хор дарослых. Рыхтаваліся адметныя канцэрты, сам ён добра іграў на баяне, дамогся, каб для абодвух хароў пашылі касцюмы, вазіў калектывы на розныя рэспубліканскія семінары. Па сваёй ініцыятыве стварыў гурток навучання ігры на баяне. Я першы туды запісаўся, тры гады ў ім займаўся. Разам выступалі на канцэртах у вясковым клубе. Ён яшчэ някепска маляваў і вёў урокі малявання. Расказваў пра мастакоў, паказваў рэпрадукцыі. Заўважыў, што я вельмі цікаўлюся маляваннем, дапамагаў, разам рабілі замалёўкі.

Калі я закончыў шэсць класаў, Іван Пятровіч даведаўся, што ў Мінску ёсць Рэспубліканская школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве. Улетку разам з ім паехалі ў Мінск, знайшлі школу. Але нікога няма: час адпачынкаў, прыёмныя іспыты здадзеныя, набор зроблены. Мы селі прама на ганку, расклалі сала, яйкі, памідоры. І тут з'яўляецца яшчэ адна знакавая асоба ў маім жыцці — Ягор Батальёнак. Падышоў да нас, запытаўся. Я дастаў скрутак малюнкаў хлявоў, кароў, сёе-тое з кніжак маляваў, але больш з натуры. Той паглядзеў малюнкі і папрасіў іх пакінуць, каб паказаць калегам. Хто б іншы сказаў: вы спазніліся, прыязджайце на наступны год. Неўзабаве мне прыйшоў ліст, што я прыняты без уступных іспытаў.

Вучыўся вельмі прагна. У восьмым класе захварэў на паэзію. Захапляўся рускімі паэтамі, тады амаль падпольна чыталі раздрукаваныя творы Пастэрнака, Цвятаевай, Ахматавай... Бо купіць было немагчыма. Упадабаў вельмі Ясеніна, мог цытаваць з любой старонкі. Не завучваў яго, проста запамінаў вершы кніжкамі. Сам вельмі актыўна пачаў пісаць у дзявятым класе. Друкаваўся спачатку па-руску, хоць хадзіў у беларускамоўнае літаб'яднанне.



І ў дзевятым класе мяне выключылі з навучальнай установы, як ні дзіўна, за прафнепрыдатнасць. Па вельмі простай прычыне: з'явіўся новы педагог, якому не спадабалася тое, што я раблю па жывапісе. Былі шакіраваны, але выраšы... выраšыў — шыў, што перамагу. Пайшоў у мастацкую вучэльню і паступіў першым па балах: быў адзіны, хто з трыццаці балаў атрымаў трыццаць. Перад паступленнем у вучэльню завуч мастацкага аддзялення Кірыл Зеляной — таксама знакавая асоба, інтэлектуал — загадаў лабаранту выдаць мне фарбаў, эцюднік, хоць гэта было незаконна. Сказаў, каб я ехаў працаваць, а ў верасні будзе бачна. Паехаў дадому і маляваў дзень і ноч. Зрабіў велізарны аб'ём. Разам з бацькам, які начапіў усе свае медалі, нагружаныя, як вярблюды, маімі работамі, паехалі ў Мінск. Мяне прынялі ў другі раз і зноў без экзаменаў. А ў мастацкай вучэльні дакументы не хацелі аддаваць. Забраць іх дапамог бацька. Адным словам, закончыў мастацкую школу паспяхова.

Паступіў у Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Тут паэзія пачала перабольшваць. Шмат чытаў, аналізаваў. Працаваў у тэхнічным плане, каб радок быў дакладны, без лішніх гукаў. На чацвёртым курсе кінуў займацца літаратурай, вярнулася, так бы мовіць, нацыянальная беларуская свядомасць. Нельга думаць адно, а пісаць іншае. Беларускамоўныя вершы атрымліваліся, але як у неблагога сярэдняга паэта. Мяне гэта не задавальняла, і я пачаў займацца толькі выяўленчым мастацтвам. Паэзія вярнулася да мяне гадоў праз пятнаццаць, але ўжо зусім у іншай якасці.

А накont педагагічнай працы, то я 25 год выкладаў у Рэспубліканскім каледжы мастацтваў імя І. Ахрэмчыка і адначасна — у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Амаль сто працэнтаў маіх выхаванцаў паступалі ў ВНУ. Па розных прычынах апошні год не выкладаю, але гэта не значыць, што я перастаў быць педагогам. І сам я не выключаю, што працягну гэту працу.

— На выстаўках вашы работы абмінуць нельга. Наведвальнікі іх нават на мабільнікі здымаюць. Карціны ўсіх уражваюць: як можна простым алоўкам выпісаць такі рэалістычны снег на паркане, рыштаванні, фактуру драўніны, пасечаныя дровы, да якіх так і карціць дакрануцца. З аднаго боку, гэта сведчыць пра ўзровень дасканаласці тэхнікі, з другога — адлюстраваны арыгінальны вобразны, сэнсавы змест у здавалася б звычайных, простых, рэальных аб'ектах. Што гэта для вас: натуралізм, капіраванне?..

— Першы перыяд у маёй творчасці — фігуратыўны, шматслоўны — цягнуўся да пачатку 1990-х. Потым вельмі рэзка, як мне здалося, займеў адрозны, пазнавальны аўтарскі стыль. Хоць гэта рэалізм, гіперрэалізм, але не зусім так. І не зусім правільна адносіць мяне цалкам да рэалістычнага мастацтва. У аснове кампазіцыйнай канструкцыі ў мяне заўсёды ляжыць канструктывізм, а часам і супрэматызм. Для мяне вельмі важна было





спалучыць неспалучальнае. Наіўна і несур'ёзна сябе цешу, што, можа, я першым пачаў гэта рабіць: спалучыў цалкам два супрацьлеглыя полюсы ў мастацтве: нефігуратыўнае ў выглядзе супрэматызму, а найперш канструктывізму, з гіперрэалістычным выкананнем самой трактоўкі формы. Для



мяне галоўнае не натуральна намаляваць, гэта дзесятая задача, а каб гэта быў знак, нават сімвал ці вобраз рэчы.

Калі мая выстаўка-праект “Гаспода. Суб'ектыўная рэчаіснасць” экспанавалася ў маскоўскім Цэнтральным доме мастака, дык не змаглі перакласці назву. Таму што слова “гаспода” ў рускай мове няма, у якім нітуюцца і Гасподзь, і гаспадар, і гаспадарка. А “рэчаіснасць” у іх — гэта “рэальнасць”, а ў нас — “існасць рэчы”, “сутнасць рэчы”, “існаванне рэчы ў прасторы”, “рэальнасць”... Уласна я займаюся даследаваннем існасці рэчы, пранікненнем у глыбіню. Можна намаляваць просты бохан хлеба, а можна ў выглядзе планеты з кратэрамі, вулканамі, каньёнамі.

Да слова, нямецкі даследчык і галерыст Франц Салес Грыль у сваёй грунтоўнай працы па маёй творчасці даў ёй назоў “магічны рэалізм”.

— Рыгор Сямёнавіч, ствараючы такія тэхнічна дакладныя малюнкі, вы спачатку робіце замалёўкі або пішаце па памяці? Бо ведаю, што некаторыя мастакі спачатку робяць фотаздымак, а потым перамалёўваюць, робяць кальку.

— Часта раблю схематычныя замалёўкі, але звычайна тое, што малюю, дасканала ведаю. Аднак бываюць выпадкі, калі ты проста не паспяваеш дамаляваць нейкую дэталь. У такой сітуацыі фотаздымак можа дапамагчы. Адным словам, фатаграфія патрэбна для кантролю, але перамалёўваць яе — няўдзячная і малатворчая работа.

Папера і аловак — мой свядомы выбар, бо надакучылі тэхнічныя выкрунтасы. Калі першы раз пабываў у Кракаве на трыенале графікі і ўбачыў японскую камп'ютэрную графіку, то яна мяне абсалютна шакіравала сваёй эстэтыкай, і ў мяне адначасова ўзніклі пытанні: дзе чалавек? дзе мастак? Тут аўтар — машына і аператар. Калі выстаўляюся ў замежжы, то наведвальнікі не вераць, што свае карціны я ствараю толькі рукамі і алоўкам. Дапускаю і такое: прыйдзе час, калі тое, што цяпер лічыцца ар'ергардам, рэалізмам, старым, і калі яго зусім мала будзе ў свеце — тады яно акурат можа стаць авангардам.

— На жаль, грамадства вас мала ведае як паэта. Цалкам уявіць вашу паэтычную творчасць цяжка, у якой, на маю думку, пераважаюць глыбока філасофскія разважанні. Можа, у вас спачатку складваюцца паэтычныя радкі і гэтыя вобразы вы кладзеце на паперу, ці наадварот?

— Гэта па маёй ляноце мяне мала ведаюць. Хоць тыя, хто знаходзіцца ў літаратурным рэчышчы, на маю радасць, знаёмыя з маёй творчасцю. Друкаваўся ў анталогіях, калектыўных зборніках і іншых выданнях. Ніяк не збяруся выпусціць кнігу, хоць матэрыялу сабралася не на адну. Проста бракуе часу. Раней вельмі часта выступаў з вершамі ў Доме літаратара, студэнцкіх ды вучнёўскіх аўдыторыях. Выступаю і цяпер, але для мяне цікавей зрабіць і пачытаць. Мае першыя слухачы — Барадулін, Дранько-Майсюк.

Тое, што я малюю і пішу — абсалютна два паралельныя тэхналагічна адрозныя шляхі. Так, гэта адзіная з'ява ў маёй творчасці, але два розныя працэсы, якія не перакрыжоўваюцца.

— Ці згодны вы з выказваннем, што творчы чалавек



мусіць усё жыццё вучыцца? Ваш лепшы настаўнік — жыццё, прырода, калегі... На ваш погляд, ці ёсць мяжа дасканаласці?

— Мяжы дасканаласці няма. Абсалютна слушна, што ўсё жыццё творца мусіць вучыцца. Ведаю шмат прыкладаў, калі тыя, хто казалі, што ўсё ўмеюць, пераставалі быць творцамі. Барадулін і цяпер кажа, што не ведае, ці паэт ён. Вось таму ён і Барадулін.

Гэта натуральны працэс — пастаянныя сумненні. Калі ты не штукар, не рамеснік, а мастак, безумоўна, усё роўна будуць сумненні, абы толькі яны не перайшлі ў роспач, а падштурхоўвалі да руху, да пошуку іншага шляху. Уласны прыклад: умею рабіць тое, што ўмею, мог бы сябе тыражаваць і далей. Яно мае поспех, але не мае яго ў мяне. Магу намаляваць пятнаццаты, дваццаты плот, зрабіць яго лепшым за папярэднія, але мне гэта нецікава. Натуральны стан любога мастака, літаратара — шукаць, знаходзіць. Пошук — адзнака прафесіянала.

— Ваша пасада вымагае адкрываць шматлікія выстаўкі, нешта казаць пра мастака, яго работы. Ці бывае так, што некаторыя экспазіцыі вам не заўсёды імпануюць, раздражняюць? Бо густы розняцца: камусьці даспадобы рэалізм, нехта захапляецца авангардызмам, інсталяцыяй...

— Безумоўна, бываюць, і не скажу, што вельмі рэдка. Каб раздражняла — не, незадаволенасць бывае, калі сам аўтар сябе не бачыць, не адносіцца да сябе крытычна. Крытычнае стаўленне — адна з важных прафесійных якасцей: не завышаць, але і не заніжаць.

Авангарднае мастацтва часта называюць актуальным, з чым я не згодны. Бо калі ёсць актуальнае, значыць, ёсць і неактуальнае. Прыкладам, актуальная інфармацыя цікавіць усіх. Мы не можам сказаць пра актуальнае мастацтва, што яно патрэбнае ўсім. Наадварот, яно для невялікага кола людзей. Можна назваць мастацтвам найноўшых тэхналогій, новых кірункаў, а актуальным — не варта. Я прымаю і падтрымліваю любое мастацтва з дзвюма ўмовамі: прафесіяналізм і маральнасць. Яно павінна працаваць на чалавека, на мацаванне людскасці, а калі яно працуе на разбурэнне чалавека — яно амаральнае, я такое мастацтва не прымаю. Цяпер, на жаль, дылетанцтва, графаманія квітнеюць у мастацтве і літаратуры.

Мастак мусіць апраўдваць тое, што мы ўмоўна называем “талентам”. Бо для мяне талент — завершаны працэс, вынік. Нам даюцца здольнасці, і даюцца задарма. Галоўнае ведаць: чаму ты служыш, для чаго робіш. Для мяне гэта — людскасць у свеце, у Бацькаўшчыне. Я мастак беларускі, для мяне вельмі важна быць беларускім у Беларусі.

— Творцы могуць не толькі глыбока пранікаць у з'явы рэчаіснасці, ствараць гістарычныя вобразы, але, так бы мовіць, прадбачыць будучыню. Вы як мастак, паэт, настаўнік, якой уяўляеце будучыню беларускага выяўленчага мастацтва?

— Вельмі, як казаў Караткевіч, прыўкраснай уяўляю. Калі мы не купімся на тое, што мы правінцыялы, маўляў, не разразалі акулу ўпоперак, не секлі перад экзальтаванай публікай старажытныя абразы, трупы падфарбаваныя не выстаўлялі, таму ў нас вельмі адсталая авангардная мастацкая думка. Правінцыял, зрэшты, не дрэннае слова. Калі мы ўсяго гэтага “авангарда” не вычвараем, мы не бедныя ад таго, а наадварот. Я за тое, каб мастацтва было людскім і прафесійным.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: Рыгор Сітніца; работы Р. Сітніцы: “Нясвіж. Рэха даўніх часінаў”; з серыі “Фрагменты рэстаўрацыі”; з серыі “Свята адвечнае.” Аркуш I і Аркуш III; з серыі “Шпацыр уздоўж паркана.” Аркуш IV.

Фота аўтара

# Паяднаныя “Глебаўкай”

Здавалася б, каго можа зацікавіць урачыстая цырымонія ўручэння дыпломаў выпускнікам навучальнай установы, апроч саміх выпускнікоў, іх педагогаў, родзічаў ды сяброў?.. Аднак паглядзець на гэты традыцыйны рытуал, ды і паўдзельнічаць у ім, сабралася даволі прадстаўнічае кола людзей, спрычыненых да беларускай нацыянальнай культуры.



Дзіва што! Падзея ж адбывалася не ў сярэднестатыстычнай агульнаадукацыйнай школе, а ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі: менавіта ў сценах нашай культурнай скарбніцы ўпершыню ладзілі свята ўручэння дыпломаў выпускнікам адной-адзінай ва ўсім свеце, легендарнай “Глебаўкі”.

Радавод у “Глебаўкі” — Мінскага дзяржаўнага мастацкага вучылішча, якое з 1969 года носіць імя народнага мастака БССР, скульптара Аляксея Глебава — сапраўды легендарны. Калі вы скажаце, што гэтая вучэльня, адна са старэйшых і самых аўтарытэтных айчынных сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў у галіне выяўленчага мастацтва, была заснаваная ў нашай сталіцы ў 1947 годзе, сапраўдныя глебаўцы звернуць увагу на некарэктнасць такой фармулёўкі. І патлумачаць, што насамрэч 1 верасня 1947 года ў Мінску, на новай базе, аднавілася педагагічна-творчая дзейнасць сусветна вядомага Віцебскага мастацкага тэхнікума, традыцыі якога сілкаваліся каранямі ад слыннай школы-студыі Ю. Пэна. Дарэчы, сам Аляксей Канстанцінавіч Глебаў роўна 80 гадоў таму быў выпускніком Віцебскага мастацкага тэхнікума...

А Мінскае дзяржаўнае мастацкае вучылішча сёлета выпраўляла ў самастойнае жыццё 65 сваіх выхаванцаў — маладых спецыялістаў у маляванні, скульптуры, графіцы, дэкаратыўна-прыкладной творчасці. Гэта быў знамянальны, шасцідзесяты яго выпуск, таму і вырашылі адзначыць яго асабліва. На прыступках музея студэнты наладзілі музычную імпрэзу, а ў вестыбюлі разгарнулася выстаўка лепшых дыпломных работ розных гадоў. Перад пачаткам віншавальнай цырымоніі дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў і дырэктар вучылішча Аляксандр Шантаровіч падпісалі афіцыйную дамову наконт супрацоўніцтва. Зрэшты, між гэтымі дзвюма ўстановамі даўно ўжо склаліся добрыя стасункі: навучэнцы “Глебаўкі” праходзяць у экспазіцыйных залах капіравальную практыку, а работы многіх яе выпускнікоў дэманструюцца тут на персанальных і калектыўных выстаўках, уваходзяць у “залаты фонд” музея. Прыгадайма, што дыпломы МДМВ у свой час далі пуцёўку ў вялікую творчасць Міхаілу Савіцкаму, Віктару Грамыку, Леаніду Шчамялёву, Арлену Кашкурэвічу, Маю Данцыгу, Льву Гумілеўскаму, Георгію Паплаўскаму, Васілю Шаранговічу, Івану Міско, Васілю Сумараву, многім іх калегам. Таму і цяпер гавораць пра дыпломы “Глебаўкі” як пра своеасаблівы знак якасці для кожнага выпускніка, сярод якіх ёсць пераможцы рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, стыпендыяты спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

Развагі, мудрыя парады, простыя і цёплыя словы віншавання, удзячнасць тым педагогам, якія падзялялі з юнымі творцамі іх радасці, падтрымлівалі, як родных дзяцей, у хвіліны расчаравання і адчаю; удзячнасць бацькам... З мноства эмацыйных нюансаў стваралася непаўторная атмасфера 60-й цырымоніі ганаравання выпускнікоў вучылішча. Дыпломы ім уручалі міністр культуры Беларусі Павел Латушка, вядомыя мастакі і педагогі Георгій Паплаўскі, Валерый Шкаруба, Уладзімір Зінкевіч, Фёдар Ястраб, Уладзімір Васюк, Уладзімір Голубеў, Уладзімір Слабодчыкаў... Усе прысутныя дзівіліся на майстэрства лепшых прадстаўнікоў новага пакалення.

“Мастацтва — не проста прадмет. Гэта перманентны стан чалавека: як экзэма... Але як рамяство без мастака — яшчэ не мастацтва, так і мастак без рамяства — не мастак: аднаго таленту мала, трэба ўсё жыццё ўпарта працаваць. А яшчэ — мець грамадзянскую адказнасць за тое, што робіце. Вы будзеце імкнуцца і ў Луўр, і ў Базель, і ў Дрэздэн, але — беражыце ўласныя традыцыі, беражыце нашу культуру і развівайце яе. Беражыце свае фотаздымкі: у нашага пакалення іх зусім няшмат, і гэта вельмі засмучае ўсіх, хто працуе зараз над стварэннем кнігі пра вучылішча. Беражыце гонар сваіх дыпломаў і — крочце далей!” — пажадаў глебаўцам народны мастак Беларусі Георгій Паплаўскі.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: жывапісныя работы дыпломніцы 2010 года Вольгі Шкарубы.

Фота Віктара Кавалёва



# Святыя зярняты народнай Куцці



Супрацоўнікі Гродзенскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці неяк распавялі займальную гісторыю. Калі ім спатрэбілася дакументальна зафіксаваць народны абрад Юр'я, які існуе ў вёсцы Ахонава, каб перадаць матэрыялы на камісію ў Нацыянальную Акадэмію навук Беларусі, жанчыны не захацелі пускаць на свае падворкі здымачную групу тэлебачання. Сапраўдны абрад не прадугледжваў удзелу ў ім чужых людзей. Жанчыны патлумачылі: абрады не любяць "лішняга вока", кожны чалавек выконвае тут сваю сакральную місію. Давялося чакаць і адпаведнай пары — Юр'я не магло быць інсцэніравана спецыяльна для паказу. Прыйшлі майскія дні, і абрад вяршыўся па законах нашых продкаў. Толькі тады фільм з усімі элементамі абраду быў запісаны.

Абрад цяпер прызнаны сапраўдным праваздзейным аб'ектам нематэрыяльнай духоўнай спадчыны. Сярод шэрагу іншых, якія існуюць у Беларусі. Балазе, святаў у народным календары мы маем багата на працягу ўсяго года. Але вось прыкмета: некаторыя з іх знікаюць, іншыя забываюцца, астатнія… нейкім незразумелым шляхам пранікаюць у сучаснае жыццё. Менавіта з клопатам пра захаванне такога элемента нематэрыяльнай спадчыны, як традыцыі і абрады каляндарных святаў, у Інстытуце павышэння кваліфікацыі і перападрыхтоўкі кадраў Міністэрства культуры Беларусі адбыўся семінар "Рэгіянальныя фальклорныя традыцыі каляндарных свят і абрадаў беларусаў і іх выкарыстанне ў сацыякультурнай дзейнасці".

У сённяшнім жыцці каляндарныя народныя святы з'яўляюцца традыцыяй не толькі сельскіх рэгіёнаў, яны ў многім урбанізаваныя. Але можна назваць і мноства лакальных святаў і абрадаў, якія маюць устойлівыя традыцыі ў сучасным культурным асяроддзі. Задача семінара — абмеркаваць, якія існуюць шляхі адаптацыі традыцыйных форм святаў у нашым жыцці. А менавіта — наколькі, прыходзячы з глыбіняў стагоддзяў у XXI век, каляндарныя святы могуць захоўваць сваю самабытнасць. У наш час існуе рэальная небяспека зрабіць нават такія святы надта камерцыялізаванымі — попыт на народную культуру ёсць, і часта да яе далучаюцца дзялкі, якія арганізуюць тэатралізаваныя відовішчы-шоу, і выхалошчваюць тыя элементы, якія з'яўляюцца карэннымі ў традыцыі. А менавіта яны фарміруюць ідэнтычнасць беларускай нацыі і ўяўленні пра нас, таму



што з'яўляюцца адметнымі менавіта і толькі ў нас. Так блытаецца жывая нітка, якая звязвае пакаленні. І вось ўжо некаму ўяўляецца, што Купалле — гэта абавязкова спальванне гумавага кола, каб паболей было дыму...

Іншая праблема: мы часам не задумваючыся бяром традыцыю, якая, скажам, бытуе на Гомельшчыне, і зусім не ўласцівая ў іншым рэгіёне. Альбо святкуецца па-іншаму, з новымі персанажамі і выказвае ўяўленні пэўнай часткі насельніцтва, але ні ў якім разе не ўсяго. Удзельнікі семінара прывялі цікавыя прыклады, якія сведчаць пра тое, як у іншых краінах народы шануюць сваю культуру. Да прыкладу, у Карэі людзі — карэнныя носьбіты традыцый — нават атрымліваюць дзяржаўную стыпендыю, і годна выконваюць сваю місію, перадаючы веды наступнікам.

У нас жа складанасць яшчэ ў тым, што шмат традыцый захоўваецца якраз у так званых неперспектыўных, маленькіх вёсачках, дзе ўсяго 10-12 дамоў.

"Страчаныя традыцыі святкавання цяжка адраджаць, асабліва цяжка для гарадоў. Я жыхарка вялікага горада, і натуральна, што была адарваная ад гэтых традыцый. І далучылася да іх стыхійна, — распавядае Ларыса МЯТЛЕЎСКАЯ, вядучы навуковы супрацоўнік Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Яна стварыла калекцыю рэканструкцый народных строяў. "Так, як разумела, — працягвае сваю думку Ларыса Лявонцьеўна. — На працягу трохчатырох год — зрабіла восем строяў канца XIX — пачатку XX стагоддзяў. Мне захацелася стварыць калекцыю па народных узорах, калекцыю абрадавых народных свят. Гэта сукенка першая — створана па матывах узораў з альбома Лявона Баразны. І называецца "На Купалле".

Ларыса Мятлеўская сама трапіла ў згуртаванні моладзі, якія цікавіліся народнай культурай, у канцы 1980-х: "І мы пачалі стыхійна абуджаць цікавасць да народных традыцый, культуры. Так хацелася вывучаць тое, што было да нас. Генетычная памяць пры маленькім штуршку — усплыла. Сярод моладзі былі і студэнты, і рабочыя, людзі розных узростаў, але ўсе раптам сталі сябрамі і самастойна па два-тры разы на тыдзень хадзілі на спеўкі вывучаць калядныя песні, гуканні вясны — вучылі цэлымі цыкламі! Абавязкова паралельна з гэтым у агульную канву ўпляталіся вывучэнні гульняў, карагодаў, танцаў. Прыходзіў і развучваў разам з моладдзю калядныя песні Віктар Скорабагатаў. Мы слухалі запісы аўтэнтычных спеваў і на слых вучылі палескія песні. Я з цэнтральнай Беларусі окала так, як на Палессі, прычым, старалася, каб не парушыць тое, што ёсць, што чулі. Калі трэба спяваць "Подай, Юр'я, ключы з неба", то і трэба спяваць подай, а не падай. Адначасова задумваліся і пра тое, як гучыць сучасная беларуская мова, вывучалі тарашкевіцу, каб вымаўленне



было мяккім. Вось народны каляндар настолькі зрабіўся блізкім, што той гістарычны час з'яднаў людзей. Гэтыя людзі раз'ехаліся па розных краінах свету. Многія з іх сталі навукоўцамі, выкладчыкамі. Цяпер шмат хто з іх выкладае ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў і вучыць новыя пакаленні граматна ставіцца да народных традыцый. Так атрымалася, што і я ў пачатку 1990-х з'ехала жыць у Вільню. І там набыла столькі ведаў, якія трапілі ў маю душу зернем, як з той Куцці. Гэта тыя святыя зярняты з кашы, якія выраслі пасля ў творчыя праекты і далі мне смеласць. Як кажуць, вочы баяцца, а рукі робяць. І ладзілі святы ў Вільні — Каляды, Купалле, калі даводзілася паказваць сваю этнічную прыналежнасць на сустрэчах з даволі высокімі людзьмі.

Памяняўся час і памяняліся падыходы да святаў. Розныя ўстановы, у іх ліку і музеі, ад таго, што трэба мець наведвальнікаў, і, значыць, да святаў неабходна прыцягнуць як мага больш людзей, ішлі па шляху самым простым: арганізуючы сустрэчы з нагоды асаблівых дзён народнага календара. Камусьці ўдавалася, іншым — не шанцавала. Але за кароткі перыяд было створана шмат культурна-адукацыйных праграм, максімальна прыбліжаных да святаў.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: фрагмент народнага святкавання; Ларыса Мятлеўская (злева) паказвае дзённік бабулі, куды яна запісвала галоўныя падзеі года; юныя прыгажуні прадстаўляюць традыцыйны ўкраінскі касцюм.

Фота аўтара і Ларысы Салодкінай

## У наступным нумары

У чарговай рубрыцы "Агледзіны" чытайце артыкул Евы Лявонавай "Каралева жывога слова і пакутлівай праўды", прысвечаны жыццю і творчасці вядомай польскай пісьменніцы Элізы Ажэшкі, якая нарадзілася і доўга жыла на беларускай зямлі (Гродна), шмат пісала менавіта пра беларусаў. Асабліва ўражвае яе раман "Над Нёманам" (1887), які, паводле эпічнай шматпланавасці, часта параўноўваюць з паэмай А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш". Вымагае нашай павагі і яе сяброўства з нашым нацыянальным класікам і бацькам беларускай мовы Францішкам Багушэвічам.

З глыбінкі

## Ля каралеўскага замка

Драгічынскі гурт паляўнічай музыкі "Бекас" прыняў удзел у штогадовай выставе-кірмашы "Прырода і паляванне", якая ладзілася ля каралеўскага замка Шамбор у Францыі. Беларусь была запрошана на выставу-кірмаш у якасці ганаровага госця. У склад дэлегацыі ўваходзілі прадстаўнікі нацыянальных паркаў «Белавежская пушча» і «Прыпяцкі», Рэспубліканскага дзяржаўна-грамадскага аб'яднання «Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў».

Гурт «Бекас» — адзіны калектыў у нашай краіне, які выконвае паляўнічую музыку. Шмат дзе давялося пабываць драгічынскім музыкам. Толькі на працягу апошняга года яны двойчы выступалі ў Польшчы. Так, летась у ліпені «Бекас» браў удзел у XXV фестывалі паляўнічай музыкі, што ладзіўся ў горадзе Тухола. У адной з намінацый конкурснай праграмы нашы землякі занялі трэцяе месца. У кастрычніку яны зноў трымалі шлях у суседнюю краіну. На гэты раз у горад Ляжайск, на XI міжнародны фестываль паляўнічых. Але аб тым, каб трапіць у Францыю, яны нават марыць не маглі.

Сведкамі дзівоснага дзейства сталі драгічынскія хлопцы. Паказальныя выступленні вершнікаў на конях з ганчакамі, паказ пародзістых сабак, вячэрні феерверк, хвалюючая мелодыя старадаўняга вальса, замак Шамбор, які з'яўляецца архітэктурным шэдэўрам эпохі Рэнесансу, — усё гэта было так падобна на казку!

…Сёння калектыў паляўнічай музыкі складаецца з трох узроставых груп. Малодшая называецца «Бекасікі», сярэдняя — "Бекасяты», а старэйшая, якая ў асноўным і гастралюе, — "Бекас". "Ражок больш цікавы інструмент, чым нават гітара, — сцвярджаюць яго ўдзельнікі. — Да таго ж, мы не толькі вучымся выконваць на ражку разнастайныя паляўнічыя сігналы, фанфары, маршы, але і выязджаем са сваім кіраўніком Мікалаем Шаўчуком на паляванне".

Летась, падчас правядзення рэспубліканскай выставы палявання і рыбалоўства, намеснік старшыні РД ГА "Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў" М. І. Свідзінскі ўручыў удзельнікам старэйшай групы калектыву нагрудныя знакі таварыства. Так быў адзначаны ўклад юных музыкантаў у развіццё паляўнічай справы.

Ніна ТКАЧУК

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"

РВУ "Літаратура і Мастацтва"





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск,
вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 2900
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 5.08.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 3168

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-4686